ББК 83.3
Бел 7 Р 59

Рэцэнзент І. У. С а л а н е в і ч, кандыдат філалагічных навук

Рагойша Вячаслаў

Напісана рукой Купалы: Арх. знаходкі.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1981,— 136 с.

45 к.

У аснову кнігі-эсэ пра народнага паэта Беларусі Янку Купалу пакладзены невядомыя раней факты з яго біяграфіі, пісьмы, выступленні, артыкулы, творы, якія не ўвайшлі ў Зборы твораў.

Разлічана на шырокае кола чытачоў.

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

Адшукаць малавядомае, а то і зусім невядомае з творчай спадчыны Янкі Купалы, паглыбіць наша ўяўленне і пра гэту спадчыну, і пра самога песняра — нялёгка і няпроста. Сёння, напярэдадні 100-годдзя з дня нараджэння народнага паэта Беларусі, здаецца, што ўсе архівы, усе прыжыццёвыя перыядычныя і неперыядычныя выданні перагледжаны, прычым шмат разоў, і ўсё, што можна было знайсці, знойдзена і апублікавана. І ўсё ж інтуіцыя падказвала: трэба шукаць. Інтуіцыю, прызнаюся, падтрымлівала жаданне паказаць, наколькі мы, літаратуразнаўцы, яшчэ недастаткова цікаўныя да свайго мінулага, колькі патрэбнага, але невядомага яшчэ сціпла чакае нас на архіўных і бібліятэчных паліцах. А можа, і не сціпла чакае, а крычма крычыць, ды мы таго крыку не чуем...

Усё, што склала гэту кніжку, адшуквалася і апісвалася не адразу. Тут жа артыкулы размясціліся не па часе іх напісання, а ў асноўным па храналогіі адшуканых купалаўскіх матэрыялаў. Усе яны, гэтыя матэрыялы (дарэчы, у кніжцы выдзеленыя асобным шрыфтом), у самым поўным, сямітомным «Зборы твораў» (1972-1976) Янкі Купалы адсутнічаюць. Адзінае выключэнне — ліст Купалы да Б. Тарашкевіча, публікацыю якога (1972) укладальнікі сямітомніка змаглі яшчэ ўлічыць.

У той час, калі кніга знаходзілася ў вытворчасці, выйшаў у свет укладзены Г. Кісялёвым грунтоўны зборнік дакументаў і матэрыялаў «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981)[1] У зборніку, са спасылкай на маю першапублікацыю, змешчаны і некаторыя купалаўскія тэксты, якія тут апісваюцца (аўтабіяграфія Янкі Купалы, лісты народнага паэта да М. Н. Накаракава і І. К. Лупала, выступленне песняра на Усесаюзным юбілейным лермантаўскім камітэце). Са свайго боку, я пастараўся ўлічыць — хаця б у каментарыях — тыя з адшуканых Г. Кісялёвым матэрыялаў, якія маюць да нашай гаворкі непасрэднае дачыненне. Тым больш, што гэтыя матэрыялы ўдакладняюць або ўскосна пацвярджаюць асобныя факты і вывады, выкладзеныя ў гэтай кнізе.

У архіўных пошуках у той ці іншай ступені мне дапамагалі супрацоўнікі Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва СССР і Цэнтральнага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва БССР, рукапісных аддзелаў Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага і Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна, Літаратурнага музея Янкі Купалы. Фотакопію аўтографа Янкі Купалы на кнізе, падараванай песняром кампазітару Л. Рагоўскаму, даслаў у свой час вроцлаўскі літаратуразнавец Т. Позняк. Усім ім — мая шчырая ўдзячнасць.

Аўтар

[1] Пуцявінамі Янкі Купалы/Укл. Г. Кісялёў,— Мн.: Навука і тэхніка, 1981.

## НАДПІС НА КНІЗЕ

Часамі здаецца, што аўтарскія надпісы на падараваных кнігах не маюць асаблівай каштоўнасці. Безумоўна, калі аўтограф выпадковы — скажам, на якой-небудзь сустрэчы з чытачамі пісьменнік «чыркануў» пару слоў на кнізе ў адказ на просьбу кагосьці з невядомых прыхільнікаў свайго таленту,— можна пагадзіцца з гэтым, ды і то не цалкам. Бо нават такія надпісы тое-сёе могуць удакладніць у біяграфіі мастака слова: дату сустрэчы, характар чытацкай аўдыторыі і г. д. Калі ж невядомы раней аўтограф да выпадковых аднесці нельга,— кароткі, усяго ў некалькі радкоў, надпіс можа выхапіць з небыцця асобныя істотныя моманты ў біяграфіі пісьменніка ці людзей, якія яго акружалі.

На такія развагі наводзяць і новыя, невядомыя раней даравальныя купалаўскія надпісы. Пра адзін з іх і хочацца зараз расказаць. Уласна, не толькі пра сам аўтограф, але і пра таго, каму ён адрасаваны. Пра час яго ўзнікнення. Пра абставіны, звязаныя з яго з'яўленнем.

Спачатку ж — некалькі слоў пра тое, як трапіў гэты аўтограф да мяне.

Відаць, пачаць трэба з тых памятных дзён 1972 года, калі ў Мінску, у памяшканні Беларускага дзяржаўнага унівсрсітэта імя У. І. Леніна праходзілі пасяджэнні Міжнароднай асацыяцыі выкладчыкаў рускай мовы і літаратуры (МАПРЯЛ). Менавіта тады давялося пазнаёміцца з двума славязнаўцамі з Польскай Народнай Рэспублікі — Базылём Белаказовічам і Тэлесфарам Пазнякам. Яны актыўна ўдзельнічалі ў працы МАПРЯЛА, жыва цікавіліся развіццём не толькі рускай, але і беларускай культуры і літаратуры. Гаворка паміж намі вялася на беларускай мове. Як пасля высветлілася, Белаказовіч нарадзіўся на Падляшшы, на мяжы з сучаснай Беларуссю, а Позняк — дык увогуле на Вілейшчыне, і толькі ў 1946 годзе хлапчук разам з бацькамі пераехаў у ПНР.

Завязалася перапіска. Я даволі рэгулярна пасылаў сваім польскім калегам навінкі беларускай літаратуры і літаратуразнаўства, ад іх атрымліваў польскія кнігі і часопісы, а таксама — з кожным годам усё часцей — іх уласныя працы, прысвечаныя творчасці асобных беларускіх пісьменнікаў, польска-беларускім літаратурным узаемаадносінам. Сёння Б. Белаказовіч і Т. Позняк — адны з самых вядомых і

паважаных беларусазнаўцаў. Іх імёны з удзячнасцю згадваюцца і на беларускай зямлі. Іх артыкулы і кнігі ведаюць і цэняць у нас[1].

Гадоў сем назад я атрымаў ліст ад Т. Позняка. У ім, сярод іншага,— паведамленне, што ў Вроцлаве, у бібліятэцы імя Асалінскіх захоўваецца экземпляр кнігі Янкі Купалы «Гусляр» (Пецярбург, 1910) з даравальным надпісам на польскай мове Л. Рагоўскаму. Прыводзіўся і тэкст надпісу:

Кампазітару п. Л. Рагоўскаму ў знак прызнання прац Яго, прысвечаных развіццю беларускага мастацтва. Дарую ад шчырага сэрца. Янка Купала. Пецярбург, 27/9 III/IV 1911 г.[2]

Т. Позняк выказаў здагадку, што гэты даравальны надпіс яшчэ невядомы купалазнаўцам, таму, наколькі зрабіць гэта па-за межамі Беларусі амаль немагчыма, прапанаваў мне расшукаць матэрыялы пра сувязь Л. Рагоўскага з Янкам Купалам і падрыхтаваць адпаведную публікацыю. Матэрыялы, якія можна было знайсці на той час, я адшукаў, напісаў невялікую нататку і за нашымі двума подпісамі апублікаваў яе ў «Немане»[3]. Пазней яна трапіла і на старонкі польскага часопіса «Slavia Orientalis»[4].

Аднак хто ж такі Л. М. Рагоўскі?

Звестак пра яго захавалася няшмат. Гісторыкі польскай музыкі цэняць яго як кампазітара і дырыжора, аўтара шасці опер, двух балетаў, сямі сімфоній, а таксама шматлікіх вакальных твораў.

Людамір Міхал Рагоўскі (3.X.1881 — 14.III.1954) нарадзіўся ў Любліне. Пасля заканчэння Варшаўскай кансерваторыі і творчай стажыроўкі ў шэрагу буйнейшых музычных цэнтраў таго часу (Вена, Рым, Парыж, Лейпцыг, Мюнхен) прыехаў у 1909 годзе на працу ў Вільню. Тут ён становіцца на чале сімфанічнага аркестра польскага музычнага таварыства «Лютня». Менавіта тут малады дырыжор знаёміцца з асобнымі дзеячамі беларускага грамадска-культурнага руху. Хутка да яго прыходзіць палкае захапленне беларускім народным меласам. Нягледзячы на неаднаразовыя папярэджанні і нават пагрозы эндэкаў і польскіх шавіністаў, Рагоўскі пачынае кіраваць хорам Віленскага музычна-драматычнага гуртка.

[1] Гл. у прыватнасці: Białokozowicz B. Z dziejów wzajemnych polsko-rosyjskich związków literackich w XIX wieku. Warszawa, 1971; Polska w poezji Radzieckej.— Przegląd Humanistyczny, J976, N 10; Oddziaływania i współtworzenie kultur: Antologia literatury białoruskiej XIX w.— Ibid., 1973, N 3; Słowiańskie i litewskie zwiąnzki literatury białoruskiej.— Ibid., 1973, N 5 etc. Pożniak T. («Народныя песняры»).— Slavia Orientalis, 1974, N 4; Kuźma Czorny i radziecka proza białoruska.— ZNWSP w Opolu, 1973, z. XI; Literatura białoruska w kręgu dwu rewolucji.— Slavia Orientalis, 1978, N 4; O radzieckiej poezji białoruskiej okresu wojny.— Acta Slawica Wratislawensia, 1977, z. XII; Janka Kupała.—Ruch Literacki, 1978, z. 4/5 etc.

[2] Бібліятэка імя Асалінскіх (Вроцлаў), інв. № 1972-К5492, шыфр. 467078 I.

[3] Позняк Т., Рагойша В. О чем напомнил автограф - Неман, 1975, № 9.

[4] Pożniak T., Rahojsza W. Janka Kupała i Ludomir Michał Rogowski.— Slavia Orientalis, 1976, N 1.

Звернемся да ўспамінаў адной з актыўнейшых тагачасных удзельніц беларускага грамадска-культурнага жыцця, першай віленскай выканаўцы ролі Паўлінкі ў аднайменнай камедыі Янкі Купалы Паўліны Віндэнтаўны Мядзёлкі. Думаецца, гэтыя ўспаміны, што ўвайшлі ў яе кнігу «Сцежкамі жыцця», як нельга лепш перадаюць агульную духоўную атмасферу таго часу, калі з'явіўся прыведзены вышэй аўтограф Янкі Купалы. Разам з тым яны малююць у нашым уяўленні і даволі яскравы вобраз самога Людаміра Міхала Рагоўскага.

«12 лютага 1910 года ў зале клуба чыгуначнікаў на Херсонскай вуліцы мелася адбыцца першая ў Вільні беларуская вечарына... Народу была такая працьма, што я ледзь праціснулася да свайго месца на правым балконе непадалёк ад сцэны. А безбілетная публіка ўжо запоўніла ўсё фае, усе праходы паміж крэсламі ў зале, тоўпілася на сходах, што вялі ў залу, а хто не здолеў уціснуцца ў будынак, натоўпам стаялі на вуліцы і пад вокнамі залы.

Трэці званок. Раскрываецца заслона. На сцэне, сярод дэкарацыі лесу, вялікі хор у беларускіх нацыянальных касцюмах. Дзяўчаты ў саматканых андараках, у вытканых нацыянальнымі ўзорамі белых кужэльных кашулях, рознакаляровых гарсэціках і вытканых такімі ж узорамі фартушках. Мужчыны ў белых з тонкай ваўнянай тканіны касцюмах: белыя нагавіцы запраўлены ў боты, верхняя белая вопратка, доўгая да каленяў, пашыта да стану, з чырвонымі выпускамі на каўнярах, кішэнях і па бартах, падпяразаныя чырвоным поясам, канцы якога звісаюць па баках, каўняры белых кашуль завязаны чырвонай жычкай. Асвечаны яркім святлом, хор выглядае надзвычай маляўніча сярод зелені дэкарацыі.

Выходзіць у чорным фраку кіраўнік хору кампазітар Рагоўскі. Узнімае рукі, і...

А хто там ідзе, а хто там ідзе
У вагромністай такой грамадзе?
— Беларусы.

Пры першых магутных урачыстых гуках гэтай песні, напісанай кампазітарам Рагоўскім на словы Янкі Купалы, песні, якой суджана было да 1917 года стаць амаль гімнам беларускага народа, уся зала затаіла дых.

А што яны нясуць на сваіх плячах,
На ў лапцях нагах, на ў крыві руках?[1]
— Сваю крыўду.

[1] Верш «А хто там ідзе?» падаецца ў першапачатковай рэдакцыі.

У зале пачуўся ўздых, адзін магутны ўздых з соцень грудзей... Здавалася, нават сцены ўздыхнулі.

А куды яны нясуць гэту крыўду ўсю,
А куды нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

Хтосьці ўсхліпнуў.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Пасля гэтай песні-гімна заслона закрылася...»[1]

Такая была сіла ўздзеяння на людзей велічнай музыкі Рагоўскага, што арганічна выявіла моц купалаўскага слова. Так ён сам даносіў гэту музыку да слухачоў.

Песню-гімн «А хто там ідзе?» у тым жа 1910 годзе рэдакцыя беларускай газеты «Наша піва» выдала асобнай лістоўкай. На ёй, побач з купалаўскім тэкстам рускімі і лацінскімі літарамі, месціліся ноты. Газетную аб'яву пра выхад гэтага своеасаблівага выдання прачытаў на Капры Максім Горкі. У верасні 1910 года ў лісце ў рэдакцыю «Нашай нівы» ён просіць выслаць яму, разам з некаторымі іншымі беларускімі кнігамі, «таксама песню Купалы «А хто там ідзе?» — з нотамі»[2]. Такім шляхам музычны твор Рагоўскага трапіў у рукі вялікага пралетарскага пісьменніка. Горкі, у сваю чаргу, перасылае лістоўку з «А хто там ідзе?» выдатнаму ўкраінскаму празаіку М. Кацюбінскаму. У лісце да яго ад 7 лістапада 1910 года ён паведамляе: «У кніжку маю ўложаны лісток — песня і ноты, нешта накшталт беларускага гімна, мабыць. Мяне гэта рэч усхвалявала»[3]. З гэтага ж «лістка» Максім Горкі перакладае верш Янкі Купалы на рускую мову і ўключае ў свой артыкул «Пра пісьменнікаў-самавукаў»[4].

З песні-гімна «А хто там ідзе?» на словы Янкі Купалы і пачынаецца, уласна кажучы, сувязь Рагоўскага з беларускай музычнай культурай. Кампазітар ездзіць па Беларусі, збірае і апрацоўвае мелодыі народных песень. На аснове гэтых мелодый піша арыгінальны твор для сімфанічнага аркестра — «Беларускую сюіту» (1910), з захапленнем успрынятую віленскімі слухачамі. У 1911 годзе частка беларускіх народных песень, сабраных і гарманізаваных для хору Рагоўскім («Чаму ж мне не пець», «Ах ты дуй», «Горак, горак палын», «Прыляцелі гусі», «За гарамі, за лясамі», «Ой доля, ой нядоля»), увайшла ў выда-

---

[1] Мядзёлка Паўліна. Сцежкамі жыцця.— Мн.: Маст, літаратура, 1974, с. 24-26.
[2] Максім Горкі і Беларусь —Мн.: Беларусь, 1968, с. 8.
[3] Там жа.
[4] Современный мир, 1911, № 2, с. 208.

дзены кампазітарам «Беларускі спеўнік з нотамі для народных і школьных хораў». Гэты спеўнік (дарэчы, у 1918 годзе ў Вільні выйшла яго другое выданне) больш дзесяці гадоў з'яўляўся адзіным дапаможнікам для беларускіх гурткоў мастацкай самадзейнасці. Кніжка пачынаецца ўступам яго складальніка «Некалькі слоў пра нотныя знакі і заўвагі для рэгента», дзе расказваецца пра элементы музычнай граматы, даюцца парады дырыжорам і г. д. Апрача народных песень, аранжыраваных Рагоўскім, у выданне ўвайшла беларуская народная песня «Ой пайду я лугам, лугам» у апрацоўцы вядомага літоўскага кампазітара Станіслава Шымкуса, а таксама арыгінальная песня самога Рагоўскага на словы Каруся Каганца.

Усё гэта, разам узятае, несумненна, і меў на ўвазе Янка Купала, калі адзначаў у сваім даравальным надпісе заслугі Рагоўскага ў развіцці беларускага мастацтва.

Да сказанага хочацца дадаць вось што.

Невядомыя дагэтуль купалаўскія словы — неаспрэчнае сведчанне пецярбургскай сустрэчы польскага кампазітара і дырыжора з Янкам Купалам, сустрэчы, якую яшчэ ніхто нідзе не адзначыў. У прыватнасці, Зянон Пазняк, аўтар цікавага і адзінага пакуль што ў беларускім друку артыкула пра Рагоўскага, піша: «Апошні раз кампазітар кіраваў ім (Віленскім беларускім хорам.— В. Р.) 6 лютага 1911 года... Потым ён пакінуў Вільню назаўсёды і выехаў у Парыж»[1]. Дата пад даравальным надпісам (27 сакавіка 1911 года) паказвае, што перад выездам у Парыж Рагоўскі наведаў Пецярбург (магчыма, па справах, звязаных якраз з выездам за мяжу). Сам змест надпісу гаворыць пра блізкія адносіны, асабістае знаёмства прадстаўнікоў культур двух народаў-суседзяў. Зусім магчыма, што яны пазнаёміліся яшчэ ў 1909 годзе ў Вільні перад выездам Купалы ў Пецярбург, дзе паэт стала пражыў ледзь не чатыры гады. Аднак што ўжо да самога знаёмства, то можна пэўна сказаць: было яно не выпадковым, раз польскі кампазітар, назаўсёды выязджаючы з Расіі, адчуў патрэбу развітацца з Купалам, і раз Купала пад час гэтай сустрэчы-развітання выказаў у цёплых словах падзяку Рагоўскаму не толькі ад сябе асабіста, але і ад усіх удзячных беларусаў.

Які далейшы лёс Л. М. Рагоўскага?

Як дырыжор, ен выступаў у многіх еўрапейскіх сталіцах. У 1926 годзе паставіў у Варшаве балет «Купала», заснаваны па матывах славянскага фальклору. З таго часу жыў і працаваў у Дуброўніку (Югаславія), дзе і пахаваны.

---

[1] Маладосць, 1973, № 3, с. 153.

## ЛІСТ ДА «ДЗЯДЗЬКІ ТАРАСА»

Лета 1913 года было надта плённым для Янкі Купалы. Прыемнымі ўспамінамі адзываліся ў памяці гасцінны Пецярбург, курсы Чарняева, шумныя студэнцкія сходкі, неспакойнае гарадское жыццё. Нарэшце, у матчыных Акопах, на ўлонні роднай прыроды, можна ўволю памарыць, папісаць. Народныя песні і казкі, якія не толькі чуў з народных вуснаў, але і вычытваў у зборніках Шэйна, Раманава, Дабравольскага... Гутаркі з роднымі, сваякамі, ваколічнымі сялянамі... Яны «падзараджалі» пісьменніцкую ўяву, давалі новыя тэмы для твораў, стваралі тую атмасферу адначасовага ўздыму думкі і пачуцця, што называецца натхненнем. Надта падабаліся беларускія песні ў выкананні Уладзі Станкевічанкі, будучай жонкі Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, якая прыехала на лета да свайго брата ў суседнюю вёсачку...

Мы ведаем Болдзінскую восень Пушкіна. У Купалы было не менш плённае «акопаўскае лета» 1913 года. За адно толькі гэтае лета Купала напісаў (або дапісаў) паэмы «Яна і я», «Магіла льва», «Бандароўна», драму «Раскіданае гняздо», вадэвіль «Прымакі», шэраг вершаў. Сапраўды цудадзейны час! Але надыходзіла восень. Адпачынак (?!) канчаўся. Трэба было недзе ўладкоўвацца на працу. Прываблівае Вільня, дзе выдаецца «Наша ніва», дзе 1 ліпеня 1913 года ўзнікла «Беларускае выдавецкае таварыства».

Звестак пра жыццё Купалы ў Вільні ў канцы 1913 года захавалася вельмі мала. У самай пакуль што поўнай і падрабязнай біяграфіі паэта — кнізе Я. Шарахоўскага «Пясняр народных дум» — толькі адным, ды і то ўскосным, фактам даказваецца праца Купалы ў «Беларускім выдавецкім таварыстве»: «Аб тым, што ўжо ў лістападзе 1913 года Купала працаваў у гэтым выдавецтве, ускосна сведчыць той факт, што верш «А ты, сіраціна, жыві», датаваны 6 лістапада 1913 г., быў напісаны паэтам на бланку гэтага таварыства»[1]. Залішне рызыкоўная здагадка, ці не так? Рызыкоўная, аднак, як мы пераконваемся, слушная.

У Цэнтральным Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР захоўваецца цікавы ў гэтым сэнсе ліст Янкі Купалы. Напісаны, як і верш «А ты, сіраціна, жыві», на бланку «Беларускага выдавецкага таварыства», ён не толькі дае падставы катэгарычна заяўляць пра ўдзел Купалы ў працы гэтага Таварыства, але і называе пасаду, якую займаў у ім аўтар «Жалейкі». Ліст адрасаваны вядомаму дзеячу беларускай культуры Браніславу Тарашкевічу, пра што сведчыць надпіс на канверце: «Яго міласці Клавдію Степан. Душевскому. С-Петербург,

[1] Шарахоўскі Янка. Пясняр народных дум.— Мн.: Навука і тэхніка, 1970, с. 128.

В. О., 14-я линия, д. 21, кв. 16. З просьбай перадаць дзядзьку Б. Тарашкевічу». Вось гэты ліст цалкам:

Дзядзька Тарас!

Што чуваць у Вас з беларускай граматыкай? Ці што-небудзь зрабілі ў гэтым напрамку? Калі маеце ўжо яе нарыс, то будзьце ласкавы прысылаць нам яго, калі не, то будзьце такімі добрынькімі і спрытнымі ды як хутчэй гэта зрабіце. Просіць аб гэта Вас п. Іваноўскі, старшыня Беларускага Выдавецкага Таварыства ў Вільні. Граматыку Вашу хоча Таварысгва выдаць і пусціць у свет у «назіданіе» маладому бел[арускаму] пакаленню. Дык варушыцеся, дзядзька, і у шапку не спіце. Чакаем хуткага ад Вас адказу. Шчыра Вам адданы

Сакратар Выдавецтва Ів. Луцэвіч.
Вільня, 4.XI. 1913 г.[1]

Такім чынам, пісьмо неабвержна сведчыць, што Янка Купала восенню 1913 года працаваў у «Беларускім выдавецкім таварыстве», працаваў на клопатнай і адказнай пасадзе сакратара выдавецтва. Ужо аднаго гэтага было б дастаткова, каб звярнуць увагу на невядомы аўтограф Купалы. Аднак жа радкі пісьма вядуць і да яго адрасата...

У канцы трэцяга сшытка альманаха «Маладая Беларусь», што выйшаў у Пецярбурзе ў канцы 1913 года, змяшчаліся, як звычайна ў тагачасных выданнях, шматлікія аб'явы. Адна з іх, вылучаная шрыфтом, асабліва кідалася ў вочы: «Беларускае Выдавецкае Таварыства ў Вільні, прыступаючы да выдавецкай працы, паведамляе ўсіх, каму дорага справа беларускага адраджэння, аб тым, што Таварыства ставіць сабе ў першы чарод выпускаць па сіле магчымасці такія кнігі: ... *Граматыку беларускую* (курсіў мой.— В. Р.), Геаграфію, Слоўнікі, Арыфметыку, Кнігі для навучання ў школах, Кнігі папулярныя аб гаспадарцы і розныя другія. Выдавецтва звяртаецца з просьбай да шаноўных пісьменнікаў прыслаць як можна хутчэй свае рукапісы вышэй азначаных кніжак. Адрас: Вільня, Каштанавая № 5, кв. 4. Беларускае Выдавецкае Таварыства».

---

[1] Цэнтральны дзярж-аўны архіў-музей літаратуры і мастацтва БССР, ф. 3, адз. зах. 263, арк. 84. Дата на аўтографе напісана невыразна. У маёй першапублікацыі гэтага ліста (Народныя песняры.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1972, с. 254) была паказана іншая дата: 4.IX.1913 года. Аднак за тое, што ліст быў напісаны не ў верасні, а ў лістападзе, гавораць наступныя два факты: згодна адзнакі ў пашпарце, у Вільні Янка Купала прапісаўся — пасля звароту з Пецярбурга — толькі 8.X.1913 года (Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 49); 4.IX.1913 года паэт яшчэ быў у Акопах, пра што сведчыць яго паметка на асобным выданні «Раскіданага гнязда» (Вільня, 1919): Акопы, 4.IX.1913 года. На неабходнасць больш дакладнага датавання ліста Купалы звярнуў увагу І. У. Саламевіч.

Заўважым, што дата пісьма Купалы да Тарашкевіча і час публікацыі аб'явы супадаюць. Не выключана, што і аб'яву напісаў не хто іншы, як Купала,— па тым жа абавязку сакратара выдавецтва. Але хочацца звярнуць увагу на іншае. І аб'ява, і пісьмо праліваюць дадатковае святло на гісторыю стварэння першай навуковай граматыкі беларускай мовы.

Прыгадаем: яшчэ Францішак Багушэвіч марыў пра выданне граматыкі і слоўніка роднай мовы, сам збіраў лексічны матэрыял для слоўніка. Асаблівая ж патрэба ў адзіным, навукова абгрунтаваным беларускім правапісе з'явілася на пачатку XX стагоддзя, калі сталі выдавацца нацыянальныя газеты і часопісы, узнік шэраг кніжных выдавецтваў.

1906 год. Цётка ў пісьме з Львова пытаецца ў беларускага дзеяча Б. Эпімах-Шыпілы: «Я хачу даведацца ад Вас, што чутно з букваром, ці ўжо гатоў, ці ў нас будзе фанетыка наша беларуская. Гэта вельмі важна, бо буду цяпер выдаваць папулярныя рэчы для народа, дык не ведаю, як чаго трымацца»[1].

1910 год. Максім Горкі, жадаючы чытаць творы беларускіх пісьменнікаў у арыгінале, звяртаецца ў рэдакцыю «Нашай нівы» з просьбай. «Я атрымаў пасланыя вамі кнігі і газету — вельмі крануты вашай ласкавасцю і сардэчна дзякую вам! Вельмі прашу Вас: вышліце мне, калі гэта вам не цяжка,— Слоўнік Насовіча, Граматыку беларускай мовы...»[2]. На вялікі жаль, выканаць просьбу Горкага беларусы так і не змаглі. Граматыкі беларускай мовы ў той час увогуле яшчэ не існавала. Ці ж таму не пякло пачуццё «нацыянальнага сораму» (К. Маркс) лепшых дзеячаў беларускай культуры? Ці не клікала яно да пэўных высілкаў?

Вырашыць задачу выключнай важнасці ўзяўся студэнт гісторыка-філалагічнага факультэта Пецярбургскага універсітэта, будучы вядомы культурны і палітычны дзеяч, арганізатар «Беларускай рабоча-сялянскай грамады» Браніслаў Тарашкевіч. Гэта ў выніку яго працы выйшла ў Вільні ў 1918 годзе першая ў гісторыі «Беларуская граматыка для школ». Аднак і сёння невядома, калі Тарашкевіч пачаў працаваць над падручнікам. Той-сёй з біёграфаў толькі канстатуе факт, што «пра студэнцкія гады і пра першыя крокі навуковай дзейнасці Браніслава Тарашкевіча вядома вельмі мала»[3]. Некаторыя ж называюць занадта позняю дату — 1916 год[4]. Пісьмо Купалы да

[1] Цётка. Творы.— Мн.: Маст, літаратура, 1976, с. 274.
[2] Максім Горкі і Беларусь, с. 8.
[3] Клейн Б. Старонкі палымянага жыцця.— Полымя, 1963, № 10, с. 141.
[4] Ліс А. Браніслаў Тарашкевіч.— Мн.: Навука і тэхніка, 1966, с. 20.

Тарашкевіча, датаванае 1913 годам, дазваляе, як бачым, гэтую дату істотна ўдакладніць, «амаладзіць»...

Адкуль жа Купала мог даведацца пра навуковыя планы «дзядзькі Тараса» (так родныя і сябры жартам называлі Тарашкевіча)? Прыехаўшы ў канцы 1909 года ў Псцярбург, паэт пасяліўся на кватэры ў прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы. Калі ж у 1911 годзе арганізаваўся Беларускі навукова-літаратурны гурток студэнтаў Пецярбургскага універсітэта, то гурткоўцы (а сярод іх быў і Тарашкевіч) пачалі па суботах збірацца (спачатку нелегальна, а пасля і адкрыта) у свайго паважанага прафесара. Гаварылі пра долю роднага народа, яго гісторыю, культуру, мову. Аднойчы (у 1912 годзе) студэнт Б. Тарашкевіч выступіў з дакладам пра фанетычную транскрыпцыю беларускіх твораў — гаварыў, па сутнасці, пра беларускі правапіс. І ці не тады прыйшла да галавы думка заняцца, стала і сур'ёзна, навуковай распрацоўкай правіл беларускай граматыкі?

Можна не сумнявацца, што ідэю гэту адразу ж горача падтрымаў Янка Купала, які звычайна прысутнічаў на пасяджэннях гуртка. Купала, які ведаў пра клопаты Цёткі, блізка да сэрца прыняў просьбу Максіма Горкага. Купала, які, турбуючыся пра хутчэйшае развіццё роднага пісьменства, будзе неўзабаве настойліва падганяць маладога вучонага: «Варушыцеся, дзядзька!..»

## ХТО Ж ТАКІ ГАГАЛІНСКІ?

З гадамі ў мяне, як і ў многіх іншых літаратуразнаўцаў, выпрацаваўся своеасаблівы пошукавы рэфлекс. З якімі б мэтамі ні трапіў у той або іншы архіў ці бібліятэку, адразу імкнуся высветліць: а ці няма там матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю выдатнейшых майстроў беларускай літаратуры, перш за ўсё класікаў роднага пісьменства?

Так было і ў той красавіцкі дзень 1976 года, калі ў чытальную залу Навуковай бібліятэкі Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта імя Ламаносава прынеслі па маёй просьбе томік вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця», выдадзены ў Пецярбурзе ў 1913 годзе. І якое ж было маё здзіўленне, калі на тытульным лісце я ўбачыў старанна выведзены рукой самога аўтара кнігі даравальны надпіс:

Даражэнькаму і міленькаму А. Гагалінскаму на добры ўспамін міла і браточна праведзеных у Піцеры чатырох год спольнага жыцця і спольных нягод. Ад гаротнага аўтара Я. Купалы. Спб., 2/XII-13 г.

На адвароце тытульнага ліста, тым жа чорным чарнілам, той жа рукой,— першая страфа з верша паэта «А ты, сіраціна, жыві», які быў напісаны месяц перад тым, 6 лістапада 1913 года:

А ты, сіраціна, жыві,
Як ветрам лісток адарваны,—
Ні мейсца табе на зямлі,
Ні радасці з песень жаданай!

Я. Купала

Адразу ж узнікла пытанне: хто ж такі А. Гагалінскі, з якім Купала душа ў душу пражыў нялёгкія чатыры пецярбургскія гады? З біяграфічных крыніц добра вядома, што па запрашэнню прафесара Б. І. Эпімах-Шыпілы беларускі паэт у канцы 1909 года прыехаў у Пецярбург і пражыў там ледзь не да канца 1913 года. У тагачаснай расійскай сталіцы Купала працаваў і адначасова вучыўся на чарняеўскіх агульнаадукацыйных курсах для дарослых, пісаў вершы і драматычныя творы, вытдаў два вершаваныя зборнікі — «Гусляр» (1910) і «Шляхам жыцця» (1913), пазнаёміўся з многімі цікавымі людзьмі. Аднак ніводная з біяграфій песняра не ўпамінае сярод яго знаёмых імя А. Гагалінскага.

Той раз, у Маскве, я так і не змог нічога даведацца пра пецярбургскага знаёмага (магчыма, нават сябра) Купалы. Не дапамаглі істотна і роспыты даследчыкаў, якія добра ведаюць пецярбургскі перыяд жыцця пісьменніка, яго тагачаснае акружэнне. Пачаў учытвацца ва ўспаміны пра Купалу. І вось, перачытваючы мемуары Паўліны Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця», у апісанні кватэры прафесара Шыпілы, дзе часта збіраліся прагрэсіўна настроеныя беларускія студэнты, сустракаю так неабходную мне дэталь: у адным з пакояў «жылі Янка Купала і пляменнік прафесара Гагалімскі». Прозвішча Гагалінскага Мядзёлка перадае крыху іначай, праз «м», але гэта, безумоўна, той, каму адрасаваны надпіс на падараванай кніжцы!

З успамінаў П. Мядзёлкі пра Гагалінскага даведваемся толькі, што ён быў у той час студэнтам (універсітэта? інстытута?), удзельнічаў у пастаноўцы славутай «Паўлінкі» (у масавых сцэнахі). Пакінула нам аўтарка мемуараў і адну вельмі каларытную бытавую замалёўку. Вось эпізод з жыцця двух таварышаў, падгледжаны калісь П. Мядзёлкай: «З кухні далятаў гоман: прытворна-сярдзітая жаночая лаянка і гарэзлівы смех хлапцоў. Праз хвіліну выбягаюць з кухні Купала і пляменнік прафесара, Гагалімскі з талеркай, відэльцамі і нажамі ў руках, а за імі ўздагон Пясецкая, гаспадыня прафесара, сцябаючы іх ручніком, скручаным у круцель. Хлопцы ўцякаюць, яна ганяецца за імі вакол

стала... Стаміўшыся, спыняецца Пясецкая і пачынае нам скардзіцца на сваіх дуронікаў-памочнікаў»[1].

Аднак, відавочна, далёка не заўсёды было так міла і весела, як пра гэта апавядае П. Мядзёлка. У сумесным жыцці Купалы і Гагалінскага больш, чым радасцей, сустракалася «спольных нягод». Менавіта так прачытваецца надпіс на кнізе. Упаўне магчыма, што пляменнік прафесара застаўся сіратой і знайшоў у дзядзькі часовае прыстанішча. У супрацьлеглым выпадку як вытлумачыць з'яўленне на кнізе першых чатырох радкоў з верша «...А ты, сіраціна, жыві»?

Сумесна пражытыя гады помніліся доўга. У лісце да Б. І. Эпімах-Шыпілы ад 28 верасня 1915 года, пасланым з Масквы — часовага прытулку Купалы падчас першай сусветнай вайны, — паэт не забывае перадаць паклон і Гагалінскаму[2]. А роўна праз год ён піша з Полацка свайму быламу мецэнату: «Нядаўна былі ў нас п. п. Гагалінскія. Вельмі былі ім рады, аб пану прафесару гутарылі. Яны пыталіся, ці не паедзе ад нас хто ў Петраград, каб пасылку ад іх пану прафесару завезці. Мы абяцалі, як толькі будзе магчымасць, споўніць іх просьбу» (7, 450). Відаць, да таго часу Гагалінскі, як і Купала, быў ужо жанаты і наведаў сям'ю прыяцеля разам з жонкаю. Так можна зразумець выраз «п. п. Гагалінскія...».

Новых згадак імя Гагалінскага ні ў лістах Купалы (нават у паслярэвалюцыйных лістах да таго ж Эпімах-Шыпілы), ні ў іншых матэрыялах адшукаць не ўдалося. Зусім магчыма, што жыццё яго, як і многіх іншых маладых людзей, абарвалася на палях бітваў першай сусветнай ці грамадзянскай войн. Больш мы пакуль нічога не ведаем пра Гагалінскага, пецярбургскага таварыша паэта, як, зрэшты, і пра тое, як яго кніга трапіла ў бібліятэку Маскоўскага універсітэта.

Нечакана для мяне ў гэтым раздзеле з'явіўся эпілог. Зусім як у некаторых мастацкіх творах.

Праўда, эпілог напісаў не я, а чалавек, які ведае многае пра А. Гагалінскага, больш таго — знаходзіцца з ім у сваяўстве: Анатоль Іванавіч Дашкевіч.

Прачытаўшы ў «Немане» маю публікацыю «Хто ж такі Гагалінскі?»[3], сённяшні жыхар Мінска, рэдактар аднаго з выдавецтваў А. Дашкевіч зразумеў, што гутарка ідзе пра яго роднага дзядзьку па маці, Антона Іванавіча Гагалінскага. У газеце «Літаратура і мастацтва»

---

[1] Мядзёлка Паўліна. Сцежкамі жыцця, с. 56-57.
[2] Купала Янка. Збор твораў: у 7-мі т. — Мн.: Навука і тэхніка, 1976, с. 449. (Далей пасля цытат з Купалы лічбамі паказваецца том і старонка гэтага выдання.)
[3] Рагойша Вячеслав. Написано рукой Купалы...— Неман, 1977, № 8.

ён змясціў артыкул «Пра тое, што дарага»[1] — расказ пра тры пакаленні свайго роду, які ў першым калене меў непасрэдную сваяцкую сувязь з Б. Эпімах-Шыпілам: бабка А. Дашкевіча Валерыя Ігнатаўна была роднай сястрой Браніслава Ігнатавіча.

Пасля з'яўлення артыкула А. Дашкевіча я, рыхтуючы гэтую кніжку да выдання, мог бы свой допіс лёгка перапрацаваць: удакладніць, дапоўніць. Аднак не стаў гэтага рабіць. Бо сам працэс пошуку невядомага матэрыялу, характар вытлумачэння знойдзеных фактаў, літаратуразнаўчыя гіпотэзы, здагадкі — хіба ўжо гэта само па сабе не выклікае цікавасць, не прыносіць пэўную карысць навуцы? Тым больш што мае здагадкі істотна не разышліся з тым, што паведаміў у сваім артыкуле пляменнік А. Гагалінскага.

Дык хто ж такі Гагалінскі?

Адзін з васьмярых дзяцей вялікай сям'і Валерыі і Івана Гагалінскіх, якія жылі на Полаччыне, на хутары Залессе, падараваным ім шчодрым Эпімах-Шыпілам. Студэнт Пецярбургскага універсітэта, якога дзядзька, разам з братам Ігнатам і сястрой Соф'яй, прытуліў у сябе на кватэры. А прытуліў таму, што летам 1910 года на хутары ўзнік пажар, агонь спапяліў хату, усе набыткі сям'і, і дзяцей раздалі па сваяках (адсюль — матыў сіроцтва ў даравальным надпісу Янкі Купалы). Праўда, з дапамогай Эпімах-Шыпілы хату праз некалькі гадоў адбудавалі, і незадоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі сям'я Гагалінскіх змагла зноў сабрацца ў Залессі (таму, зразумела, я памыліўся, калі дапусціў, што ў лісце Купалы да Эпімах-Шыпілы ад 26 верасня 1916 года гутарка ідзе пра Антона Гагалінскага; «аб пану прафесару» гутарку вёў паэт не з ім, а з яго бацькамі).

У другой палове 20-х гадоў Антон Гагалінскі жыў у свайго дзядзькі ў Мінску, калі той працаваў у Інбелкульце. Пасля ж... Аднак давайце дадзім слова аўтару сямейнага радавода. «Антон Гагалінскі,— заканчвае жыццёпіс свайго дзядзькі А. Дашкевіч,— да вайны працаваў галоўным бухгалтарам на Маклакоўскім лесазаводзе ў Краснаярскім краі, там ажаніўся. У 1943 годзе ў саставе Сібірскай дывізіі ўдзельнічаў у баях пад Масквой, быў цяжка паранены і памёр у эвакуацыйным шпіталі»[2].

---

[1] Дашкевіч Анатоль. Пра тое, што дарага.— Літ. і мастацтва, 1978, 14 ліп.

[2] Там жа.

## У ВОЛЬНУЮ І ДУМНУЮ ХВІЛІНУ

Пераднавагодні нумар «Нашай нівы» за 1913 год прынёс чытачам неспадзяванку. Ці то так супала, ці супрацоўнікі газеты прынялі ў разлік святочныя навагоднія і калядныя вечары,— гэтую прадушыну ў скупым на вольныя хвіліны сялянскім жыцці,— аднак на чацвёртай старонцы, побач з рознымі аб'явамі і жартамі, тлустымі літарамі было набрана: **Шарада № 1**. Пад назвай, якая сама па сабе для чытачоў газеты была па тым часе, бадай, ці зразумелай, ішоў тэкст:

Гэй ты, першая мая
Мы адно з табою;
Хоць ты літара ўсяго,
Дый мая ж затое.

Тая трэцяя, а з ёй
І другая з чыну
Прыгадзіцца мне на стол
І на дамавіну.

А усё як прыйдзе к нам —
Важна загуляем:
Пусцім чарачкі у ход,
Песню заспяваем.

Адразу ж за шарадай мясцілася рэдакцыйная прыпіска: «Хто прышле вершам найлепшую адгадку, той атрымае кніжку Янкі Купалы «Шляхам жыцця». А каторыя прышлюць так разгадкі, між тымі будуць разыграны тры кніжкі «Гісторыі Беларусі». Адгадкі будуць прынятыя пад увагу, прысланыя не пазней 15 студзеня 1914 года».

Паразважаць, «памазоліць галоўку» доўгімі зімовымі вечарамі, безумоўна, было над чым...

І ўсё ж чытачы, нспрактыкаваныя ў разгадванні такога тыпу загадак, відаць, адразу не знайшлі патрэбнага «ключа». Прынамсі ў «Нашай ніве» за 17 студзеня 1914 года не было названа ніводнага прозвішча «разгадчыка». Тым не менш газета друкавала **Шараду № 2**:

Эх, памыйся, мой дружок,
Мылам ды вадою,
А так складна, як у нас
Першае — другое.

А калі ты ўжо другі

І чацвёрты ўдаўся,
Вось чаго, замест бліна,
Ты дапамінайся.

Гамані: давайце мне
Чацвёртае з раду
І трэцяе побач з ім,
Бо не будзе складу.

Ну, а ўсё — кругом цябе
І ты з імі разам,
Ажно цешыцца душа
Адным гэтым сказам.

Тут жа публікавалася разгадка папярэдняй шарады: Ка-ля-ды. «Ключ» быў дадзены. Рэдакцыя спадзявалася на актыўнасць чытачоў, і спадзяванні яе спраўдзіліся...

Аднак пара назваць і аўтара шарад. Ім быў Янка Купала.

Як вядома з папярэдніх артыкулаў, увосень 1913 года Янка Купала пасля чатырохгадовай адсутнасці зноў прыязджае ў Вільню — гэты шматнацыянальны горад, які здаўна з'яўляўся цэнтрам не толькі літоўцаў, палякаў, рускіх, але і беларусаў. Папрацаваўшы крыху сакратаром у «Беларускім выдавецкім таварыстве», ён пераходзіць у «Нашу ніву», пачынае фактычна (хоць яшчэ не юрыдычна) выконваць усе абавязкі яе рэдактара.

Янка Купала клапаціўся пра пашырэнне жанравых рамак перыядычнага выдання. Пры ім «Наша ніва» завяла асобны куток сатыры і гумару, у якім друкаваліся беларускія жарты і — пад агульным загалоўкам «У мутным віры» — востра сацыяльныя байкі паэта. Да іх крыху пазней далучыліся і шарады.

Дзесяты нумар «Нашай нівы» за 7 сакавіка 1914 года, дзе публікавалася **Шарада № 3**, стаўтым памятным нумарам, які ўпершыню падпісаў Янка Купала як рэдактар газеты (выдавец-рэдактар А. Уласаў з гэтага часу заставаўся толькі выдаўцом; афіцыйным рэдактарам-выдаўцом Янка Купала стаў 8 мая 1914 года.) Гэты факт не толькі дазваляе, але і вымушае больш падрабязна спыніцца на некаторых падпісаных паэтам да друку матэрыялах, якія стаялі ў газеце побач з новай вершаванай шарадай і адказам на папярэднюю (Бе-ла-ру-сы).

На першай старонцы газеты пачынаўся артыкул Лемеша «Аб хутарах». Як вядома, царскі міністр Сталыпін, напалоханы выступленнем сялянства ў рэвалюцыі 1905-1907 гадоў, рассяленнем вёсак на

хутары імкнуўся прыдушыць рэвалюцыйную актыўнасць народа: вясковае насельніцтва раз'ядноўвалася, а гэтым самым раз'ядноўваўся, слабеў патэнцыяльны праціўнік царскага самаўладства. Сталыпінская прапаганда на ўсе лады расхвальвала перавагі хутарскога жыцця: зручныя прыродныя ўмовы, вольны выпас жывёлы і г. д. Большасць супрацоўнікаў і чытачоў «Нашай нівы» не падзяляла такіх поглядаў на хутары. Так, селянін Зрэбны ў артыкуле «Аб выхадзе на хутары»[1] даволі доказна абгрунтаваў думку, што хутарызацыя — адно разарэнне для сялян-беднякоў. І калі праз некалькі нумароў[2] нехта Д. Д-ч, не маючы контраргументаў, паспрабаваў галаслоўна запярэчыць Зрэбнаму, газета змясціла грунтоўны артыкул Лемеша, які з'явіўся адказам на выступленне гэтага Д. Д-ча.

Лемеш не пабаяўся адкрыта заявіць: «Такое рассяленне на хутары, якое зараз вядзецца,— гэта зарэз усім сялянам». Ён пытаўся: «Які можа быць гаспадар на 1-1,5 дзесяцінах зямлі?» — і тут жа даваў адказ: «Каб гаспадарыць менш-больш парадачна, не паміраючы з голаду, трэба мець у нас на Беларусі прынамсі 10 дзесяцін... Тым часам нашы хутаране па большай часці дастаюць на сям'ю па 5 дзесяцін, і гэткі пераход на хутары, паўтараю, зарэз сялянам». Артыкул канчаўся вывадам, абгрунтаваным, прарочым: «Цяперашні пераход на хутары выб'е тысячы людзей з зямлі і кіне на гарадскі брук ды ў батракі, а гэта невясёлая будучыня нікога хіба не цешыць...»

Янка Купала сам паспытаў горкага хлеба дробнага арандатара. Ён, безумоўна, поўнасцю салідарызаваўся з думкамі Лемеша, калі бласлаўляў яго артыкул у свет сваёй рэдактарскай уладай.

Чацвёртая старонка газеты была, як звычайна, аддадзена розным інфармацыйным паведамленням. Цікава глянуць на матэрыялы, што стаялі побач з **Шарадай № 3**. Вось два невялікія паведамленні:

«Інспектар народных школ у Кіеўскай акрузе загадаў прыняць з бібліятэк усе кнігі аб Украіне».

«У Пецярбурзе засудзілі на два гады ў крэпасць 70-летняга прафесара Бадуэна (дэ Куртэнэ) за тое, што ён напісаў кніжку аб нацыянальным пытанні ў будучым».

Звесткі гэтыя падаваліся ў рубрыцы «Свабода друку». Якая іронія! Сапраўды, не надта свабодна было ў гэтай свабодзе...

Добра вядома, што царскія ўлады ў 1914 годзе забаранілі святкаваць сотую гадавіну з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Большасць тагачасных газет, баючыся пакарання, не надрукавала пра

[1] Наша ніва, 1914, 31 студз.
[2] Наша ніва, 1914, 27 лют.

Кабзара ні радка. Аднак «Наша ніва» юбілей адзначыла вялікім артыкулам прагрэсіўнага публіцыста Лявона Гмырака «Тарас Шаўчэнка»[1]. Цяпер жа, праз паўмесяца пасля юбілейнай Даты, газета паведамляла пра асобныя моманты ўшанавання песняра. Якія гэта былі моманты і якое «ўшанаванне», добра відаць хаця б з гэтых допісаў:

«**Рэвізіі і арышты**: у Кіеве зроблена маса вобыскаў і арыштаў у сувязі са святкаваннем Шаўчэнкаўскага юбілею. Паміж арыштаванымі многа студэнтаў.

**На магіле Шаўчэнкі**: На магілу Шаўчэнкі паліцыя ў дзень юбілею нікога не пускала. Цэлы дзень на магіле стаялі стражнікі са спраўнікам і земскім начальнікам.

**Канфіскацыя «Кабзара»**: У Кіеве паліцыя сканфіскавала кніжку Т. Шаўчэнкі «Кобзарь». Забралі 10 тысяч экземпляраў. Выдаўцоў пацягнулі пад суд па 129 стацці. Выданне гэтае нічым не рознілася ад выдання пецярбургскага «Кобзаря», адно толькі, што на гэтае выданне была паніжана цана».

Вось такія рэдакцыйныя матэрыялы падпісаў да друку Янка Купала, упершыню ў сваім жыцці сеўшы ў рэдактарскае крэсла. А побач з гэтымі матэрыяламі змяшчалася яго новая шарада:

Калі возьмеш першае
І другое следам:
Што калісьці бегала,
Цяпер — за абедам.

Першае — чацвёртае
Жывіць свет сабою,
Хоць — гультайка шчырая
Зімовай парою.

Дзе другога — трэцяга
Не стае, не любяць —
Там жыццё няважнае,
Людзі шчасде губяць.

А уся — знаёмая:
Мае панаванне
У посце прад вялікаднем
У сялянскім стане.

Чытачы газеты легка разгадалі шараду: Саладуха.

[1] Наша ніва, 1914, 21 лют.

«Наша ніва» выходзіла ў свет чатыры разы на месяц. Раз у месяц у ёй, звычайна, друкаваліся купалаўскія шарады. Наступная — **Шарада № 4** — з'явілася ў нумары за 3 красавіка 1914 года:

Першы — муж вучоны, важны,
Носіць чын такі не кажны,
Хоць па-просту на наш лік
Ён не больш як чараўнік.

Наша трэцяя — другая
Будзе нейкая такая:
Знала рэчак берагі
І паганскія багі.

Ну, а трэцяя з чацвёртай —
Рэчка ў дальню даль заперта,
Слаўна золатам для нас
І крывёй ў апошні час.

А уся — жаноча імя,
Кожны знойдзе між святымі.
Далей буду ўжо маўчаць,
Бо й так можна адгадаць.

У тэксце шарады, у трэцяй яе страфе, быў надзвычай празрысты намёк на крывавыя падзеі на берагах сібірскай ракі Лены. Чытачы добра ведалі пра іх. Сама «Наша ніва» адразу ж пасля Ленскага расстрэлу паведаміла пра жорсткую расправу цара над рабочымі залатых капальняў[1]. Там жа была надрукавана і карэспандэнцыя пра забастоўкі рабочых Кіева, Адэсы, балтыйскіх фабрык у адказ на гэты нечуваны здзек з працоўных.

Такі намёк на злабадзённы факт з палітычнага жыцця краіны не толькі памагаў хутчэй разгадаць шараду (адказ: Маг-да-ле-на). Ён лішні раз напамінаў пра жорсткія здзекі цара і яго прыслужнікаў з працоўнага народа, яшчэ раз даводзіў справядлівасць і неабходнасць расплаты з прыгнятальнікамі.

У адным нумары з **Шарадай № 4** газета змясціла артыкул Лявона Гмырака «Колькі слоў аб хутарах». Аўтар артыкула, гэтаксама як раней Зрэбны і Лемеш, рэзка выступіў супраць хутарызацыі. Ён паказаў сам механізм разарэння сялян. Так, гаворыць Л. Гмырак, зямля прадаецца па 250 рублёў за дзесяціну, а банк дае пазыку, ацэньваючы яе не больш як 75 рублёў. Гаротнаму сярмяжніку-мужыку, які не мае ні граша за душой, трэба недзе пазычыць ас-

[1] Наша ніва, 1912, 19 крас.

татнюю частку грошай. Дзе ён можа ўзяць гэтыя грошы? Банк дае пазыку пад новыя працэнты. Доўг, як правіла, у час не аддаецца, запазычанасць і банкаўскія працэнты растуць. Урэшце, хутарская зямля распрадаецца з аўкцыёна. Купляе яе нейкі багацей, а найчасцей — сам жа банк... Выснова, да якой падводзіў Л. Гмырак, была недвухсэнсоўнай: «Найболей развітыя, начытаныя і крытычна думаючыя людзі ў вёсцы, як сярод сялян, так і інтэлігентаў, якраз праціўнікі хутароў». Ясней, здаецца, не скажаш.

Зразумела, так думаў не адзін аўтар артыкула. Так думаў і новы рэдактар газеты Янка Купала, на абавязку якога, як прыгадваў паэт пазней, «ляжала напісаць нумар, пракаменціраваць і выпусціць у свет» (7,4-33). Штат жа «Нашай нівы» ў той час складаўся з двух (!) чалавек — Янкі Купалы і Змітрака Бядулі!

Наступная **Шарада № 5**, падпісаная літарай Л. (Луцэвіч — да гэтага пад усімі шарадамі стаяў крыптанім К-а), мела ўсяго адну страфу:

Вазьмі два склады,
Каб добры былі да яды,
Прыбаў да іх склад трэці —
Будзе птушка, ўмее пеці.

Нумар газеты выйшаў 1 мая 1914 года. Гэта пэўным чынам вызначыла характар тых матэрыялаў, якія былі побач з шарадай і на якія, безумоўна, аматары «вясёлай хвілінкі» не маглі не звярнуць увагі.

Рабочая Расія рыхтавалася адзначыць першамайскае свята. Некалькімі нумарамі раней (дарэчы, на адной старонцы з **Шарадай №4**) «Наша ніва» пісала пра арышт «трох невядомых, каторыя хацелі вынесці з прыбыўшага ў Лібаву поезда скрынкі з майскімі пракламацыямі». У сваім наступным, пасля першамайскага, нумары газета змесціць разгорнутую нататку пра святкаванне 1 Мая ў Пецярбурзе, пра нелегальную друкарню ў Тыфлісе, што друкавала першамайскія адозвы[1]. Яшчэ праз два нумары — заметку «За чырвовы колер», у якой, у прыватнасці, пісалася: «Начальнік пецярбургскай друкарні марскога міністэрства гэтымі днямі пабачыў у некаторых наборшчыц чырвоныя гальштукі, а ў наборшчыкаў— чырвоныя кашулі. Усіх «чырвоных» было сем. Ім выдалі заработную плату за два тыдні ўперад і ўвольнілі». Цяпер жа, у першамайскім нумары, «Наша ніва» нагадвала сваім чытачам і пра другую значную падзею — дзень рабочага друку. 5 мая 1912 года выйшаў першы нумар бальшавіцкай газеты «Правда». Рабочыя пачалі адзначаць гэты дзень як сваё свята. У паведамленні

[1] Наша ніва, 1914, 8 мая.

года, родапачынальнікі яе — Міхась Чарот, Змітрок Бядуля і інш., непасрэдны повад яе ўзнікнення — усенародная жалоба, выкліканая смерцю Ільіча...

Давайце паслухаем саміх літаратуразнаўцаў.

М. Ярош, артыкул «Ленінскі поступ у шчасце»: «У беларускай паэзіі рабіліся спробы з такім вось, як у Маякоўскага, строгім гістарызмам і лірычнай пранікнёнасцю, не гаворачы ўжо аб філасофскай глыбіні і драматычным накале (маюцца на ўвазе верш паэта «Уладзімір Ільіч!» і яго паэма «Уладзімір Ільіч Ленін».— В. Р.), вырашыць ленінскую тэму. Гэтыя спробы рабіліся, пачынаючы з 1924 года, калі па ўзрушанасці сэрца, па закліку «Маладняка» паэты звярнуліся да вобраза правадыра»[1].

А. Налівайка, кніга «З Леніным у сэрцы»: «Наша беларуская Лeнініяна бярэ свой пачатак яшчэ ў творах 20-х гадоў, якімі адклікнуліся паэты на трагічную вестку аб заўчаснай смерці У. І. Леніна... («Ленін» А. Дудара, «Ленін» М. Чарота, «Песні жалобы» П. Глебкі, «На смерць Леніна» П. Труса, «Чырвона-чорная жалоба» З. Бядулі і. інш.)»[2].

У. Юрэвіч, артыкул «Паэзія вялікага вобраза»: «Горкі і Маякоўскі паклалі асноватворныя каменні ў будынак мастацкай Лeніініяны. Выснозваць жа беларускую Лeніініяну пачалі такія спрактыкаваныя цеслі, як Міхась Чарот і Змітрок Бядуля. Першымі вянцамі яны паклалі паэмы «Ленін» і «Чырвона-чорная жалоба». Як для адной, так і для другой непасрэдным штуршком з'явілася вестка пра смерць Леніна»[3].

Значыць, 1924 год? Значыць, Міхась Чарот і Змітрок Бядуля?

Аднак яшчэ ў 1922 годзе, пры жыцці У. І. Леніна, з'явіўся верш Янкі Купалы «Пазвалі вас...» — твор, у якім упершыню ў беларускай літаратуры справы, а ў значнай ступені і сам вобраз правадыра працоўных, кіраўніка першай у свеце Савецкай дзяржавы знайшлі мастацкае выяўленне. Непасрэдным штуршком да напісання верша паслужылі паведамленні тагачасных газет аб запрашэнні Уладзіміра Ільіча Леніна на Генуэзскую канферэнцыю, пра што сведчыць эпіграф да твора: «Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Генуя т. Леніна» (З газет 1921 г.)».

У наступным, 1923 годзе, Янка Купала шмат часу прысвяціў перакладу на беларускую мову вялікай паэмы ўкраінскага паэта Валяр'яна Палішчука «Ленін». Пераклад паэмы быў апублікаваны ў першым нумары «Полымя» за 1924 год — разам з нагаданымі вышэй творамі М. Чарота і З. Бядулі. У 1930 годзе паэма выйшла асобным выданнем.

---

[1] Ярош М. Ленінскі поступ у шчасце.— Літ. і мастацтва, 1970, 10 крас.
[2] Налівайка А. З Леніным у сэрцы.— Мн.: Т-ва «Веды», 1970, с. 3.
[3] Юрэвіч У. Паэзія вялікага вобраза.— У яго кн.: Погляд. Мн., Маст. літ., 1974, с. 9.

Доўгі час уклад Янкі Купалы ў стварэнне беларускай Лёніняны недаацэньваўся. Пераклад паэмы В. Палішчука «Ленін» не браўся ў разлік: маўляў, гэта не самастойны твор. Што да купалаўскага верша «Пазвалі вас...», то ён, па словах М. Лужаніна, «даволі прадяглы час памылкова чытаўся і вытлумачваўся»[1]. Дастаткова сказаць, што ў сучасным бібліяграфічным даведніку «Літаратурная Лёнініяна Беларусі»[2], у які ўвайшлі звесткі пра публікацыі нават у абласным друку, гэты верш Янкі Купалы зусім не ўпамінаецца.

Упершыню «Ленінскія старонкі ў Янкі Купалы» (назва артыкула) дэталёва прачытаў Максім Лужанін. Артыкул спярша друкаваўся ў «Полымі» (1972, № 7), затым увайшоў у кнігу пісьменніка «З ранку да вечара» (1978). М. Лужанін уважліва прааналізаваў і ўласны верш Купалы, і яго пераклад украінскай паэмы, паказаў важнае месца гэтых твораў як у кантэксце купалаўскай творчасці, так і ва ўсёй беларускай і нават усесаюзнай Лёнініяне. Зацікаўлены, прафесійны літаратуразнаўчы аналіз прывёў пісьменніка да недвухсэнсоўнага выйваду: «Пазвалі вас...» — рэдкая ўдача паэзіі. Такой кандэнсацыі слова, такой трываласці фарбаў, такой выразнасці вобразаў не кожны дзень шанцавала дамагацца нават Янку Купалу»[3]. Нельга не пагадзіцца з Лужанінам, што «савецкі перыяд творчасці Янкі Купалы пачынаюць і фармуюць у асноўным тры рэчы: пераклады «Інтэрнацыянала» і паэмы «Ленін» і верш «Пазвалі вас...». Паэт радасна і аптымістычна святкаваў вершам перамогу Савецкай дзяржавы, чарговы крок да паражэння старога, хоць яшчэ і моцнага свету»[4].

Здавалася, усё ясна, пастаўлена апошняя кропка над «і». Аднак вось разгортваем № 1 часопіса «Полымя» за 1980 год. У артыкуле У. Гніламёдава «Ён неўміручы — як народ» чытаем: «Упершыню ленінская тэма ўзнікла ў беларускай літаратуры як перакладная. Янка Купала пераклаў (1923) на беларускую мову паэму «Ленін» украінскага савецкага паэта В. Палішчука... Гэтай працай, зразумела, не вычэрпваюцца ленінскія старонкі ў творчасці Купалы. М. Лужанін не без падстаў залічвае сюды вядомы купалаўскі верш «Пазвалі вас...» (1922)[5]. Як бачым, у артыкуле (у цэлым вельмі грунтоўным і цікавым), нават у працытаваным урыўку з яго, хоць і прыхавана, ды ўсё ж дае пра сябе знаць традыцыйная недаацэнка купалаўскіх твораў пра Леніна. Паказваюцца творы. «Пазвалі вас...» даследчык называе нават

---

[1] Лужанін М. Ленінскія старонкі ў Янкі Купалы.— У яго кн: З ранку да вечара. Мн., Маст. літ., 1978, с. 43.
[2] Літаратурная Лёнініяна Беларусі / Скл. М. А. Каваленка М. А.— Мн.: Дзяржбібліятэка БССР, 1976.
[3] Лужанін М. Ленінскія старонкі ў Янкі Купалы, с. 37.
[4] Там жа, с. 43.
[5] Гніламёдаў У. Ён неўміручы — як народ.— Полымя, 1980, № 1, с. 199.

«вядомым». Называе... і тым самым нібы знімае з сябе абавязак уважліва ўчытацца ў верш услед за Лужаніным. А ўчытацца трэба. Верш, на самой справе, малавядомы. Друкаваўся ён толькі ў кнігах «Безназоўнае» (1925 — 1 выд., 1928 — 2 выд.), «Творы. 1918-1928» (1930) і ў згаданым артыкуле М. Лужаніна. Нават не ўвайшоў у самы поўны пакуль што сямітомны Збор твораў Янкі Купалы. Да гэтага, у артыкуле У. Гніламёдава чамусьці сцвярджаецца, што «ўпершыню ленінская тэма ў беларускай літаратуры ўзнікла як перакладная», хоць пераклад паэмы В. Палішчука «Ленін» з'явіўся, як вядома, на год пазней за арыгінальны верш «Пазвалі вас...».

У. Гніламёдаву, аднак, трэба аддаць належнае: ён усё ж хоць успомніў творы Янкі Купалы. У большасці сучасных артыкулаў пра беларускую Ленініяну верш «Пазвалі вас...» і пераклад паэмы «Ленін» не аналізуюцца, не даследуюцца, нават не згадваюцца.

Вось гэты першы твор беларускай паэтычнай Ленініяны.

### ПАЗВАЛІ ВАС

«Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Геную т. Леніна»

(З газет 1921 г.)

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць,
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біцьцароў —
Зрабілі з вас гаспадароў.
І вы з рабоў пайшлі ў цары...
— О, каб не ў краты толькі з крат?!
Паклон аддаў вам азіят,
За ім Еўропы жыхары
Шлі к вам праз морскія віры...
Але не ваш вітаць шлі сцяг:
З сваёю воляй шлі на вас...
І не дайшлі — зышлі на час
Праз белы й чорны морскі шлях.
А вам не страх, а вам не страх!..
Чатыры годы крок у крок
Тварыць вы шлі і кроў лілі
Сваю, чужую па зямлі...
Раслі магілы... зваў прарок...
Рос вашай моцы блеск і мрок.

І ўсё вы ўзялі, ўсё як ёсць:
Фабрычны дым, сяўбы загон,
І панскі двор, і царскі трон...
Ды стала ўсё вам гэта ў злосць —
У хлебе восць, у горле косць.
Сабою самі ўстаць з руін
Вам не хапіла смагі, сіл,
І вось к вам вылез цень з магіл:
Крывавы грош і «гаспадзін»,
А іх закон адзін, адзін.
З-пад ног, з утоптанай нары
Паўзе ўжо збэшчаны павук
І ў сто, у сто кагцістых рук
Хапае вас, рабы-цары,—
Як бы ўжо вы не ўладары.
Вы ўладары... Яшчэ жар-цвет
Бунтарскіх дум у вас не згас:
Еўропа кліча ў госці вас:
Пад рогат Піравых пабед
Саветы кліча на «савет».
1922 г.[1]

М. Лужанін, думаецца, слушна супастаўляе радкі купалаўскага верша з асобнымі бязлітасна-праўдзівымі, мудрымі, прарочымі словамі Леніна з яго выступлення на пасяджэнні камуністычнай фракцыі Усерасійскага з'езда металістаў 6 сакавіка 1922 года[2]. Вецъ усе падставы меркаваць, што верш узнік менавіта ў сувязі са знаёмствам Купалы з гэтай прамовай, дзе даваўся цвярозы падрахунак рэвалюцыйным заваёвам і асобным прарахункам за чатыры савецкія гады. «Беспамылкова крытэрый для адэнкі падзей, іх паступовае развіццё і магчымыя павароты ў будучым магла даць толькі прамова Леніна»[3].

Такім чынам:

Задума верша «Пазвалі вас...» звязана з канкрэтным фактам біяграфіі У. І. Леніна (запрашэнне на Генуэзскую міжнародную канферэндыю);

Логіку і сутнасць паэтавых развагпрадвызначыла канкрэтная прамова Уладзіміра Ільіча;

У вершы называецца прозвішча правадыра працоўных усяго свету — Ленін.

[1] Купала Янка. Безназоўнае,— Мн.: ДВБ, 1925, с. 30-31.
[2] Ленин В. И. Полн. собр. соч., т. 45, с. 1-16.
[3] Лужанін М. Ленінскія старонкі ў Янкі Купалы, с. 43.

Няўжо гэтага недастаткова, каб у «Пазвалі вас...» убачыць святло «ленінскай тэмы», а за ўказальным займеннікам «вы» разглядзець — паперадзе цеснай кагорты байцоў ленінскай гвардыі — самога «прарока», Леніна?!

Трэба, нарэшце, асобным нашым літаратуразнаўцам павярнуцца да фактаў. А яны надзвычай красамоўныя:

Беларуская Лeнініяна пачалася не ў 1924 годзе, а на два гады раней, яшчэ пры жыцці У. І. Леніна.

Родапачынальнік беларускай Лeнініяны — народны пясняр Янка Купала.

## «ШЧЫРАПАВАЖАНЫ ПРАФЕСАР...»

Аддзел рэдкіх кніг і стaрадрукаў Львоўскай навуковай бібліятэкі імя Васіля Стафаніка.

Сапраўды рэдкія кнігі сабраны тут! Гартаю розныя беларускія выданні, асобныя з якіх адсутнічаюць нават у найпаўнейшым зборы беларусістыкі Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна ў Мінску. Вось тонкія брашуркі — прыжыццёвыя выданні Цёткі: «Скрыпка беларуская», «Гасцінец для малых дзяцей», «Першае чытанне для дзетак беларусаў»... Вось унікальныя гектаграфаваныя выданні — падпольныя «Калядная пісанка на 1904 год», «Велікодная пісанка» (Пецярбург, 1904)... Усе — з фонда прафесара І. С. Свянціцкага.

А ці няма тут кніг з аўтографамі?

Перагортваю пазнейшыя, ужо савецкага часу, выданні. Сапраўды, на некаторых з іх — даравальныя надпісы. У «шчырай павазе» да Свянціцкага прызнаюцца Змітрок Бядуля і Алесь Гурло, Уладзімір Пічэта і Алесь Дудар...

З хваляваннем бяру ў рукі кнігу Янкі Купалы «Спадчына», выдадзеную ў Мінску ў 1922 годзе. Асцярожна разгортваю. Да грудзей падступае хваля радасці: на тытульным лісце выразным купалаўскім почыркам выведзена:

Шчырапаважанаму прафесару Свяціцкаму з прывітаннем. Янка Купала. Менск, 19/11.27 г.

Амаль такі ж надпіс і на другім томе Збору твораў паэта, што выйшаў у свет у 1926 годзе і змяшчаў вершы са зборніка «Шляхам жыцця»:

Шчырапаважанаму праф. Іл. С. Свяціцкаму. З прывітаннем Янка Купала. Менск, 19/11. 27 г.

У канцы 1926 — пачатку 1927 года прафесар Львоўскага універсітэта І. Свянціцкі па запрашэнню Інбелкульта наведаў нашу рэспубліку. Непасрэдным повадам для паездкі з'явілася запрашэнне на канферэнцыю, прысвечаную рэформе беларускага правапісу. Праўда, на канферэнцыю, якая адбылася ў сярэдзіне лістапада 1926 года, Свянціцкі прыехаць не паспеў (на ёй зачытвалася яго віншавальная тэлеграма). Але сам повад наведаць Беларусь вучоны з радасцю выкарыстаў. У Мінску і іншых гарадах ён сустракаўся з вядомымі дзеячамі беларускай навукі і культуры. Хадзіў у тэатры, музеі, на выстаўкі. Збіраў матэрыял для кніжкі пра росквіт нацыянальна-культурнага жыцця Савецкай Беларусі. Усё гэта добра вядома. Аднак нікім з біёграфаў Янкі Купалы не была адзначана мінская сустрэча народнага паэта Беларусі з украінскім прафесарам-беларусазнаўцам, з якім ён быў знаёмы яшчэ па пецярбургскаму перыяду свайго жыцця. І вось — аўтографы, непасрэдныя сведкі сустрэчы, доказ таго, што знаёмства прадстаўнікоў двух народаў працягвалася.

Фігура І. Свянціцкага як вучонага, даследчыка беларускай літаратуры і ўкраінска-беларускіх сувязей настолькі значная і каларытная, што вымагае спецыяльнай гаворкі. Тым больш, што Свянціцкі быў блізка знаёмы з Янкам Купалам, даследаваў яго творчасць, публікаваў асобныя, забароненыя ў Расіі, вершы паэта і ўвогуле ставіўся да песняра з надзвычайным піетэтам, неадменна называў яго «беларускім Шаўчэнкам».

Іларыён Сямёнавіч Свянціцкі (1876-1956) прайшоў доўгі, поўны напружанай працы жыццёвы і творчы шлях — ад цікаўнага, дапытлівага студэнта, што скончыў дзве навучальныя ўстановы (філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта і Пецярбургскі археалагічны інстытут), да буйнога, еўрапейскага маштабу вучонага, доктара філасофскіх навук, прафесара, прызнанага аўтарытэту ў галіне гісторыі некалькіх славянскіх моў і літаратур. У «Кароткім бібліяграфічным паказчыку» яго прац, выдадзеным у Кіеве ў 1956 годзе, адзначана некалькі дзесяткаў артыкулаў, брашур і кніг, сярод якіх ёсць манаграфіі ў тры-чатыры сотні старонак. А гэта ж толькі кароткая бібліяграфія, якая зафіксавала найбольш важныя працы даследчыка!..

Вялікі ўклад унёс І. Свяпціцкі ў станаўленне ўкраінскай беларусістыкі, развіццё дружбы і культурных сувязей паміж украінскім і беларускім народамі. Па сутнасці, ён з'яўляецца піянерам беларусістыкі на Украіне. Канечне, пра Беларусь, беларускую мову, фальклор і літаратуру пісалі на Украіне яшчэ да Снянціцкага і ў адзін час з ім. У першую чаргу варта назваць такіх пісьменнікаў і вучоных, як Я. Галавацкі, І. Франко, М. Драгаманаў, М. Паўлык, В. Шчурат, І.

Крып'якевіч, М. Вазняк, У. Гнацюк, і інш.[1] Аднак толькі ў асобе Свянціцкага, які актыўна і пастаянна вывучаў беларускую літаратуру як самабытную мастацкую з'яву, яе сувязі з іншымі славянскімі літаратурамі, у першую чаргу ўкраінскай, беларуская тэматыка знайшла ва ўкраінскай славістыцы свайго сталага, зацікаўленага прыхільніка і глыбокага даследчыка. Беларусазнаўчыя працы вучонага не толькі раскрывалі заканамернасці развіцця нашай мовы і літаратуры, але садзейнічалі разам з тым пашырэнню звестак пра духоўнае жыццё Беларусі ва ўсім славянскім свеце, актывізавалі намаганні ўкраінскіх вучоных па даследаванню блізкай і роднаснай ім культуры. Гэта было асабліва важна на пачатку стагоддзя, да векапомных Кастрычніцкіх дзён, калі не толькі за мяжою (Львоў належаў тады яшчэ да Аўстра-Венгрыі), але і ў самой Расіі для многіх людзей, у тым ліку вучоных, нават само існаванне беларусаў як асобнай нацыі ўяўлялася гіпатэтычным. І вось менавіта ў гэты час навуковага абскурантызму і шавіністычнага дурману раздаўся спакойны, упэўнены голас маладога вучонага, які безапеляцыйна заявіў: Існуе Беларусь са сваёй слаўнай, хоць і складанай гісторыяй, сваёй самабытнай мовай і культурай, арыгінальнай вуснай народнай творчасцю, пісьмовай літаратурай. Ды не толькі заявіў, што само па сабе было новым і даволі смелым актам, але і яскрава паказаў гэта, даказаў усёй сукупнасцю выразных і неабвержных фактаў.

Першай буйной беларусазнаўчай працай І. Свянціцкага з'явілася даследаванне «Адраджэнне беларускага пісьменства» (1908)[2], якое спачатку друкавалася (з працягам) у Львоўскай газеце «Діло», а пасля выйшла асобнай брашурай. Вучоны расказвае пра беларускую літаратуру пачатку XX стагоддзя, якая спакваля пачала абуджацца ад «летаргічнага сну» (словы М. Багдановіча), пра першыя беларускія газеты «Наша доля» і «Наша ніва», асобных беларускіх пісьменнікаў і іх кнігі і інш. Чырвонай датай у адраджэнні беларускай літаратуры Свянціцкі слушна лічыць 1905 год. Рэвалюцыя ўзняла з небыцця цэлую кагорту выдатных майстроў слова на чале з Янкам Купалам і Якубам Коласам, якім у «Адраджэнні беларускага пісьменства» даецца высокая і ўзнёслая характарыстыка. «Найважнейшая вызначальная рыса сучаснай беларускай паэзіі,— адзначае даследчык,— гэта жыццёвая праўда... і шчырая вера ў светлае будучае, якое народ заваюе ўласнымі сіламі»[3].

---

[1] Гл. пра гэта падрабязней: Кабржыцкая Т., Рагойша В. Карані дружбы: Беларуска-ўкраінскія літаратурныя сувязі пачатку XX стагоддзя.— Мн.: Выд-ва БДУ, 1976.

[2] Свенціцькій Іл. Відроджене білоруського письменства,— Львів, 1908.

[3] Там жа, с. 31

У даследаванні поўнасцю перадрукаваны верш Цёткі «Суседзям у няволі», у якім паэтэса заклікае да інтэрнацыянальнага яднання ў барацьбе супраць царызму, «за свабоду перад катам». Завяршаецца яно публікацыяй двух рэвалюцыйных вершаў Янкі Купалы — «Там» і «Што ты спіш?». Вершы гэтыя І. Свянціцкі, па яго словах, атрымаў непасрэдна ад самога Купалы падчас адной з сустрэч у Пецярбурзе ў 1907 годзе «з дужа мільм, нясмелым малайчынай-аўтарам»[1], і ўпершыню апублікаваў творы. Ужо аднаго гэтага было дастаткова «для забароны брашуры з нявыдачай просьбітам» — як пра тэта гаварылася ў адпаведнай пастанове Пецярбургскага цэнзурнага камітэта. Кніжка Свянціцкага адразу была канфіскавана ў царскай Расіі.

У 1913 годзе ўкраінскі вучоны піша артыкул «Асновы адраджэння беларускага пісьменства», у якім абгрунтоўвае заканамернасць узнікнення такой з'явы, як беларуская літаратура, вызначае паасобныя напрамкі яе развіцця (польска-беларуская «школа», руска-беларуская «школа», пісьменнікі-беларусы). Гэта выключна тэарэтычная праца Нібыта дапаўняе гісторыка-літаратурны агляд «Адраджэнне беларускага пісьменства», узбагачае яго новымі думкамі і назіраннямі. У ёй упершыню ва ўкраінскім друку называюцца некаторыя беларускія пісьменнікі XIX стагоддзя, робіцца спроба тыпалагічнага супастаўлення творчасці літаратараў Беларусі і Украіны. Артыкул І. Свянціцкага, разам з творамі М. Горкага, У. Караленкі, Лесі Украінкі і іншых вядучых пісьменнікаў XX стагоддзя, быў змешчаны ў юбілейным зборніку, прысвечаным 40-годдзю творчай дзейнасці Івана Франка[2]. Дзякуючы гэтаму праца вучонага атрымала шырокую чытацкую аўдыторыю, а заканамернасці і асобныя новыя факты развіцця беларускай літаратуры сталі вядомыя многім выдатным пісьменнікам пачатку XX стагоддзя, у тым ліку М. Горкаму, І. Франку.

У канцы 1926 — пачатку 1927 года І. Свянціцкі, як ужо адзначалася, па запрашэнню навуковай грамадскасці рэспублікі наведаў Беларусь. Ён азнаёміўся з працай Інстытута беларускай культуры і

---

[1] З ліста І. Свянціцкага да М. Клімковіча ад 12 ліпеня 1946 года,— ЦДАМЛІМ БССР, ф. 44, воп. 1, адз. зах. 341, арк 2-3. Што датычыць даты сустрэчы Свянціцкага з Янкам Купалам, а таксама таго, як Свянціцкі атрымаў рукапісы купалаўскіх вершаў, то тут узнікаюць пярэчанні. «Сустрэча І. Свянціцкага з Я. Купалам у Пецярбургу ў 1907 г. здаецца вельмі сумніцельнай,— слушна заўважае Г. Кісялёў,— бо, наколькі вядома, паэт першы раз прыехаў у Пецярбург у канцы 1909 г. Трэба думаць, ва ўспамінах сумешчаны дзве падзеі: 1) атрыманне Свянціцкім рукапісаў Купалы ў Пецярбургу ў Эпімах-Шыпілы ў 1907 г. (якраз у гэты час рукапісы паэта былі дасланы Эпімах-Шыпілу...) і 2) пазнейшая (не раней 1909 г.) сустрэча Свянціцкага з Купалам у Пецярбургу на кватэры Эпімах-Шыпілы» (Пуцявінамі Янкі Купалы, с. 59). Што да сумненняў Г. Кісялёва (услед за С. Панізнікам) адносна сустрэчы Свянціцкага з Купалам у 1927 годзе, то яны, думаецца, неправамерныя. Калі нават усумніцца ў надзейнасці памяці самога Свянціцкага (а ён гэтую дату называе ў двух розных лістах), не прыняць пад увагу купалаўскіх аўтографаў, то і тады застаецца яшчэ адзін доказ такой сустрэчы: аўтограф У. Пічэты на кнізе «История сельского хозяйства і землевладения в Белоруссии» (Мн., 1927).

[2] Свенціцькій Іл. Основи відродження білоруського письменства.— У кн.: Прйвіт Іванові Франкові в сороколіття його письменннцькоі праці. Львів, 1916, с. 291-301.

Белдзяржуніверсітэта, глядзеў спектаклі БДТ-1 (цяпер Акадэмічны тэатр імя Я, Купалы), сустракаўся з многімі беларускімі пісьменнікамі, у тым ліку, як цяпер даказана, з Янкам Купалам. З паездкі ён вынес самыя прыемныя, самыя светлыя ўражанні, а дадому прывёз цэлы стос беларускіх кніг і шчырае жаданне падзяліцца з суайчыннікамі ўсім убачаным і перажытым. Ужо ў наступным 1928 годзе Свянціцкі друкуе кніжку «Росквіт культурна-нацыянальнага жыцця Усходняй Беларусі»[1], у якой дарожныя ўражанні сплавіліся з логікай даследчыцкай развагі, падначаленай раскрыццю розных аспектаў уздыму беларускай навукі і культуры пры савецкай уладзе. Вучоны расказвае пра вырашэнне нацыянальнага пытання ў Савецкім Саюзе, неаднаразова падкрэслівае, што толькі дыктатура пралетарыяту змагла даць раней заняволеным народам права на свабоднае развіццё моў і культур. Сімпатыі Свянціцкага — на баку камуністаў. Ён заяўляе, што ў буржуазных партый «няма яснага погляду на вырашэнне нацыянальнага пытання», што «ў заходнееўрапейскіх партыях ёсць нямала шавінізму і фанатызму», У той жа час «тварэц III Інтэрнацыяналу — Ленін падышоў тэарэтычна да нацый як да ячэек рэвалюцыі. Ён зразумеў, што творчы камунізм павінен быць крыніцай адраджэння, развіцця і росквіту нацыі, каб праз паўнату нацыянальнага жыцця стварыць спрыяльную аснову для актыўнай палітыкі камунізму»[2]. Аўтар кнігі ілюструе ажыццяўленне ленінскіх ідэй на прыкладзе росквіту нацыянальнай культуры беларусаў усходняй, савецкай часткі Беларусі. Разам з тым ён супастаўляе ўбачанае ў Мінску з тагачасным культурна-нацыянальным жыццём Вільні і Львова і прыходзіць да высновы, што «на самым блізкім усходзе жыццё становіцца ўсё шырэйшым, усё буйнейшым, усё глыбейшым... тут яно чахне, бо дух забіваюць, бо мову калечаць, бо жыцця баяцца...»[3] Безумоўна, патрэбна было мець грамадзянскую мужнасць, каб у даваеннай буржуазнай Польшчы адкрыта і чэсна расказаць пра росквіт нацыянальнага жыцця адной з савецкіх рэспублік, публічна прызнацца ў сімпатыях да камуністаў, зацікаўлена цытаваць Леніна.

Дарэчы, у сваёй кнізе І. Свянціцкі называе Янку Купалу і Якуба Коласа «двума сонцамі беларускага пісьменства». Купала, па ацэнцы даследчыка,— «найбольшы пясняр Беларусі». Коласа ж, на думку Свянціцкага, «можна лічыць беларускім Франко», настолькі блізкія паміж сабой гэтыя дзве творчыя постаці — сваімі ідэямі, тэмамі, матывамі. Аднак вучоны засцерагае ад механічнага «падцягвання»

---

[1] Свенціцькій Іл. Росквіт культурно-національного життя Східної Білорусі.— Львів, 1928.
[2] Там жа, с. 7.
[3] Там жа, с. 12.

аднаго паэта да другога: «Не столькі пра ўплывы чужыя на Коласа даводзіцца гаварыць, колькі пра аднолькавы падыход асобных паэтаў з пэўным светапоглядам да аднародных з'яў»[1].

Да фактаў гісторыі, мовы, літаратуры і культуры Беларусі І. Свянціцкі звяртаўся неаднаразова, у самых розных працах («Пачаткі кнігадрукавання на землях Украіны», «Каляды ў плыні стагоддзяў», «Агляд гісторыі славянскага пісьменства на працягу 1826-1938 гадоў» і інш.). Разам з тым ён пастаянна падтрымліваў цікавасць да беларусістыкі ў шматлікіх сваіх калег і вучняў, асабліва пасля векапомных дзён верасня 1939 года, калі Заходняя Украіна ўз'ядналася з УССР, а сам Свянціцкі становіцца прафесарам Львоўскага універсітэта, загадчыкам кафедры славяназнаўства.

Партрэт гэтага піянера беларусістыкі на Украіне будзе няпоўным, калі не прыгадаць яшчэ прынамсі двух момантаў яго біяграфіі.

У 1905 годзе І. Свянціцкі становіцца дырэктарам Украінскага нацыянальнага музея ў Львове (дарэчы, на гэтай пасадзе ён прапрацаваў да 1952 года). Дзякуючы яму ў музеі камплектуецца спецыяльны беларускі аддзел. Сам дырэктар у пошуках розных музейных рэліквій наведвае Беларусь у 1905, 1906 і 1908 гадах. Менавіта ў тых паездках адшукаліся, а ў музеі зберагаліся да нашага часу бясцэнныя каштоўнасці, якія маюць непасрэднае дачыненне да беларускай культуры. Так, сённяшнія наведвальнікі львоўскага Музея ўкраінскага мастацтва могуць убачыць 23 слуцкія паясы, 12 кніг «Бібліі» Ф. Скарыны, асобныя беларускія старадрукі, абразы і інш.

Тыя даўнія адведзіны І. Свянціцкім Беларусі прынеслі і іншы плён у галіне беларуска-ўкраінскіх культурных зносін. У часе адной з паездак вучоны пазнаёміўся з Цёткай, якая ў той час хавалася ад праследаванняў царскай паліцыі, дапамог ёй эмігрыраваць за мяжу, у Львоў. Тут ён прыняў самы чынны ўдзел у жыццёвым і творчым лёсе паэтэсы-рэвалюцыянеркі: садзейнічаў ёй у паступленні на філасофскі факультэт Львоўскага універсітэта, у выданні кніг «Скрыпка беларуская» і «Хрэст на свабоду», ва ўладкаванні на працу і г. д. Цётка як родная была прынята ў сям'і Свянціцкага, часта наведвала дом, што і цяпер стаіць у Львове па вуліцы Драгаманава, 42, разам з жонкай Свянціцкага Аніссяй Свянціцкай і сяброўкай жонкі Маланняй Бордун ездзіла на экскурсію ў Вену. Безумоўна, такая сяброўская падтрымка дапамагла Цётцы не толькі адужаць настальгію, але і на ўвесь час львоўскай пабыўкі захаваць творчы настрой, бадзёрасць духу. Што ж датычыць успамінаў пра Цётку, пакінутых нам І. Свянціцкім, А.

[1] Там жа, с. 39.

Свянціцкай і М. Бордун, то яны з'яўляюцца адзінымі сведчаннямі сучаснікаў пра так званы львоўскі перыяд у жыцці беларускай паэтэсы.

Вось хто быў ён, «шчырапаважаны прафесар», якому пры сустрэчы Янка Купала падпісаў дзве свае кніжкі.

Дарэчы, нядаўна я выпадкова даведаўся, што жыве яшчэ сведка той даўняй сустрэчы Янкі Купалы з І. Свянціцкім. Гэты сведка — старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН СССР, доктар гістарычных навук, наш зямляк М. М. Улашчык. У сваім лісце з Масквы ён прыгадаў той далёкі 1927 год, калі працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР. «Гуманітарны аддзел бібліятэкі, — падзяліўся ўспамінамі Мікалай Мікалаевіч,— у той час знаходзіўся ў тым будынку, у якім пазней быў Дом мастацтваў. На верхнім паверсе, з левага боку ад увахода, змяшчаўся Беларускі аддзел. Там проці вокан стаяў доўгі стол, на якім выкладаліся апошнія кніжныя навіны і таму туды часта заходзілі навуковыя працаўнікі, часам (але рэдка) заходзіў і Купала. Адзін раз, калі я быў у аддзеле, туды зайшоў Купала з незнаемым мне чалавекам росту траха ніжэй за Купалу. У яго былі яскравыя зусім чорныя вочы і такі высмуклы твар, што я падумаў: пэўна нехта з Каўказа. Купала падышоў да стала і стоячы зрабіў надпіс на кнізе, пасля чаго падаў яе таму чалавеку... Калі яны абодва выйшлі, загадчыца аддзела сказала, што гэта быў Свянціцкі. «Той самы?»,— запытаў я. «Той самы»,— адказала яна».

Успамінамі М. М. Улашчыка і завершым наш расказ пра добрага знаёмага Янкі Купалы, удумлівага даследчыка і шчырага прапагандыста яго творчасці прафесара Іларыёна Свянціцкага.

## ЗА РАДКАМІ АЎТОГРАФАЎ

У 1930 годзе ў межах усяго Савецкага Саюза ўрачыста адзначалася 25-годдзе творчай дзейнасці Янкі Купалы. У прыватнасці, 9 чэрвеня вялікі творчы вечар юбіляра адбыўся ў Камуністычнай акадэміі ў Маскве. Вёў вечар нарком асветы РСФСР А. Луначарскі. Прывітаць юбіляра прыйшлі М. Галодны, С. Гарадзецкі і многія іншыя рускія пісьменнікі, у тым ліку пачынаючыя літаратары.

З таго часу дайшоў да нас адзін аўтограф паэта, адрасаваны чалавеку, якога мы зусім не ведалі. На першым томе Збору твораў (выданне 2-е — Мінск, 1928) рукой Купалы напісана фіялетавым чарнілам:

Паважанаму тав. Д. І. Шырыну-Юрэнеўскаму шчыра ўдзячны за прывітанні ў дзень юбілею. Янка Купала. Масква, 12/VI-30 г.

Том гэты ўваходзіць у кнігазбор Літаратурнага музея ў Маскве.

Хто ж такі Шырын-Юрэнеўскі?

Ні корпанні па розных даведачных выданнях, ні роспыты асобных знаўцоў гісторыі рускай літаратуры не змаглі даць адказу на гэта пытанне. Нарэшце натрапіў на невялікую, у шаснаццаць старонак, кніжачку вершаў Шырына-Юрэнеўскага «В пути», выдадзеную ў 1929 або 1930 годзе (кніжка без даты) Усерасійскім таварыствам сялянскіх пісьменнікаў[1]. На шчасце, на вокладцы гэтай, відаць, адзінай кніжкі маладога паэта аказалася невялікая біяграфічная нататка, з якой мы даведваемся, што Дзмітрый Ільіч Шырын-Юрэнеўскі нарадзіўся ў Корчаўскім павеце Цвярской губерні. Да 13 год жыў у вёсцы. Маці працавала на заводзе. Бацька — майстравы, жыў у Пецярбурзе. Не закончыўшы школы, юнак паехаў у 1913 годзе ў Пецярбург шукаць кавалак хлеба. Пасля — царская армія, удзел у рэвалюцыях. У час грамадзянскай вайны служыў у Чырвонай Арміі, быў палітруком, сакратаром партячэйкі, ваенкорам. Друкавацца пачаў з 1921 года — спачатку ў правінцыйнай прэсе, а пасля і ў маскоўскіх выданнях. «Працягвае друкавацца ў газетах і часопісах Масквы, выступае з вершамі і апавяданнямі»,— падкрэслівалася ў нататцы.

Пра далейшы лёс Шырына-Юрэнеўскага нам нічога невядома.

Аднак і гэтага зусім дастаткова, каб уявіць атмасферу тагачаснай народнай павагі і любові да Купалы, убачыць канкрэтнае грамадскае аблічча тых, хто абраў Купалу сваім ідэйным і творчым настаўнікам. З другога боку, ці не раскрывае аўтограф надзвычайную купалаўскую далікатнасць, тактоўнасць, пачуццё ўдзячнасці — рысы паэтавай натуры, якія захаплялі кожнага, хто ведаў яго?

Некалі, відаць, хораша і падрабязна будзе напісана пра сапраўдную мужчынскую дружбу, якой узнагародзіў лёс Янку Купалу і вядомага рускага мастака Канстанціна Елісеева. Яна, гэта дружба, засведчана ў цёплых, сардэчных лістах паэта да свайго сябра, а таксама, у няменшай ступені, ва ўспамінах Елісеева пра Купалу[2]. Тут жа хочацца дадаць толькі невялікі штрышок да агульнага малюнка як чыста чалавечых узаемаадносін, так і беларуска-рускіх літаратурных кантактаў.

У даволі аб'ёмістым машынапісным томе «Успамінаў» К. Елісеева, які знаходзіцца ў фондах ЦГАЛИ[3], ёсць такі эпізод, што можа мець

---

[1] Ширин-Юреневский Д. И. В пути: Стихи.— М.: Изд-во Всероссийского общества крестьянских писателей. / Новинки крестьянского творчества, № 27 (Б. д.)

[2] Елісееў Канстанцін. Апошняе спатканне.— У кн.: Такі ён быў, с. 335-338.

[3] ЦГАЛИ, ф. 2708, воп. 1, адз. зах. 26, арк. 179—209.

цікавасць для біёграфаў і даследчыкаў творчасці Янкі Купалы. Аднойчы, прыгадвае Елісееў, ён звярнуў увагу Купалы на прыблізнасць, недакладнасць перакладу на рускую мову паэмы «Над ракою Арэсай», ажыццёўленага ў 1933 годзе С. Гарадзецкім. У адказ на гэта паэт прапанаваў перакласці па-руску верш «Генацвале». «Мы сядзелі за сталом,— піша Елісееў,— і я тут жа, не сыходзячы з месца, пераклаў, і вось што ў мяне атрымалася:

Снег белеет на стремнине,
На горе, в лазурной дали,
И цветут цветы в долине
У твоих ног, генацвале.
Любо было мне в Цхалтубо
В животворной теплой цхали,
Было любо, как голубил
Тебя в думках, генацвале.
Без твоей улыбки милой
Излечился б я едва ли.
Ты мои вернула силы
О, грузинка, генацвале.
И поеду я далеко —
Сердце стиснется в печали,
Станет грустно, одиноко
Без тебя мне, генацвале.
Будут сниться скалы, горы,
Грузии чудесной дали
И одна ты в ясных зорях
Будешь сниться, генацвале.
Элико, мне при прощаньи
Зорьки грустные мигали...
«Сулико» на расставанье
Спой мне, солнце-генацвале[1].

Не месца тут вызначаць мастацкія вартасці елісееўскага перакладу гэтага верша Янкі Купалы. Зазначу толькі, што пераклад В. Гусева, які публікуецца апошнім часам, пры некаторых сваіх перавагах усё-такі ў шэрагу месц уступае перакладу К. Елісеева.

А як жа ўспрыняў пераклад сам аўтар? «Мой пераклад,— піша К. Елісееў,— спадабаўся паэту больш за існуючы і Янка яго «аўтарызаваў», г. зн. змацаваў сваім подпісам»[2]. Ужо пасля смерці паэта Елісееў занёс пераклад у рэдакцыю «Литературной газеты». Аднак там яго добра ведалі як мастака, «і таму спыталіся: якія лаўры даражэй —

[1] Там жа, арк. 208—209.
[2] Там жа, арк. 209.

перакладчыка ці мастака, на што,— рэзонна заключае ён,— я адказаў, што лаўры мастака, само сабой, мне даражэй»[1].

Так скончылася гісторыя з елісееўскім перакладам «Генацвале».

Яшчэ адзін даравальны надпіс Янкі Купалы. На гэты раз не на кнізе, а па фотаздымку, які захоўваецца ў рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага ў Маскве. На фотапартрэце Купала сядзіць за сталом, паклаўшы на стол рукі, пранікнёна ўзіраецца ў нас. На звароце здымка — словы надпісу:

Институту Мировой литературы имени А. М. Горького в знак признательности за прекрасную Пушкинскую выставку в нашем ЦДКА. Янка Купала. Минск, 19/IV-37 г.[2]

Аўтограф адсылае нас да падзей 45-гадовай даўнасці — да 1937 «пушкінскага года». Уся краіна адзначала сотую гадавіну з дня смерці Аляксандра Пушкіна, падзею, якая ператварылася ў сапраўднае свята культур усіх народаў СССР.

Янка Купала яшчэ ў пачатку 1936 года быў уключаны ў склад не толькі беларускага, але і Усесаюзнага пушкінскіх юбілейных камітэтаў, у працы якіх прымаў самы чынны ўдзел. Рыхтуючыся да юбілею, ён пераклаў на беларускую мову многія сотні пушкінскіх радкоў, у тым ліку паэму «Медны коннік». У перадюбілейныя і юбілейныя дні ў рэспубліканскіх газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва» і «Рабочий» паэт змясціў артыкулы пра Пушкіна, пераклады яго вершаў. 12 лютага 1937 года Янка Купала прысутнічаў на ўрачыстым агульнагарадскім пушкінскім вечары. А праз дзесяць дзён ён ужо ўдзельнічае ў Пушкінскім пленуме праўлення Саюза пісьменнікаў СССР у Маскве, дзе выступае з чытаннем урыўкаў са свайго перакладу «Меднага конніка».

У той час Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага арганізаваў вялікую Пушкінскую выстаўку, на якой былі паказаны арыгінальныя творы класіка рускай літаратуры, пераклады іх на мовы народаў свету і крытычная літаратура пра аўтара «Яўгенія Анегіна». Выстаўка, пасля Масквы, пабывала і ў іншых гарадах Савецкага Саюза. У красавіку (як пра гэта сведчыць і купалаўскі аўтограф) яна прывандравала ў Мінск, размясцілася ў прасторным фае Цэнтральнага дома Чырвонай Арміі (зараз — акруговы Дом афіцэраў).

Янка Купала, безумоўна, не мог не пабыць на Пушкінскай выстаўцы. Пабыў, азнаёміўся з яе экспанатамі. І, відаць, спадабалася яна яму, моцна спадабалася, раз у знак удзячнасці падараваў ён

[1] Там жа.
[2] Рукапісны аддзел Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, ф. 109, воп. 1, адз. зах. 8.

арганізатару выстаўкі — Інстытуту сусветнай літаратуры — свой фотапартрэт.

## НА СВЯЦЕ БРАТНІХ СЭРЦАЎ

1937 год выдаўся багатым на знамянальныя падзеі.

У лютым, як мы толькі што казалі, уся краіна адзначыла 100-годдзе з дня смерці «сонца рускай паэзіі» — Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна.

12 снежня — Дзень выбараў у Вярхоўны Савет СССР — савецкі народ сустрэў новымі працоўнымі поспехамі ўдзельнікаў стаханаўскага руху, значнымі дасягненнямі сацыялістычнай навукі, тэхнікі і культуры.

24 снежня юбілейныя віншаванні прымала Савецкая Украіна — з выпадку яе 20-годдзя.

І завяршыўся год усенародным святкаваннем пятнаццатай гадавіны з дня ўтварэння Саюза Савецкіх Садыялістычных Рэспублік (30 снежня).

Да гэтых, усесаюзнага значэння, падзей далучылася яшчэ адна — 750-годдзе класічнага твора грузінскай літаратуры — паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». У даваенны час юбілей «Віцязя ў тыгравай шкуры» стаў у адзін шэраг з іншымі чырвонымі датамі ўсёй савецкай літаратуры, такімі, як 100-годдзе з дня смерці А. Пушкіна (1937), 1000-годдзе армянскага гераічнага эпасу «Давід Сасунскі» (1939), 125-годдзе з дня нараджэння. Тараса Шаўчэнкі (1939), 500-годдзе калмыцкага нацыянальнага эпасу «Джангар» (1940).

Ва ўсіх саюзных рэспубліках былі створаны юбілейныя камітэты, праводзіліся літаратурныя выстаўкі і вечары, спешна перакладалася паэма на тыя мовы, на якіх яшчэ не прагучала. Літаратурны год, што пачаўся пушкінскай датай, хораша завяршыўся руставелеўскімі ўрачыстасдямі ў Тбілісі. Эпагеем урачыстасцей стаў V юбілейны пленум Саюза савецкіх пісьменнікаў, які праходзіў на зямлі геніяльнага Шата Руставелі 24-30 снежня 1937 года.

З Мінска на пленум выехала беларуская дэлегадыя ў складзе П. Броўкі, М. Лынькова, П. Глебкі і М. Хведаровіча. На станцыі Мінеральныя Воды ў скоры поезд «Масква — Тбілісі», які імчаў у Грузію амаль усё праўленне Саюза пісьменнікаў СССР, падсеў Янка Купала (ён лячыўся ў кіславодскім санаторыі імя М. Горкага). Увішны карэспандэнт «Литературной газеты» ў сваім паведамленні, памечаным

«Скоры Масква — Тбілісі, 20-30 снежня», неўзабаве перадаваў па тэлеграфе:

«Пра... творчае спаборніцтва паэтаў (на лепшы пераклад «Віцязя ў тыгравай шкуры» на беларускую мову.— В. Р.) расказваюць у беларускім купэ,— тут едуць Янка Купала, Міхась Лынькоў, Пятрусь Броўка, Пятрусь Глебка...

— На беларускую мову перакладзены ўжо 36 раздзелаў; яны друкуюцца ў газетах і часопісах. У 1938 годзе выйдзе ўся паэма — яе перакладзе той паэт, чыя работа будзе прызнана лепшай»[1].

З Масквы да Тбілісі поезд ішоў трое сутак. 23 снежня 1937 года, а палове трэцяй дня, «пісьменніцкі поезд» спыніўся на пероне Тбіліскага вакзала. З яго выйшлі вядучыя савецкія пісьменнікі П. Антакольскі, М. Асееў, Дзям'ян Бедны, Ус. Вішнеўскі, Ф. Гладкоў, М. Забалоцкі, А. Караваева, У. Лугаўской, Л. Лявонаў, А. Новікаў-Прыбой, Ф. Панфёраў, М. Пагодзін, І. Сяльвінскі, А. Серафімовіч, А. Суркоў, А. Фадзееў, К. Федзін, М. Ціханаў, М. Шагінян і інш. На святочна ўпрыгожанай прывакзальнай плошчы пісьменнікаў сустрэла пяцітысячнае людское мора. Пачаўся мітынг.

Мітынг адкрыў адказны сакратар Саюза пісьменнікаў Грузіі К. Чарквіяні. Пасля невялікага прывітання драматурга, народнага артыста Грузінскай ССР Ш. Дадыяні слова ад пісьменнікаў, якія прыбылі на Руставелеўскі пленум, даецца Янку Купалу.

Газетны здымак 45-гадовай даўнасці толькі ў агульных рысах перадае ўзбуджана-радаснае, узнёслае аблічча народнага паэта Беларусі. Вось ён на імправізаванай трыбуне, у акулярах, з лістком паперы ў руках. Здаецца, нават сёння чуваць яго ўсхваляваны голас:

«Дарагія таварышы! Я шчаслівы на квітнеючай грузінскай зямлі [...] вітаць гераічны грузінскі народ з вялікім радасным святам — 750-годдзем з дня напісання геніяльнай паэмы Шата Руставелі [...]

Толькі савецкая рэчаіснасць, аддаўшы належнае бессмяротнаму генію грузінскага народа Шата Руставелі, зрабіла яго імя, яго непераўзыдзеную творчасць агульным здабыткам усіх народаў вялікага Савецкага Саюза, укладам у багацейшую скарбніцу сацыялістычнай культуры.

Дазвольце яшчэ раз горача вітаць вас з вялікай урачыстасцю і выразіць вам ад беларускага народа, беларускай літаратуры нашу гарачую любоў, нашу сардэчную радасць і братэрскую прыхільнасць [...]

Няхай жыве непарушная дружба народаў Савецкага Саюза!..

---

[1] Лит. газ., 1937, 26 дек.

Слава вялікаму грузінскаму народу, які даў чалавецтву цудоўных геніяў!..»[1]

Над плошчай — выбух воплескаў. Гучаць рускае «Ура!», «Добро пожаловать!», грузінскае «Ваша!».

Пленум распачаў сваю працу ў пятніцу 24 снежня 1937 года ў 19 гадзін, у памяшканні драматычнага тэатра імя Руставелі. У гэты дзень усе цэнтральныя і вядучыя рэспубліканскія газеты змясцілі матэрыялы, прысвечаныя выдатнай падзеі ў культурным жыцці Грузіі. У прыватнасці, амаль увесь нумар маскоўскіх «Известий» быў прысвечаны 750-годдзю «Віцязя ў тыгравай шкуры». Побач з вялікім юбілейным артыкулам М. Ціханава «Паэт і свет», вершам П. Антакольскага «Руставелі», выказваннямі пра паэму А. Карнейчука, Ю. Тынянава, Я. Віртанена і іншымі матэрыяламі, публікаваўся і малавядомы сёння допіс Якуба Коласа «Скарбонка паэзіі»:

Семьсот пятьдесят лет разделяют нас от дня создания гениальной поэмы Руставели. В силу сложившихся исторических обстоятельств поэзия Шота Руставели до последних дней не была достоянием широких читательских масс. Поэма пользовалась популярностью лишь на своей родине. И только в наши дни, дни советской власти, изумительная сокровищница подлинной поэзии не только грузинского, но и народов мира, становится нашим общим достоянием.

Ныне «Витязь в тигровой шкуре» почти полностью переведен на белорусский язык. Широкое ознакомление с творчеством Руставели будет только способствовать укреплению несокрушимой дружбы народов нашего Союза, развитию пх быстрого роста и взаимного познания[2].

Пленум адкрыў адказны сакратар праўлення СП СССР У. Стаўскі. У прэзідыум абіраюцца кіраўнікі Камуністычнай партыі і ўрада Грузіі, выдатныя савецкія пісьменнікі, у тым ліку Янка Купала.

Вось кароценькі дзённік працы пленума, складзены мной паводле паведамленняў тагачасных выпускаў газет «Заря Востока» і «Вечерний Тбилиси».

24 снежня. Пасля прывітальнага слова грузінскага літаратара Бесо Жгенці слова даецца старэйшаму рускаму пісьменніку А. Серафімовічу. Удзельнікі пленума заслухалі даклад П. Інгарокава «Шата Руставелі і яго паэма».

25 снежня. Пленум працаваў пад старшынствам Г. Лахуці. З дакладамі выступілі П. Паўленка і В. Гапрындашвілі. Ад імя АН СССР

---

[1] Заря Востока (Тбілісі), 1937, 24 дек.
[2] Колас Якуб. Сокровищница поэзии.— Известия, 1937, 24 дек.

пленум вітаў акадэмік І. Мешчанінаў. Затым слова атрымалі М. Ціханаў, Паўло Тычына і азербайджанскі пісьменнік Мірза Ібрагімаў.

У гэты дзень пісьменнікі наведалі Тбіліскую шоўкаткацкую фабрыку, выступілі перад рабочымі. Невялікая група літаратараў у гэты час аглядала карпусы новага курорта ў Цхалтубе. «Вечерний Тбилиси» змясціў захопленыя водгукі некаторых пісьменнікаў (У. Стаўскага, П. Паўленкі, М. Ляшко) пра гэты курорт, сярод іх — такі запіс у курортнай «кнізе пажаданняў», зроблены С. Міхалковым:

Я не забуду никогда,
Как это все чудесно было,
Как эта серная вода
Меня согрела и омыла.
И пусть всегда, и пусть везде
Из уст в уста проходит слава,
Что мы на суше и в воде
На отдых наш имеем право.

Вечарам удзельнікі пленума глядзелі ў драматычным тэатры імя Руставелі новую п'есу Шалвы Дадыяні «З іскры».

26 снежня. У гэты нядзельны дзень усе ўдзельнікі пленума спецыяльным поездам выехалі ў горад Горы. Там з удзелам пісьменнікаў адбыліся два мітынгі, на якіх выступілі Дзям'ян Бедны, У. Лугаўской, Л. Лявонаў, К. Федзін і інш. Затым пачаўся ўсесаюзны радыёмітынг. Ва ўсіх канцах неабсяжнага Савецкага Саюза прагучалі з радыёпрыёмнікаў галасы прадстаўнікоў рускага (Дзям'ян Бедны, Ус. Вішнеўскі) і грузінскага (С. Чыкавані), украінскага (П. Тычына) і беларускага (Янка Купала), таджыкскага (Г. Лахуці), карэла-фінскага (Я. Віртанен) і ўзбекскага (Г. Сагатаў) народаў, якія — кожны на сваёй роднай мове — славілі дружбу савецкіх людзей, шчаслівую Савецкую Грузію, вялікага Шата Руставелі. Янка Купала спецыяльна да юбілею напісаў верш «Сонечнаму Шата Руставелі»:

Стагоддзі мінулі, йсці будуць стагоддзі,
А ў гордым, свабодным грузінскім народзе
Для песень, для шчасця, хвалюючы грудзі,
Як быў Руставелі, так вечна жыць будзе.
Каўказскія казкі, як ласка дзявоча,
Далека, прывабна, скрозь сонца, скрозь ночы,
Разносяць па свеце людскія прыселлі
І думы, і сказы, што даў Руставелі (4, 320).

Верш гэты ў перакладзе на грузінскую мову надрукавала газета «Камунісці».

Вярнуўшыся з паездкі, пісьменнікі ў гэты ж вечар слухалі оперу «Даісі» ў Грузінскім дзяржаўным тэатры оперы і балета імя Палеашвілі.

27 снежня. Даклад «Матэрыяльная і інтэлектуальная культура Грузіі ў эпоху Руставелі» прачытаў прафесар І. Джавахішвілі. Пленум прывітаў акадэмік В. Струве. Выступілі І. Сяльвінскі і выдатны армянскі паэт А. Ісаакян. Удзельнікі пленума, стоячы, горача віталі з'яўленне ў зале 92-гадовага казахскага акына Джамбула, які прыехаў у Тбілісі пасля адкрыцця пленума.

Перад закрыццём ранішняга пасяджэння старшынствуючы Сандро Эулі зачытаў прывітальныя тэлеграмы ўдзельнікам пленума, прысланыя пісьменнікамі Якуціі, Аляксеем Талстым і Якубам Коласам.

На вячэрнім пасяджэнні выступілі Дзям'ян Бедны, М. Бажан, А. Жараў, М. Забалоцкі, В. Інбер, Ф. Панфёраў, П Антакольскі і інш. Пленум віталі госці, замежныя рэвалюцыйныя пісьменнікі Лакснес (Ісландыя), Белеў (Балгарыяі), Пля-і-Бельтран (Іспанія). П. Паўленка выносіць на разгляд праект рэзалюцыі: адобрыць работу перакладчыкаў, якія поўнасцю пераклалі паэму Шата Руставелі на рускую, украінскую, азербайджанскую і армянскую мовы (крыху пазней на стол пленума лёг і пераклад паэмы на ўзбекскую мову). Лічыць безумоўна неабходным масавае выданне «Віцязя ў тыгравай шкуры» на мовах народаў нашай краіны. Рэзалюцыя прымаецца аднагалосна.

Вечарам вялікая група пісьменнікаў наведала Тбіліскі дзяржаўны універсітэт, прыняла ўдзел у літаратурным вечары.

28 снежня. З дакладам «Грузінская літаратура за пяць год» выступіў К. Чарквіяні. Затым слова даецца Самеду Вургуну (Азербайджан), Наіры Зар'яну (Арменія), Плієву (Паўднёвая Асеція), Шапавалаву (Беларусь), Каратаеву (Казахстан), М. Пагодзіну і інш.

29 снежня. Заключнае пасяджэнне пленума адкрылася пад старшынствам Ус. Вішнеўскага. Слова атрымліваюць М. Ціханаў, А. Суркоў. Джамбул Джабаеў пад гукі казахскай дамбры праспяваў свой верш пра дружбу савецкіх народаў.

Ад імя беларускіх пісьменнікаў слова пра Шата Руставелі сказаў Міхась Лынькоў. «Юбілей Шата Руставелі, — падкрэсліў ён, — вучыць нас, беларускіх пісьменнікаў, высока цаніць і беражліва захоўваць усё тое, што створана народам за доўгія вякі яго існавання, уважліва вывучаць яго мінулае». М. Лынькоў расказаў, як літаратары Беларусі перакладаюць на беларускую мову «Віцязя ў тыгравай шкуры» Шата Руставелі — паэта, што стаў «сімвалам творчага генія грузійскага

народа-песняра, народа-мастака, мысліцеля, народа — дзяржаўнага дзеяча, народа — творцы новай сацыялістычнай рэчаіснасці»[1].

З заключным словам на пленуме выступіў У. Стаўскі.

Удзельнікі пленума ў гэты ж дзень агледзелі выстаўку «Руставелі і яго эпоха», якая адкрылася ў памяшканні Дзяржаўнага музея Грузіі. А вечарам адбыўся вялікі інтэрнацыянальны вечар паэзіі. З чытаннем урыўкаў «Віцязя ў тыгравай шкуры» ў перакладах на родную мову, твораў, прысвечаных Грузіі і Шата Руставелі, выступілі Н. Зар'ян, М. Забалоцкі, П. Антакольскі, С. Вургун, М. Бажан, Т. Жарокаў, М. Рыльскі, І. Сяльвінскі, М. Ушакоў, В. Інбер і інш. На вечары прагучала і беларускае слова — з вуснаў П. Броўкі, П. Глебкі, М. Хведаровіча.

Такі кароткі пераказ надзвычай змястоўнай, вялікай праграмы Руставелеўскага пленума праўлення Саюза пісьменнікаў СССР, у якім самы чынны ўдзел прыняў Янка Купала. Усё гэта ён чуў, бачыў, убіраў розумам і сэрцам, да ўсяго меў непасрэднае дачыненне.

Аднак што ж адчуваў тады вялікі пясняр, як ён ставіўся да асобных людзей, як рэагаваў на пачутае і ўбачанае? Адказ на гэтыя пытанні ў той ці іншай ступені могуць даць успаміны сучаснікаў Купалы, відавочцаў тых памятных падзей.

Значную цікавасць для нас маюць, у прыватнасці, згадкі паэта Тарэня Масэнкі, які ў складзе ўкраінскай дэлегацыі прыехаў на Руставелеўскі пленум. «Усе дзесяць дзён, пакуль праходзіў Руставелеўскі пленум, — прыгадваў Т. Масэнка ў пачатку 50-х гадоў, — мы сустракаліся з Іванам Дамінікавічам пастаянна ранкамі і вечарамі, разам сядзелі на доўгіх пасяджэннях. Без асаблівага намеру, ненаўмысна, а так, як бывае ў жыцці, я з цікавасцю і павагаю прыглядаўся да яго звычак, упадабанняў, да ўсяго, што любіў і да чаго ставіўся з стрыманай, але непрыхаванай непрыязнасцю Іван Дамінікавіч. А тое, што яму надта не падабалася, ён высмейваў востра і дасціпна. Толькі да памылак і неістотных недахопаў наймалодшых таварышаў ён ставіўся з мяккай, добразычлівай іроніяй. Найбольш не любіў паэт пустаслоўя, таксама як афіцыйных прамоў, напышлівых, ды бедных зместам і залішне доўгіх. Спакойным і мяккім тонам, але заўжды з непрыхільнасцю, бязлітасна высмейваў ён позу, пыху і чванлівасць»[2].

Т. Масэнка ўспамінаў, што Янку Купалу стамлялі доўгія пасяджэнні. Пасля ж пасяджэнняў пісьменнікі збіраліся на сяброўскія гутаркі. За адным сталом сыходзіліся Янка Купала, Аляксей Новікаў-Прыбой, Максім Рыльскі, Сімон Чыкавані, Леанід Лявонаў... Асаблівай

[1] Заря Востока, 1937, 30 дек.
[2] Масенко Терень. Слово про Янку Купалу.— Вітчизна, 1952, № 6, с. 154.

узаемнай любоўю і павагай былі звязаны Купала, Рыльскі і Новікаў-Прыбой, бо, як піша Т. Масэнка, «вельмі падобныя былі звычаі, паводзіны, манеры трымаць сябе сярод людзей гэтых выдатных майстроў слова».

На пленум Янка Купала прывёз з паўдзесятка сваіх «Выбраных твораў», якія незадоўга перад тым пабачылі свет на Украіне. Кніга атрымалася цікавай, выдадзена яна была з любоўю. Пясняр дарыў яе сваім найбліжэйшым сябрам.

Паэт у тыя дні крыху занядужаў. Па настаянню дактароў ён два дні праляжаў у гасцініцы, не хадзіў на пасяджэнні. Але «неўзабаве Іван Дамінікавіч падужэў, уласна — угаварыў прыветлівую грузінскую дактарку, каб дазволіла яму зноў хадзіць на пленум. І зноўку, — як прыгадвае Т. Масэнка, — мы былі ў цэнтры таго святочнага віру,— то на літаратурных вечарах, то ездзілі аглядаць цудоўны, сонечны і ў снежні горад, яго выдатныя гістарычныя мясціны»[1].

Удзельнікам пленума асабліва запомнілася падарожжа ў грузінскі горад Горы. «Маладыя нашы паэты ехалі ў адным вагоне з Тычынам і Купалам. Пачынаўся цудоўны, сонечны ў тых краях і ў снежні ранак. Поезд ішоў прыгожай грузінскай далінай, між двух хрыбтоў, над крутымі берагамі Арагвы, якая паблісквала дзесьці далёка ўнізе. Дружная гутарка ў вагоне часта заціхала. Усе погляды былі звернуты да вагонных вокан. Іван Дамінікавіч засяроджана і задуменна падоўгу глядзеў на вяршыні гор у алмазных бліскучых вянках. Сын ляснога і далiннага краю, ён ласкава любіў Грузію і пра гэта гаварыў нам падчас той незабыўнай дарогі...»[2].

Магчыма, тады, ля вагоннага акна, узнікалі ў сэрцы песняра асобныя вобразы, вершаваныя радкі, якія пазней ляглі ў асобныя строфы яго цудоўных вершаў пра Грузію...

На самім пленуме Янка Купала не выступаў. Але пачуцці, выкліканыя судакрананнем з грузінскай зямлёй, яе народам, «сонечным Шата Руставелі», паэт выказаў — і не толькі ў прамове на мітынгу ў дзень прыезда на пленум. Газета «Вечерний Тбилиси» 26 снежня 1937 года змясціла невялікі артыкул Купалы пад назвай «Ідэі яго паэмы — ідэі ўсяго чалавецтва». Артыкул (дарэчы, да гэтага часу невядомы ў нас) надрукаваны побач з выказваннямі Ф. Гладкова, У. Стаўскага, К. Федзіна, Г. Лахуці і добра ўводзіць у свет думак і адчуванняў народнага паэта Беларусі, якія валодалі ім у тыя незабыўныя дні. Вось што гаварыў Янка Купала пра Грузію, Шата Руставелі, дружбу народаў:

---

[1] Там жа, с. 156.
[2] Там жа, с. 157.

Многие, писавшие до и после Руставели,— забыты, Руставели ж не только живет, Руставели вечно современен.

Идеи, выраженные, в его поэме, это идеи всего передового человечества.

Верность в дружбе, которую прославил поэт в своих героях, стала в наши дни, в нашей стране чувством более широким, более глубоким.

Сейчас это дружба не только человека с человеком, но и народа с народом — великая дружба, основа процветания Советского Союза.

Верность народов в дружбе — так расширила идеи Руставели современность.

Поэт ставил женщину на небывалую для своей эпохи высоту. Он провозглашал полное равенство ее с мужчинами.

Наша эпоха утвердила это равенство во всех областях общественной и государственной жизни, предоставила женщине то высокое место, которое по праву принадлежит ей.

Наших современников, людей Страны Советов, воодушевляет героизм, которым проникнута поэма Руставели. Этот героизм живет в душе каждого советского патриота. Мы все готовы проявить его, когда это понадобится в борьбе с врагом.

Значение Руставели для литературы народов Советского Союза огромно. И только нашей эпохе, эпохе ленинской национальной политики, обязаны мы тем, что яркое творчество Руставели стало достоянием широких масс.

Прежде, в царской России, Белоруссии, Украине о Грузии знали по стихам Лермонтова. Руставели был известен немногим по отрывкам из перевода Бальмонта.

Наша современность озарила ярким светом творчество гениального поэта, дала возможность живущим в тесном содружестве всем народам черпать из его сокровищницы.

30 снежня ў памяшканні Грузінскага дзяржаўнага тэатра оперы і балета імя Палеашвілі адбыўся пленум Тбіліскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных сумесна з удзельнікамі пісьменніцкага пленума. Гэта быў якраз той дзень, калі ўсе савецкія народы ўрачыста адзначалі 15-ю гадавіну з дня ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. З гэтымі датамі супала яшчэ адна знамянальная падзея: 20-годдзе ўтварэння Савецкай Украіны. Максім Рыльскі ў сваім выступленні вельмі дарэчы ўказаў на арганічную сувязь руставелеўскага свята з 15-годдзем СССР і 20-годдзем Савецкай Украіны. «Усе гэтыя даты, — падкрэсліў ён,— звязаны паміж сабой, як звязаны дружбай усе мы — людзі нашай краіны».

У той дзень украінская газета «Соціалістнчна Харківщина» змясціла прывітанні выдатных савецкіх літаратараў, удзельнікаў пленума, украінскаму народу з выпадку 15-годдзя ўтварэння СССР, 20-годдзя абвяшчэння УССР і ў сувязі з 750-годдзем з'яўлення паэмы Шата

Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры». Савецкую Украіну віталі Ф. Гладкоў, М. Рыльскі, С. Чыкавані (Грузія), М. Каратаеў (Казахстан), Г. Лахуці (Таджыкістан), Н. Зар'ян (Арменія), С. Вургун (Азербайджан), К. Ішанаў (Туркменія), Хусаінаў (Узбекістан), Уметаліеў (Кіргізія). Першым было надрукавана малавядомае сёння выказванне Янкі Купалы пад загалоўкам «Любоў усіх нацый»:

У сям'і вялікіх народаў Украіна, як адна з перадавых рэспублік, цвёрда крочыць уперад. Яна дасягнула вялікіх поспехаў у адзінай сям'і народаў.

Моцная згуртаванасць, пашана, любоў усіх нацый, мудрае кіраўніцтва роднай партыі — вось запарука нашай магутнай хады.

Украіна і Беларусь — дзве заходнія суседкі непасрэдна стыкуюцца з граніцай старога свету, які ўсёй сваёй звярынай натурай прагне задушыць нас.

Украіна, табе вораг
Ніякі не страшны,
Сцяг твой роўны паміж роўных
У Саюзе нашым[1].

Усе інтэрв'ю з пісьменнікамі, у тым ліку з Янкам Купалам, правёў спецыяльны карэспандэнт «Соціалістичноі Харківщини» Ф. Атакін у першыя дні працы Руставелеўскага пленума Саюза пісьменнікаў СССР[2].

Пленум закончыўся. Удзельнікі яго раз'ехаліся ва ўсе куткі Савецкага Саюза, захоўваючы ў сваіх сэрцах цяпло братэрскіх сустрэч, традыцыйнай грузінскай гасціннасці.

Янка Купала пасля пленума працягваў лячэнне, але ўжо не ў Кіславодску, а ў Цхалтубе: сюды яго накіравалі тбіліскія дактары «купацца, — як ён пісаў у адным з лістоў да М. Ісакоўскага, — у прыродна-цёплых радыёактыўных ваннах» (7, 502). Тут, у санаторыі, ён і напісаў свае вядомыя вершы «Генацвале» і «Грузіі», якія разам з «Сонечнаму Шата Руставелі» склалі яскравую старонку ў летапісе беларуска-грузінскіх літаратурных сувязей.

Пачуцці і думкі, плённыя кантакты з грузінскімі і іншымі літаратарамі, што ўзніклі падчас працы Руставелеўскага пленума, духоўна абагацілі народнага паэта Беларусі, доўга яшчэ жывілі яго творчую ўяву.

---

[1] Купала Янка. Любов всіх націй.— Соціалістична Харківіцйна, 1937, 30 груд.
[2] Атакін Ф. Гартування дружби.— Літ. Украіна, 1972, 29 груд.

## «СПРАВА» З АДНАТОМНІКАМ

У мяне ў руках — ліст Янкі Купалы, адрасаваны Накаракаву Мікалаю Нікандравічу:

Глубокоуважаемый тов. Накоряков!

Материал для однотомника я начал подбирать, но в связи с юбилеем Коласа работа у меня несколько задержалась. Постараюсь всеми силами поскорее ее окончить. Предполагаю в другой половине октября приехать в Москву с готовым материалом.

Я очень и очень извиняюсь, что по некоторым причинам не сделал этого раньше. О дне приезда в Москву сообщу заблаговременно.

С искренним приветом —

Янка Купала[1].

Ліст надрукаваны на машынцы праз сінюю ленту, подпіс — фіялетавым чарнілам. Праз увесь ліст — алоўкам (відаць, рукой Накаракава): «т. Соколов. Сообщить т. Мусаэлян и в дело переписки с автором». Пад лістом: «Читал», подпіс: «Мус...» (відаць, «Мусаэлян») і дата: «19/Х-1936 г.»

Прозвішча Накаракава М. Н. (1881-1970), аднаго з арганізатараў кнігавыдавецкай справы ў СССР, дырэктара (у 1930-1937 гадах) Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры (ГИХЛ), некалькі разоў згадваецца ў эпісталярнай спадчыне Янкі Купалы. Аднак ліст да яго адшуканы ўпершыню. І ўжо гэта адно патрабуе. асаблівай увагі і да зместу ліста, і да яго адрасата.

Разам з тым, ёсць яшчэ адзін момант, які не дазваляе абмежавацца звычайным каменціраваннем ліста, а прымушае паглядзець на яго як на істотнае звяно ў ланцугу даволі прыкметных фактаў творчага характару. Справа ў тым, што ліст знаходзіцца ля самага вытоку адной падзеі, якая хвалявала песняра больш двух гадоў. Я маю на ўвазе выпуск у свет аднатомніка «Избранных произведений» Янкі Купалы на рускай мове.

Як мы ўжо адзначалі, першая кніга Янкі Купалы на рускай мове ўбачыла свет у 1920 годзе (на вокладцы пазначаны 1919 год). Гэта — «Избранные стихотворения в переводах русских поэтов» пад рэдакцыяй І. Белавусава. Наступнае выданне, даволі ёмісты «Сборник стихов», было надрукавана толькі ў 1930 годзе[2]. Па 1936 год уключна — год напісання ліста Накаракаву — убачылі свет яшчэ чатыры рускія кнігі Янкі Купалы: асобнае выданне паэмы «Над ракою Арэсай»

---

[1] Рукапісны аддзел Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, ф. 115, воп. 1, адз. зах. 4.

[2] Купала Янка. Сборник стихов.— М: Госиздат, 1930.

у перакладзе С. Гарадзецкага[1], «Избранные стихи» савецкага перыяду[2], «Избранные стихи и поэмы. 1906-1935» пад рэдакцыяй С. Гарадзецкага[3] і кніга вершаў «Под новым солнцем»[4].

Здавалася б, на першы погляд, нямала. Аднак Янка Купала паранейшаму заставаўся малавядомы рускаму чытачу. Па-першае, далёка не ўсе яго лепшыя творы (асабліва дарэвалюцыйнага часу) былі перакладзены на рускую мову. Па-другое, большасць перакладаў былі выкананы на нізкім мастацкім узроўні, неслі на сабе адбітак перакладчыцкага валюнтарызму. Усё гэта, несумненна, Купала разумеў. Пагэтаму магчымасць выпуску ў свет новага выдання яго выбраных твораў, тым больш такім аўтарытэтным выдавецтвам, як ГИХЛ, пясняр сустрэў з непрыхаваным задавальненнем.

Відаць, дзесьці неўзабаве пасля адпраўкі ліста М. Накаракаву народны паэт скончыў падбіраць матэрыял для свайго аднатомніка і ў другой палове кастрычніка 1936 года адвёз машынапіс кнігі ў маскоўскае выдавецтва, бо ўжо 1 лістапада 1936 года ён пытаецца ў тагачаснага выдавецкага рэдактара кнігі Я. Мазалькова: «Як справа з перакладамі? Вельмі прашу рушыць гэтую справу як мага ў палавіне лістапада. Я прыеду ў Маскву. Пажадана, каб ужо быў гатовы матэрыял. Прыцягніце т. Суркова да стылістычнай рэдакцыі» (7, 493).

«Прыспешыць гэтую справу» просіць Янка Купала Яўгена Мазалькова і пазней (ліст ад 11 лістапада 1936 года — 7, 493). Побач з тым ён піша С. Гарадзецкаму, просіць пераглядзець і выправіць яго ранейшыя пераклады, асабліва «Над ракою Арэсай». Раіць свайму рэдактару; «Калі будзеце ўключаць верш Коласу[5], то толькі ў перакладзе Ісакоўскага, інакш — не трэба» (8, 494-495). Чытае і рэдагуе прадмову да аднатомніка, напісаную самім Я. Мазальковым.

«Што наогул са зборнікам? Калі будуць гранкі — пажадана як мага хутчэй, — то папрашу Вас выклікаць мяне ў Маскву» (7, 494),— піша паэт свайму рэдактару ў пачатку сакавіка 1937 года.

Аднак нават у ліпені 1937 года ў Маскву па гэтай прычыне аўтара будучай кнігі не выклікалі. «Што чутно? Як справы з «Однотомником»?» (7, 494),— зноў пытаецца Янка Купала. Гэта ж пытанне — і ў лісце да Мазалькова ад 19 лістапада 1937 года, пасланым з Кіславодска, дзе ў той час лячыўся пясняр: «Да Вас вялікая просьба: напішыце

---

[1] Купала Янка. Над рекой Орессой,— М.: ГИХЛ, 1933.

[2] Купала Янка. Избранные стихи.— М.: Сов. лит., 1934.

[3] Купала Янка. Избранные стихи и поэмы. 1906-1935.— М.: ГИХЛ, 1935.

[4] Купала Янка. Под новым солнцем,—М.: ГИХЛ, 1936.

[5] Маецца на ўвазе верш «Якубу Коласу». У аднатомнік гэты верш не ўвайшоў, трапіў ён у пасмяротнае выданне паэта: Купала Янка. Избранные произведения: В одном томе,— М.: ОГИЗ, 1943, с. 117-179.

пару слоў, у якім становішчы мая кніга. Мяне, Вы самі разумееце, гэта вельмі цікавіць» (7, 495).

З таго ж Кіславодска ў пачатку снежня 1937 года ляціць ліст і да М. Ісакоўскага: «...Вялікая да Вас просьба: пазваніце, будзьце ласкавы, Мазалькову, калі ён у Маскве, і спытайцеся, у якім становішчы мой аднатомнік. Калі не дазвоніцеся да яго, то званіце Мусальяну (тут памылка, трэба «Мусаэляну». — В. Р.) ці так каму-небудзь, але якнебудзь даведайцеся» (7, 501).

А становішча з аднатомнікам сапраўды было кепскім, нават крытычным. Мала таго, што зацягнуліся пераклады, іх рэдактура, — здарылася новая бяда. Як прыгадваў пазней Я. Мазалькоў, пасля таго, як вёрстка «Избранных произведений» была нарэшце паслана Купалу, прагледжана ім і падпісана да друку, па нейкай недарэчнай выпадковасці ўвесь набор у друкарні... рассыпалі (7, 567). Трэба было набіраць зборнік зноўку, ад першай да апошняй старонкі, зноў вычытваць усе карэктуры, зноў пасылаць іх на подпіс аўтару... Зразумела, выхад яго ў свет яшчэ больш зацягваўся. І таму ў пачатку лютага новага, 1938 года Янка Купала піша Мазалькову адносна зборніка: «Які ўжо ні ёсць, няхай выходзіць» (7, 496).

«Избранные произведения» Янкі Купалы ўбачылі свет толькі ў 1938 годзе.

Так скончылася «справа» з аднатомнікам, нагаданая лістом песняра да дырэктара Дзяржаўнага выдавецтва мастацкай літаратуры М. Н. Накаракава.

## СВЕДКІ СУСТРЭЧ

Янка Купала і Міхаіл Ісакоўскі ўпершыню пазнаёміліся і пасябравалі ў першай палове 30-х гадоў. У лютым 1934 года ў клубе Саюза пісьменнікаў БССР яны першы раз парукаліся, а ў красавіку таго ж года ўжо доўга і сардэчна гутарылі ў Смаленску, на з'ездзе пісьменнікаў Заходняй вобласці. У дні працы з'езда разам з Ісакоўскім Купала выступаў па абласным радыё, а таксама на літаратурным вечары ў педагагічным інстытуце. Дарэчы, сёння на будынку педінстытута вісіць мемарыяльная дошка: «Здесь в 1934 году читал свои произведения народный поэт Белоруссии Янка Купала (И. Д. Луцевич)...»

Нават у тыя, цяпер ужо далёкія, 30-я гады Міхаіл Ісакоўскі быў даволі вядомым паэтам. Выхад яго кнігі «Провода в соломе» (1927) сардэчна вітаў Максім Горкі. Да Янкі Купалы яго прыцягвала сапраўдная народнасць беларускага песняра, усслаўленне ім першых

сацыялістычных пераўтварэнняў, паказ чалавека новай калгаснай явы. Гэта, у першую чаргу, і прадвызначыла пажыццёвую любоў Ісакоўскага да аўтара «Над ракою Арэсай».

Любоў гэта, як вядома, выявілася найперш у самаадданай працы М. Ісакоўскага па ўзнаўленню шматлікіх вершаў і паэм Янкі Купалы на рускай мове. Адзін пералік такіх твораў займае нямала месца: паэмы «Нікому», «Магіла льва», «Над ракою Арэсай», «Адвечная песня», вершаваныя цыклы «Мужыцкая доля», «З песень беззямельнага», вершы «Там», «Песня», «Мая навука», «Алеся», «Хлопчык і лётчык», «Сонцу» і інш. Яшчэ ў часе з'езда пісьменнікаў Заходняй вобласці Ісакоўскі пераклаў і надрукаваў у абласной газеце «Рабочий путь» верш Купалы «Май»[1] (пазней, у 1935 годзе гэты пераклад быў паўторна апублікаваны «Литературной газетой»). А ўжо ў 1937 годзе ў Смаленску выйшла асобная кніга Купалы ў перакладах Ісакоўскага[2]. Янку Купалу перакладаў Ісакоўскі і шмат пазней, у вайну і пасля вайны, ажно да самых сваіх апошніх дзён.

Янка Купала і М. Ісакоўскі былі блізкія адзін аднаму характарам сваёй творчасці, светаадчуваннем і светаразуменнем. У гэтай сувязі згадваецца такі факт. У 1938 годзе Купала напісаў верш «Тры арліцы», прысвечаны геройскаму беспасадачнаму пералёту Масква — Далёкі Усход трох савецкіх лётчыц: Расковай, Асіпенка і Грызадубавай. Такі ж верш у той самы час піша Ісакоўскі. «Якое атрымалася цікавае супадзенне, — паведамляе яму Купала 16 кастрычніка 1938 года. — У Вас «Три орлицы» і ў мяне «Тры арліцы». Нават аднолькавы лік строфаў. Дзеля цікаўнасці пасылаю Вам выразку з газеты «Звязда» ад 11.X.38 г. Цікава, што даты надрукавання супалі. Выходзіць, што ў мяне з Вамі адны думкі, адны настроі» (7, 502-503).

Сапраўды, у абодвух паэтаў думкі і перажыванні вельмі часта былі падобнымі ці нават аднолькавымі.

Наогул, «Купала і Ісакоўскі» — асобная і вялікая тэма, якая, дарэчы, знайшла ўжо свайго зацікаўленага даследчыка ў асобе В. Гапавай[3]. Адзіная наша мэта зараз — дадаць да гісторыі творчых узаемаадносін паэтаў некалькі новых штрыхоў, невядомых раней фактаў.

Творчая дружба, моцная мужчынская любоў Янкі Купалы і Міхаіла Ісакоўскага была ўзаемнай. Пра гэта, акрамя шматлікіх яе праяў (напрыклад, яшчэ ў 1934 годзе Купала пераклаў верш Ісакоўскага

---

[1] Рабочий путь (Смоленск), 1934, 30 апр.
[2] Купала Янка. Избранные стихи. В переводах М. Исаковского.— Смоленск: Зап. обл. гос. изд-во, 1937.
[3] Гапова П. Белорусско-русское поэтическое взаимодействие.— Мн.: Наука и техника, 1979, с. 35-110.

«Майстры зямлі»[1]), сведчаць неабвержна і даравальныя надпісы на кнігах.

У Літаратурным музеі Янкі Купалы ў Мінску захоўваецца зборнік паэта «Песня будаўніцтву» (Мінск, 1936) з аўтографам: «Тов. М. В. Исаковскому. Янка Купала. Минск, 17/XII-36 г.» Аўтограф гэты вядомы, прыведзены ён, у прыватнасці, у «Летапісу жыцця і творчасці» паэта, што ўвайшоў у сёмы том яго Збору твораў (7, 629). Аднак невядомыя да гэтага часу тры аўтографы Янкі Купалы на кнігах, якія былі падараваны ў свой час Міхаілу Ісакоўскаму і захоўваюцца зараз у ЦГАЛИ[2].

Першы з іх (па часе) пазначаны тым самым чыслом, што і зборнік «Песня будаўніцтву». У канцы снежня 1936 года М. Ісакоўскі, як бачым, прыязджаў у Мінск, сустракаўся з Янкам Купалам. На жаль мы не ведаем, чым быў выкліканы прыезд Ісакоўскага ў Мінск, пра што гаварылася на сустрэчы двух вялікіх паэтаў. Але тое, што гэта сустрэча адбылася менавіта 17 снежня 1936 года, даказваецца і даравальным надпісам на другім томе «Выбраных твораў» (Мінск, 1936) Янкі Купалы:

На добрую память Вам, дорогой Михаил Васильевич Исаковский. Янка Купала. Минск, 17/XII-36 г.

Дзве наступныя сустрэчы Янкі Купалы і М. Ісакоўскага, засведчаныя даравальнымі надпісамі на кнігах, адбыліся ў Маскве. І сустрэліся паэты пасля таго ўжо, як выйшаў з друку зборнік выбраных твораў песняра ў перакладзе Ісакоўскага, калі Ісакоўскі стаў своеасаблівым паўнамоцным прадстаўніком Купалы ў рускай паэзіі. У гэты час Купала добра ведаў і жонку Ісакоўскага Лідзію Іванаўну, заўсёды перадаваў ёй вітанні ў лістах, адрасаваных свайму сябру. Таму на кнізе «Слова аб палку Ігаравым» (Мінск, 1938), куды увайшлі паэтычны і празаічны пераклады гэтага славутага помніка старажытнай усходнеславянскай культуры, з'явіўся наступны надпіс:

Дорогим Лидии Ивановне и Михаилу Васильевичу Исаковским. С сердечным приветом Янка Купала. Москва, 8/VII-38 г.

Дарэчы, ні ў «Летапісу жыцця і творчасці», ні ў біяграфіях Янкі Купалы нічога не гаворыцца пра наведанне паэтам Масквы ў ліпені

---

[1] Літ. і мастацтва, 1934, 19 снеж.
[2] ЦГАЛИ, ф. 1373, воп. 3, адз. зах. 179.

1938 года. Само сабой зразумела, што нідзе не зафіксавана і тагачасная маскоўская сустрэча сяброў-паэтаў.

Наступны, трэці том сваіх «Выбраных твораў» (Мінск, 1937) Янка Купала падараваў М. Ісакоўскаму таксама ў Маскве, але ўжо трыма гадамі пазней, незадоўга да Вялікай Айчыннай вайны. Даравальны надпіс гаворыць:

Дорогому М. В. Исаковскому с сердечным приветом. Янка Купала. Москва, 7.IV.41 г.

Пра гэту сустрэчу, як і пра папярэднюю, мы дазнаемся з адной крыніцы — аўтографа. Аўтографа, каштоўнасць якога ад гэтага толькі ўзрастае.

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ПЕРАКЛАДУ

Хто не памятае цудоўнай паэмы Янкі Купалы пра нязломнага народнага музыку-гусляра, які выказаў у вочы князю-прыгнятальніку праўду і за гэта паплаціўся сваім жыццём?! Яшчэ з дзіцячых год у нашу свядомасць уваходзяць мілагучныя, задушэўныя радкі купалаўскага «Кургана»:

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,—
Удзірванелы курган векавечны.

Дуб галле распусціў каранасты над ім,
Сухазелле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханнем глухім, —
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.

На купалле там птушка садзіцца, пяе,
У пілілаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя (5,71).

Паэма перакладзена на шэраг моў народаў СССР і замежных краін. Неаднойчы яна перакладалася і на рускую мову.

Памятаецца, як гадоў дзесяць таму назад, калі я зацікавіўся рускімі перакладамі твораў Янкі Купалы, у вочы кінулася адна дэталь. У кнізе «Курган», якая выйшла па-руску ў Мінску за год да вайны і змяшчала пераклады трох паэм — «Кургана», «Бандароўны» і «Магілы

льва», — да радка «Чибис жажду свою забывает» ішла зноска: «Народная легенда говорит: было время, когда не стало в мире воды, и все люди, звери и птицы стали копать озеро. Только одна птица — чибис — не захотела принять участие в общей работе и за это теперь терпит вечную кару: летает над водой и просит «пить». Примечание автора»[1]. Вось гэтае «Примечание автора» і спыніла на сабе ўвагу. Як яно з'явілася? У беларускім тэксце ніякай заўвагі да радка «Каня вечнага «піць» не заводзіць» няма. Заўвага яўна разлічана на рускага чытача твора, якому невядома беларуская легенда. Зрэшты, у наступнай публікацыі перакладу так яно і значыцца: «Примечание автора к русскому переводу»[2]. Выходзіць, Янка Купала быў знаёмы з перакладам яшчэ да публікацыі... Дзе, калі ён пазнаёміўся з ім?

Адно пытанне даганяла другое. Адказаць жа хаця б на адно з іх — не ўдавалася. Нават прозвішчы перакладчыкаў — В. Рагавіцкі і З. Падарэўскі — зусім нічога не гаварылі літаратуразнаўцу.

Здавалася, так мы нічога і не даведаемся ні пра гісторыю перакладу «Кургана» на рускую мову, ні пра гісторыю з'яўлення купалаўскай зноскі-заўвагі, ні пра саміх перакладчыкаў...

Праўда, што да гісторыі перакладу, то адно было больш-менш відавочным: неабходнасць яго з'яўлення. Пераклад В. Рагавіцкага і Э. Падарэўскага быў не першым перакладам «Кургана» на рускую мову. Яшчэ ў 1935 годзе ў кніжцы Янкі Купалы, што выйшла ў Маскве пад рэдакцыяй С. Гарадзецкага, з'явіўся рускамоўны варыянт гэтага твора, выкананы М. Галодным, які, аднак, занадта легкаважна аднёсся да свайго перакладчыцкага абавязку. У выніку знікла лёгкасць і мілагучнасць купалаўскага радка, з'явіліся неапраўданыя вобразныя і нават сэнсавыя трансфармацыі, парушаны ў многіх месцах памер арыгінала і г. д. Вось, для прыкладу, тыя ж першыя тры страфы паэмы ва ўзнаўленні Галоднага:

На пустошах белорусской земли,
На прибрежьи реки быстротечной
Дремлет памятью дней, что в забвенье ушли,
Дернистый курган вековечный.

Раскинулся дуб коренастый над ним,
В грудь впились ему горькие травы,
И проносится ветер со вздохом глухим,
О минувшей вздыхает он славе.

---

[1] Купала Янка. Курган: Поэмы.— Мн.: Гос. изд-во при СНК БССР, 1940, с. 14.
[2] Купала Янка. Избранные стихи.— М.: Правда, 1941, с. 24.

На купалье там птица садится, поет,
Волки воют в болота пустые,
Солнце, огненный волос разбросив, встает,
Ночью звезды горят золотые[1].

Відавочна, ні сам аўтар паэмы, ні той, хто ведаў твор у арыгінале, не маглі згадзіцца з такой яго рускай версіяй. Патрэбен быў новы пераклад...

Але ж хто такія В. Рагавіцкі і Э. Падарэўскі?

Адказ на гэтае пытанне, як часам здараецца, прыйшоў зусім непрадбачана, нечакана.

Аднойчы чэрвеньскім днём 1976 года ў Літаратурны музей Янкі Купалы завітала немаладая жанчына, настаўніца з Валгаграда. Назвалася Ірынай Аляксандраўнай, сказала, што прыехала з вучнямі ў Мінск на экскурсію. Пераадольваючы хваляванне, дастала з сумачкі канверт: «Муж прасіў перадаць... Бярог усю вайну... Гэта — ад Янкі Купалы...»

На канверце значыўся адрас: «Москва, 75, Пушкинский студгородок, комната 16, В. Роговицкому». Зваротны адрас — «Я. Купала, Минск, Октябрьская, 40». У канверце ляжаў невядомы ліст Янкі Купалы, адрасаваны перакладчыкам «Кургана»— В. Рагавіцкаму і Э. Падарэўскаму:

Менск, 13.1-1939 г.

Дарагія таварышы!

Я толькі на днях вярнуўся з курорта і застаў Ваш пераклад і лісты.

Пераклад Ваш вельмі добры і буду рад, калі будзе надрукаваны. Адно ў ім — дзве грубыя памылкі, якія абавязкова трэба выправіць:

1) У мяне: «Каня вечнага «піць» не заводзе», Вы перакладаеце «каня», птушка, словам «конь». Як па-руску «каня» (яшчэ кажуць канюх) — не ведаю, але па народнай легендзе, калі не было вады, а людзі, звяры і птушкі ўзяліся капаць возера, адна каня ў гэтай працы агульнай не прыняла ўдзелу і за гэта цяпер цярпіць кару — лётае над вадой і просіць «піць». Мне здаецца, можна пакінуць «каня» і зрабіць вынаску.

2) У мяне «сарачні сох...», сарачні — гэта ад слова сорак, ну, як бы па-руску «сорок сороков». Тут можна паставіць сотні ці проста без счета, але ні ў якім разе «саранчой», бо выходзіць, што гэтыя сохі, як саранча, знішчалі Князева дабро, а не багацце яму здабывалі. Вось і ўсё. Я папрашу толькі Вас, як выправіце гэтыя два радкі, прышліце мне — я хачу ўключыць Ваш пераклад у зборнік для «Гослитиздата».

Са шчырым прывітаннем Я. Купала[2].

---

[1] Купала Янка. Избранные стихи и поэмы. 1905-1935, с. 200.
[2] Літаратурны музей Янкі Купалы, ф. 1, адз. зах. 129.

Ліст гэты я ўпершыню ўбачыў на пачатку 1980 года. Галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея Янкі Купалы, пляменніца песняра Ядвіга Юльянаўна Рамаеоўская паказала мне купалаўскія радкі, папрасіла пракаменціраваць іх, зрабіць публікацыю.

Можна ўявіць, з якой цікаўнасцю я ўчытваўся ў кожнае слова песняра. Адразу ж стала зразумелым, адкуль пайшло «Примечание автора к русскому переводу»: перакладчыкі амаль даслоўна запазычылі яго з купалаўскага ліста. Адказ на адно пытанне быў знойдзены. Заставаліся іншыя: Як прыйшла да перакладчыкаў думка перакласці паэму? Ці сустракаліся перакладчыкі з паэтам? Як на практыцы ажыццяўлялася перакладчыцкае сааўтарства? Дадаліся і новыя: Што значыць купалаўскае слова «лісты»? Паміж паэтам і яго перакладчыкамі існавала перапіска? Ці захаваліся ў перакладчыкаў другія лісты або іншыя матэрыялы песняра? І, безумоўна, цэнтральным сярод усіх пытанняў было: хто ж гэта за людзі, што ўзяліся перакладаць Янку Купалу? Не пабаяліся паспаборнічаць з даволі вядомым ужо ў даваенны час Міхаілам Галодным, ды і выйгралі гэтае спаборніцтва!

А тое, што спаборніцтва выйграна, у гэтым сумнявацца было нельга. Супастаўленне двух перакладаў — несумненна, на карысць В. Рагавіцкага і Э. Падарэўскага. Іх пераклад не толькі больш блізкі да арыгінала, але і больш паэтычны. Уласна, больш паэтычны, таму што больш дакладны, адэкватны. Тут першае вынікае з другога.

На параўнанне просяцца ўсё тыя ж тры першыя страфы паэмы:

Средь пустынных болот белорусской земли,
На прибрежьи реки быстротечной,
Дремлет памятник дней, что в забвенье ушли,
Обомшелый курган вековечный.

Ветви дуб наклонил коренастый над ним,
Грудь травой пожелтевшей покрыта,
Ветев стонет пад ним причитаньем глухим,
Ветер плачет о славе забытой.

На Купалье там звонко поют соловьи,
На Филиппов день волк завывает,
Солнце днем распускает там косы свои,
Ночью золотом звезды сверкают[1].

Не дзіўна, што сам Янка Купала, як сведчыць ліст, так высока ацаніў пераклад, хацеў уключыць яго ў маскоўскае выданне сваіх выбраных твораў.

[1] Купала Янка. Курган: Поэмы, с. 11.

Адказ на многія, калі не на ўсе, пытанні маглі даць толькі самі перакладчыкі. Адразу ж у Валгаград на імя Віктара Іванавіча Рагавіцкага паляцеў ліст. Пацягнуліся дні, тыдні чакання...

Той, хто займаўся калі-небудзь літаратуразнаўчым пошукам, са мною пагодзіцца: вытрымка, цярплівасць — адна з асноўных якасцей даследчыка літаратуры. Часамі патрэбна перавярнуць гару дакументальных архіўных матэрыялаў, перагарнуць не адну сотню газетных і часопісных старонак, затраціць не адзін месяц часу, каб адшукаць пару такіх неабходных для гісторыі літаратуры фактаў. Тое самае і з ліставаннем. Бывае, пішаш, рассылаеш лісты ў розныя месцы, праходзяць тыдні, месяцы, нават гады, адказу ж няма. А калі і прыйдзе адказ, то ў ім ані крупінкі новага для цябе. Але вось наступае той доўгачаканы дзень, калі ты становішся ўладальнікам унікальных звестак, і затрачаныя на чаканне тыдні, месяцы, нават гады акупляюцца радасцю першаадкрыцця.

Так было і на гэты раз.

Праходзілі тыдні, месяцы. Я пасылаў новыя лісты-напамінкі. Пошта маўчала.

Праўда, за час чакання, корпаючыся ў бібліятэчных фондах, я натрапіў на невялікі артыкул пра Эдуарда Падарэўскага, надрукаваны ў часопісе «Юность»[1]. На сутнасці, гэта нават не артыкул, а мемуары Г. Салаўёва — былога аднакашніка Э. Падарэўскага па вучобе ў маскоўскім Інстытуце філасофіі, літаратуры і мастацтва (ІФЛІ) імя М. Г. Чарнышэўскага. Высветлілася, што Э. Падарэўскі быў чалавекам таленавітым, высокаадукаваным, надзвычай дасціпным. Пісаў вершы і шмат перакладаў (!) — І. Бехера і іншых нямецкіх паэтаў[2]. Перад самай вайной скончыў ІФЛІ і стаў працаваць у выдавецтве «Художественная литература». У час Вялікай Айчыннай вайны малады лейтэнант змагаўся з ворагам са зброяй у руках. Загінуў у 1943 годзе.

Вось і ўсё. Нічога пра пераклады з Янкі Купалы ў артыкуле Г. Салаўёва не гаварылася.

Заставалася адна надзея — на В. Рагавіцкага.

Пасля паўгадавога чакання я ўжо, прызнацца, ледзь не страціў гэту надзею. Сапраўды, пасля таго, як жонка перакладчыка «Кургана» перадала купалаўскі ліст у Літаратурны музей Янкі Купалы, прайшло ледзь не чатыры гады. За гэты час усё магло здарыцца...

Ды раптам пад канец 1980 года сумненні развеяліся: пошта прынесла доўгачаканы адказ ад Віктара Іванавіча Рагавіцкага. На кан-

---

[1] Соловьев Г. Эдуард Подаревский,— Юность, 1976

[2] Асобныя вершы Э. Падарэўскага ўвайшлі ў кн.: Имена на поверке. 3-е изд./ Сост. Д. Ковалев.— М.: Мол. гвардия, 1975, с. 216-224.

верце, аднак, зваротны адрас быў інакшы: Растоў-на-Доне... Аказалася, што Віктар Іванавіч на доўгі час выехаў з Валгаграда — паехаў на вучобу ў Інстытут павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў грамадскіх навук пры Растоўскім універсітэце. Лісты мае дайшлі да яго са спазненнем...

Паміж намі завязалася даволі ажыўленая перапіска. Спакваля, адно за другім, усе няясныя пытанні высвятляліся. Паступова гісторыя перакладання «Кургана» набывала свае пэўныя абрысы.

Як паведаміў В. Рагавіцкі, яны з Э. Падарэўскім у ІФЛІ вучыліся на адным курсе. Думка пра пераклад паэмы Я. Купалы «Курган» узнікла ў яго ў сувязі з падрыхтоўкай працоўных падарункаў у гонар XVIII з'езда партыі (1939, сакавік). Паколькі часу да з'езда заставалася няшмат, а ўперадзе, да таго ж, была экзаменацыйная сесія, Рагавіцкі прапанаваў камсоргу курса Падарэўскаму, вядомаму сваімі пораклaдамі з нямецкай паэзіі, перакладчыцкае сааўтарства.

Спачатку яны разам перакладалі адны і тыя ж радкі. Але эфектыўным такі метад не стаў. Тады перакладчыкі пайшлі іншым шляхам: сталі перакладаць розныя раздзелы паэмы, пасля збіраліся і абмяркоўвалі працу кожнага, уносілі папраўкі, часам замянялі цэлыя строфы. Пры гэтым В. Рагавіцкі рабіў для Э. Падарэўскага падрадковы пераклад купалаўскіх строфаў, паколькі той не ведаў беларускай мовы.

Закончыўшы пераклад, яны супаставілі яго з ранейшым перакладам М. Галоднага, унеслі такія-сякія карэктывы і разам з кароткім лістом накіравалі самому Янку Купалу (адрас паэта Э. Падарэўскі даведаўся ў праўленні СП СССР). Адказу доўгі час не было. Тагачасны аспірант ІФЛІ беларускі паэт Алесь Жаўрук, які пабываў у Мінску, расказваў пасля, што пясняр доўгі час дома адсутнічаў, лячыўся ў адным з паўднёвых санаторыяў. Перакладчыкі ж, мяркуючы, што ліст іх дзесьці згубіўся, паслалі песняру яшчэ адзін ліст. Менавіта таму ў сваім адказе Купала і ўжыў слова «лісты».

Адразу пасля атрымання ліста Янкі Купалы ад 13 студзеня 1939 года ў тэкст перакладу былі ўнесены выпраўленні і выпраўлены пераклад зноў паслалі на мінскі адрас песняра. Купала абяцаў пасадзейнічаць у яго публікацыі. Як мы ўжо адзначалі, пераклад увайшоў у кнігу трох паэм Янкі Купалы «Курган», якая выйшла ў свет у 1940 годзе.

Такая гісторыя аднаго з перакладаў «Кургана» на рускую мову. Дарэчы, М. Браўн, пераклад якога з'явіўся пасля вайны і ўваходзіць сёння ў навейшыя рускія выданні Янкі Купалы, улічыў многія з перакладчыцкіх знаходак В. Рагавіцкага і Э. Падарэўскага. Такім чынам, пераклад былых студэнтаў маскоўскага ІФЛІ стаў своеасаблівым

этапам на шляху спасціжэння купалаўскай паэмы рускамоўным чытачом.

Застаецца расказаць пра самога Віктара Іванавіча Рагавіцкага. «Любоў да беларускай паэзіі жыве ўва мне са школьных гадоў,— пісаў ён у адным з першых сваіх лістоў.— У нашай сям'і заўсёды было многа кніг беларускіх пісьменнікаў. Бацька, вопытны выкладчык беларускай літаратуры і мовы, дапамагаў развіваць цікавасць да роднай літаратуры. Беларускую школу я скончыў у Магілёве ў 1936 годзе. і без экзаменаў паступіў на філалагічны факультэт ІФЛІ. У студэнцкія гады я і стаў займацца паэтычным перакладам з беларускай мовы».

Апрача вершаў Купалы, перакладаў творы М. Багдановіча, П. Глебкі, Э. Агняцвет і інш. У снежні 1939 года прыязджаў у Мінск, пазнаёміўся з Янкам Купалам. Другая сустрэча з песняром адбылася ў чэрвені 1940 года ў Маскве, у час Дэкады беларускай літаратуры і мастацтва.

Інстытут давялося канчаць ужо ў першыя дні вайны — 30 чэрвеня 1941 года. Затым — Саратаўскае танкавае вучылішча. Камандзір танка, пасля франтавы камсамольскі работнік, В. Рагавіцкі прайшоў вялікі баявы шлях ад Сталінграда да Берліна. Гэты шлях адзначаны чатырнаццаццю ўрадавымі ўзнагародамі. З арміі дэмабілізаваўся ў званні падпалкоўніка толькі ў 1953 годзе. З таго часу — на навуковай рабоце. У 1975 годзе стаў кандыдатам гістарычных навук. З 1976 года — дацэнт кафедры гісторыі КПСС Валгаградскага інжынерна-будаўнічага інстытута.

Як бачым, вайна, армія, затым чыста навуковая работа не дазволілі В. Рагавіцкаму аддацца цалкам творчай працы, развіць здольнасці перакладчыка. Аднак засталася ў душы Віктара Іванавіча — ой, як гэта адчуваецца нават па лістах! — неспатольная любоў да роднага краю, роднай літаратуры, да творчаці Янкі Купалы.

Няма ніякай пэўнасці, што гэтая любоў раптам зноў не абудзіць жадання прыбраць купалаўскі вершаваны радок у рускамоўныя паэтычныя строі.

## АПОШНІ ЖЫЦЦЁПІС ПЕСНЯРА

Агульнавядома, якое агромністае значэнне маюць для вывучэння, лепшага разумення творчасці пісьменніка яго мемуары. А калі чамусьці адсутнічаюць мемуары, то хаця б звычайныя пісьменніцкія аўтабіяграфіі. Не дзіўна, што такія аўтабіяграфіі нярэдка выдаюцца асобнымі зборнікамі і карыстаюцца ў чытачоў вялікай папулярнасцю.

Сёння нават немагчыма ўявіць, з якой цяжкасцю сутыкнуліся б біёграфы Купалы, калі б у свой час ён — у адказ на просьбу літаратуразнаўца Л. М. Клейнбарта — не пакінуў нам свайго даволі падрабязнага жыццёпісу. Народны ж паэт так ніколі і не сабраўся напісаць больш падрабязных згадак пра сваё жыццё.

Л. М. Клейнбарт са сваёй просьбай звяртаўся да Янкі Купалы ў 1910 годзе і ў 20-я гады. Пра больш позні перыяд у жыцці паэта з «клейнбартаўскіх» крыніц мы, аднак, не даведаемся.

Праўда, некаторыя звесткі пра 30-я гады можна знайсці ў напісанай у 1938 годзе аўтабіяграфіі Купалы, якая захоўваецца зараз у навуковым зборы рукапіснага аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна ў Маскве[1]. (Заўважу, што яна ў Збор твораў Янкі Купалы чамусьці не ўключалася, у беларускім жа перакладзе — не зусім дакладным, з некаторымі неапраўданымі купюрамі — упершыню з'явілася ў зборніку «Пяцьдзесят чатыры дарогі»[2].). Аднак аўтабіяграфія гэта даволі фрагментарная, займае ўсяго тры старонкі машынапісу. Прычым, на ёй няма адзнак аўтарскай праўкі, а гэта значна змяншае яе значэнне як аўтэнтычнай крыніцы.

І вось — яшчэ адна шчаслівая знаходка!

Перада мной машынапісны тэкст самай позняй (з вядомых) аўтабіяграфіі Янкі Купалы. Давайце ўважліва ўчытаемся ў гэту новую для нас «Автобиографию» народнага паэта Беларусі, якая доўгія гады захоўвалася ў рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага:

Родился я 25 июня 1882 года в фольварке Вязынка, быв. Вилейского уезда, недалеко от местечка Радошковичи, где отец мой был «запашником», т. е. обрабатывал землю владельца фольварка, отдавая часть урожая, обычно половину. Отец мой происходил из мещан Игуменского уезда. В молодости своей он имел «чиншевую землю», т. е. бессрочную аренду земли у помещика в фольварке Песочное, около Узды, по помещик прогнал со своей земли всех «чиншевиков» и с тех пор отец со своими братьями вынужден был переходить от помещика к помещику в поисках работы. Таким образом свои детские годы я провел в разных хуторах Борисовского и Минского уезда, скитаясь от аренды к аренде. Грамоте меня учили сначала по-польски при посредстве вольнонаемных бродячих учителей. Но однажды мне попался русский «календарь», на котором написано было «Дозволено цензурой». Впоследствии я вспоминал эту, казавшуюся мне безобидной, надпись

---

[1] Папка 14, адз. зах. 10. Надрукавана аўтабіяграфія ў выданні: Купала Янка. Избранные произведения: В одном томе, с. 17—19.

[2] Пяцьдзесят чатыры дарогі: Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў.— Мн.: Дзяржвыд. БССР, 1963, с. 327-329.

с горькой иронией, по тогда меня заинтересовал русский шрифт, отличный от знакомого мне латинского и с помощью няньки я быстро овладел русской грамотой. Учиться в постоянно действующих школах мне не удалось из-за частых переездов с места на место. Полгода я проучился в Сеиппцком народном училище, пару месяцев в какой-то частной подготовительной школе в Минске, несколько месяцев у репетитора, т. к. отец думал меня отдать в реальное училище. Но жизнь сложилась так, что вместо реального училища я по требованию отца ушел па хозяйство. И только 15-16 лет от роду я па один год окончил народное училище в Беларучах — Минского уезда. Учеба — при всей своей бессистемности — пристрастила меня к книгам, к чтению. И отец, который раньше поругивал меня за недостаточные успехи у бродячих учителей, теперь не мог меня оторвать от книги и вынужден был ругать за то, что я много читаю, пренебрегая своими сельскохозяйственными обязанностями. А читал я действительно много и днем и ночью, при лучине, при костре в ночном, а то и просто при луне. Читал все без разбору, что мог достать, но особенно любил поэзию. На мое счастье у соседа-помещика Чеховича, участника восстания 1863 года, была большая библиотека, к которой я получил доступ. В библиотеке было много прогрессивных книг, которые помогали мне осмыслить политический строй тогдашней царской России и пробуждали недовольство этим строем. Таким образом я и жил до 1902 года, пахал, сеял, рубил дрова и читал книги. Жить на арендованной земле было, конечно, очень тяжело, все доходы от сельского хозяйства уходили на уплату аренды, работы же было по горло.

В 1902 году умер мой отец, и вслед за ним младший брат и две сестры. Хозяйствовать стало еще тяжелее и я через два-три года бросил хозяйство и пошел служить в винокуренный завод помещика. Работа здесь была такая же тяжелая, как и на сельском хозяйстве, так что я, собственно говоря, попал из огня да в полымя. Одним было лучше: в летнее время я мог читать книги. Здесь я прочел много книг из русской классики, в том числе Пушкина, Лермонтова, Некрасова, прочел и Шевченко.

Сам я начал писать в 1904 году. Толчком к тому, чтобы я писал по-белорусски, послужили революционные прокламации, напечатанные на белорусском языке. Первым стихотворением было написано: «Ах ты доля моя, доля», но напечатано первым было не оно, а «Мужик» в минской газете «Северо-Западный край» в 1905 г.

Окружающая меня жизнь безземельных и малоземельных крестьян, бесправие и нищета большинства населения, жестокость и произвол помещика и помещицкого чиновника, новые крестьянские

восстания и долетевшие до меня отзвуки первой русской революции — вот то, что питало мое творчество в то время, что заставляло много работать над стихами. Уже в 1906 г. я послал в Петербург целую пачку своих стихов, которые в конце 1907 года и вышли сборником «Жалейка». Царское правительство немедленно после выхода книги конфисковало весь тираж. С большим трудом ее удалось остоять от конфискации. Второй раз ее конфисковал виленский генерал-губернатор в 1909 г. И только неполадками бюрократического аппарата царской цензуры можно объяснить то обстоятельство, что в содержании книги не могли глубоко разобраться и она дошла до читателей.

После трехлетней почти каторжной работы на винокуренных заводах я уехал в Вильно, где работал библиотекарем в частной библиотеке и сотрудником белорусской газеты «Наша ніва». Тут я почувствовал, как не хватает мне систематических знаний, и уехал в Петербург, где поступил на общеобразовательные курсы Черняева. Учился я на курсах 4 года. Прослушав курсы — я уехал в 1912 г. в Вильно, в редакцию «Нашай нівы», где через некоторое время стал ее редактором. В 1915 году вследствие приближения фронта я уехал как беженец в Москву. Здесь я поступил вольнослушателем в народный университет им. Шанявского. Но в Москве я был недолго и весной 1916 года вернулся в Минск, где работал старшим рабочим в дорожном отряде. С этим отрядом я побывал в Полоцке и Смоленске. Здесь я встретил Февральскую и Октябрьскую революции. Все эти годы были годами моей напряженной учебы и работы над собой. Я, что называется, дорвался до книг и поглощал их в неимоверном количестве. Четыре года, проведенные в Петербурге, и около рода, проведенные в Москве, расширили мой политический кругозор и обострили мою любовь к родной стране. С детства связанный с белорусским народом, с бедностью, с народной песней, которую я всегда любил, с природой Белоруссии,— я посвятил все свое творчество своему народу. И как только территория Белоруссии была освобождена от немецких войск, я уехал в Минск, чтобы уже больше не уезжать из него. Правда, в Минске я пережил проклятой памяти польскую оккупацию и еще больше возненавидел панов-помещиков и оккупантов.

С приходом Советской власти передо мной открылось широчайшее поле деятельности. И если до Советской власти я видел только горе и нужду, то с приходом Советской власти я получил неограниченные возможности работать, общаться со своими читателями, участвовать в жизни народа, в строительстве его светлого будущего. Народ, партия и правительство оценили мою работу. Меня неоднократно избирали в ЦИК БССР, избрали академиком Белорусской и

Украинской Академий наук. В 1925 г. мне было присвоено звание народного поэта республики, а в 1939 г. я удостоился высокой награды — ордена Ленина.

Самыми счастливыми минутами своей жизни я считаю те минуты, когда я, будучи депутатом ЦИК БССР, присутствовал на VII Чрезвычайном съезде Советов и слушал доклад[...] о новой Конституции Советского Союза [...]

Янка Купала[1]

Большасць фактаў, выкладзеных у «Автобиографии», вядомая (дарэчы, адзін з іх не зусім дакладны: Купала вярнуўся з Пецярбурга ў Вільню не ў 1912, а ў 1913 годзе). Аднак ёсць у ёй і новы погляд на ранейшыя падзеі, і больш падрабязная дэталізацыя іх, і новыя факты, не адзначаныя ў аўтабіяграфіі 1938 года. Ды калі б і не было ўсяго гэтага, значэнне дакумента не зменшылася б: перад намі ж тэкст, напісаны рукой самога Янкі Купалы!

Аднак ці нельга даведацца пра гісторыю напісання «Автобиографии»?

Сапраўдную прычыну яе з'яўлення прыадкрывае суправаджальны ліст, пасланы Купалам разам са сваім жыццёпісам акадэміку І. К. Лупалу. У архіўным зборы ліст захоўваецца ў адной папцы з аўтабіяграфіяй:

Глубокоуважаемый Иван Капитонович! Наконец-то посылаю Вам свою автобиографию. Правду говоря, я перед Вами очень виноват, за что чистосердечно каюсь и прошу прощения. Всего Вам, Иван Капитонович, светлого и радостного.

Ваш Янка Купала.
Минск, 25/IV-40 г.[2]

Акадэмік І. К. Лупал (1896-1943) — вядомы савецкі літаратуразнавец, аўтар шматлікіх прац па гісторыі рускай і замежнай літаратур, еўрапейскай грамадска-палітычнай думкі XIX і XX стагоддзяў. Янка Купала быў з ім добра знаёмы, яны сустракаліся некалькі разоў на розных літаратурных урачыстасцях, сходах. У 1935-1940 гадах І. Лупал узначальваў Інстытут сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага. Менавіта ў гэты час узнікла ў яго ідэя калектыўнымі намаганнямі супрацоўнікаў Інстытута стварыць гісторыю савецкай шматнацыянальнай літаратуры. Да буйнейшых прадстаўнікоў усіх нацыянальных савецкіх літаратур ляцяць лісты-просьбы — даслаць свае падрабязныя аўтабіяграфіі. Такі ліст прыйшоў і да Янкі Купалы...

---

[1] Рукапісны аддзел Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, ф. 108, воп. 1, адз. зах. 5.
[2] Там жа.

Датаваць «Автобиографию», зыходзячы з суправаджальнага ліста, можна пачаткам 1940 года (але не пазней 25 красавіка). Надрукавана яна дробным шрыфтом (відаць, на партатыўнай «нестандартнай» машынцы), праз фіялетавую ленту, на вельмі тонкай паперы. Так, дарэчы, друкаваліся і некаторыя іншыя дакументы Янкі Купалы таго часу. У рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага — другі экземпляр машынапісу. Але на ім — некаторыя выпраўленні, унесеныя ад рукі самім аўтарам, і яго ўласнаручны подпіс. Такім чынам, перад намі аўтэнтычны купалаўскі тэкст.

Відавочна, мы маем дачыненне, апрача ўсяго іншага, да апошняй аўтабіяграфіі Янкі Купалы, тэкст якой павінен стаць асноўным пры ўсіх наступных публікацыях уласнаручнага жыццёпісу народнага песняра.

## НАПЯРЭДАДНІ ГРОЗНЫХ ПАДЗЕЙ

У 1941 годзе споўнілася сто гадоў з дня смерці Міхаіла Юр'евіча Лермантава...

Яшчэ ў пачатку 1940 года быў створаны Усесаюзны камітэт па правядзенню лермантаўскага юбілею. Газета «Правда» 21 студзеня 1940 года назвала членаў камітэта, і сярод іх — беларускага песняра Янку Купалу.

Міхаіла Лермантава, як і Аляксандра Пушкіна, Купала лічыў сваім літаратурным настаўнікам. З яго паэзіяй пазнаёміўся ён яшчэ ў раннім дзяцінстве. Не па доўгу службы — па закліку сэрца прыйшоў ён да лермантаўскіх радкоў у свае сталыя гады. Пераклад вершаў аўтара «Дэмана» і «Мцыры» суседнічаў у беларускага паэта з арыгінальнай творчасцю.

Перевожу Лермонтова на белорусский язык,— паведамляў ён на пачатку 1939 года ў анкеце, арганізаванай «Литературной газетой».— Это очень большая, волнующая и нужная народу работа. Пока еще в голове стихи о Шевченко, о замечательном поэте, о большом человеке с яркой и трагической жизнью. Очевидно, скоро я напишу их. Работаю и пад сценарием кинокартины по своей поэме «Над рекой Орессой»[1].

Вось так сышліся разам Лермантаў, Шаўчэнка і сацыялістычная ява беларускай вёскі, а ў творчым плане — праца перакладчыка, codeршапісца і сцэнарыста.

---

[1] Купала Янка. (Ответ на анкету «Творческие планы».) — Лит. газ, 1939, 10 февр.

Наступіў 1941-ы, юбілейны год.

У пачатку года ў Маскве адбыўся пленум Усесаюзнага юбілейнага Лермантаўскага камітэта. На ім прысутнічалі П. Антакольскі, І. Андронікаў (РСФСР), А. Кутуй (Татарская АССР), Г. Плієў (Паўночная Асецiя), Г. Сар'ян (Арменія), Г. Цадаса (Дагестан), А. Шагенцукаў (Кабардзіна-Балкарыя) і інш.

З біяграфічнай літаратуры пра Янку Купалу мы ведаем, што народны паэт Беларусі прымаў удзел у працы пленума Лермантаўскага камітэта. Але які гэта быў удзел — заставалася невядомым. Апрача таго, дата правядзення пленума (28 студзеня), якая фігуруе ў паэтавым «Летапісе жыцця і творчасці» (7, 641) ,— недакладная.

У рукапісным аддзеле Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, у фондзе А. Талстога, удалося адшукаць пратакол пленума Лермантаўскага камітэта, які праходзіў 25 студзеня 1941 года. Аказваецца, Янка Купала не толькі прысутнічаў, але і выступаў на пленуме з паведамленнем пра падрыхтоўку да святкавання лермантаўскага юбілею ў Беларусі. Вось тая частка пратакольнага запісу, якая датычыцца Янкі Купалы:

Тов. Янка Купала сообщает о том, что в Белоруссии создан юбилейный Лермонтовский комитет, но подробного плана работы он представить не может, так как приглашение на пленум он получил в Москве. Тов. Янка Купала сообщает, что в Белоруссии вышла популярная биография Лермонтова на белорусском языке. Печатается однотомник избранных произведений Лермонтова, и по серии «Школьная библиотека» вышла книга «Герой нашего времени». Белорусский Лермонтовский комитет проведет лекции и доклады о жизни и творчестве Лермонтова, организует выставку и в день юбилея проведет торжественный вечер. Подробный план работы белорусского и Лермонтовского комитета будет представлен в ближайшее время в развернутом виде.

Информация принимается к сведению[1].

У маі 1941 года Янка Купала зноў удзельнічае ў пасяджэнні Усесаюзнага Лермантаўскага камітэта. Тады, магчыма, і быў прадстаўлены падрабязны план работы Беларускага Лермантаўскага камітэта. (У архіве пратакол майскага пасяджэння адсутнічае).

Аднак, на вялікі жаль, ажыццявіць гэты план не ўдалося. Не выйшаў у свет аднатомнік твораў Лермантава на беларускай мове. Так ніколі не былі надрукаваны пераклады Купалы з Лермантава. Не ўвасобіліся ў жыццё і многія іншыя задумы.

---

[1] Рукапісны аддзел Інстытута сусветнай літаратуры імя А. М. Горкага, ф. 43, воп. 3.

За месяц да юбілею пачалася вайна.

Праз год пасля юбілею не стала Янкі Купалы.

## СКАРБ
## (Замест заключэння)

З кожным годам усё большы прамежак часу аддзяляе нас ад тых дзён, калі жыў і тварыў геніяльны Янка Купала. За марывам гадоў падчас цяжка ўбачыць вострую актуальнасць, надзённасць, тую ці іншую падзейную абумоўленасць асобных яго твораў. Аднак часавая адлеглэсць разам з тым дазваляе разгледзець многае з таго, што зблізку і не так заўважыш. Сёння шмат выразней, чым калі б там ні было, бачыцца агульначалавечая сутнасць паэзіі Купалы. Надзвычай глыбока заглянуўшы ў душу спачатку прыгнечанага, а затым сацыяльна і нацыянальна разняволенага селяніна-беларуса, ён тым самым стварыў аптымістычную кардыяграму «ачалавечвания» чалавека-працаўніка. Такая кардыяграма набывае асаблівае значэнне ў кантэксце сацыяльнай і нацыянальна-вызваленчай барацьбы, якая вядзецца ў многіх месцах сённяшняй нашай планеты.

Янка Купала паўстае перад намі і як арыгінальны паэт-філосаф, са сваёй канцэпцыяй жыцця, месца і ролі чалавека ў ім. Мы, у прыватнасці, захапляемся канкрэтнымі перыпетыямі, апісанымі ў паэмах «Курган», «Магіла льва», «Бандароўна», драме «Раскіданае гняздо», убіраем у сябе шматлікія думкі, назіранні, эмоцыі, захаваныя ў гэтых творах. І мы, безумоўна, не можам прайсці міма такіх праблем, якія па-свойму ставіў і вырашаў народны пясняр Беларусі, як праблемы дабра і зла, сацыяльнай справядлівасці, жыцця і смерці, даравання і помсты і некаторых іншых. Альбо вазьміце праблему выбару, што так востра ставіцца некаторымі сучаснымі пісьменнікамі (асабліва тымі, якія пішуць пра Вялікую Айчынную вайну). Ці не праглядвае яна яшчэ ў «Кургане» Янкі Купалы? Думаецца, не толькі праглядвае, але і з'яўляецца адной з галоўных праблем гэтай глыбока змястоўнай паэмы.

Янка Купала — неперасўзыдзены знаўца народнага беларускага слова, вялікі майстар слова вершаванага. Прычым, гэта майстэрства ішло хутчэй не ад спецыяльнай вывучкі, «штудзій» тэарэтычных, а ад арганічнай народнасці песняра, ведання ім крыніц народнай моватворчасці, яго агромністага паэтычнага таленту. Аўтар «Жалейкі» прынёс у літаратуру «свой слоўнік, свае звароты, сваю паэтычную музыку проста з сялянскіх глыбінь, з цаліны народнай мова творчасці»

(А. Луначарскі). У той час як Якуб Колас, чэрпаючы з тых самых крыніц, усё ж свядома ці падсвядома кантраляваў асноўныя лексічныя і граматычныя нормы сваёй мовы (настаўніцкая адукацыя не магла не выявіцца і ў гэтым), калі Максім Багдановіч карыстаўся пераважна кніжнай беларускай мовай, то моўная стыхія Янкі Купалы — гэта сінтаксічна гнуткае, лексічна багатае, інтанацыйна выразнае жывое народнае маўленне, якое часта ніяк не ўкладваецца ў пракрустава ложа сучаснай граматыкі. Янка Купала — яскравы прыклад сапраўды народнага паэта, які ўваскрашае ў памяці псіхалагічны тып старажытнага сказіцеля-баяна. І гэты прыклад тым больш знамянальны, што жыў такі баян не ў легендарныя часы «Слова аб палку Ігаравым», а ў XX стагоддзі, у касмічны век. Думаецца, творчасць, сама постаць Купалы з цягам часу будзе прыцягваць штораз большую ўвагу не толькі літаратуразнаўцаў, але і мовазнаўцаў, філосафаў, псіхолагаў.

Мы — сведкі таго, як паэтычнае слова Янкі Купалы жывіць не толькі беларускую, але ў значнай ступені і ўсесаюзную літаратуру. Творчасць беларускага паэта дазваляе часам глыбей зразумець некаторыя працэсы ў гісторыі іншых нацыянальных літаратур, добра «ўпісваецца» ў гэтыя літаратуры. У прыватнасці, яна ў пэўнай ступені запаўняе адно недастаючае ў рускай паэзіі 1900-х гадоў звяно. Як слушна заўважае рускі купалазнавец Р. І. Файнберг, «у рускай літаратуры той пары не было паэта, які, працягваючы справу Някрасава, раскрыў бы знутры свет устрывожанага рэвалюцыяй чалавека з народа. Гэта задача выпала на долю вялікага лірыка, які выступіў у 1905 годзе ад імя зняволенага сялянства Беларусі»[1].

Усё гэта прадвызначае асаблівы падыход да творчай спадчыны народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, да ўсяго, што ім калі-небудзь было сказана, напісана, надрукавана. Бо друкаваная і рукапісная спадчына Купалы — гэта неацэнны духоўны скарб усёй беларускай сацыялістычнай нацыі, усяго савецкага народа. Не дзіўна таму, што шырокая грамадскасць рэспублікі з нязменнай увагай і зацікаўленасцю заўсёды ставілася і ставіцца да выхаду ў свет кожнага новага Збору твораў песняра, успрымае такое выданне як своеасаблівае свята.

Першае, пасля вайны, шасцітомнае выданне, было выпушчана ў 1951-1954 гадах. Другое, таксама шасцітомнае,— у 1961-1963 гадах. І вось перад намі новы, на гэты раз у сямі тамах, Збор твораў народнага песняра, які выходзіў на працягу пяці гадоў (1972-1976).

---

[1] Файнберг Р. Янка Купала,— У кн.: Купала Янка. Избранное. Л.: Сов. писатель, 1973, с. 53.

Усе тры выданні рыхтаваліся Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. У падрыхтоўцы тэкстаў да друку ў апошнім Зборы твораў непасрэдны ўдзел прыняла вялікая група спецыялістаў. Гэта найперш тэкстолагі Р. І. Гульман (т. 1 — Вершы, пераклады 1904-1907 гадоў; т. 6 — Драматызаваныя паэмы, п'есы; т, 7 — Пераклады п'ес, пісьмы), А. Д. Атаева (т. 2 — Вершы, пераклады 1908-1910 гадоў; т. 5 — Паэмы, пераклады паэм), І. П. Чыгрын (т. 4 — Вершы, пераклады 1918-1942 гадоў), У. М. Ларчанка (т. 3 — Вершы, пераклады 1913-1917 гадоў; т. 7 — Публіцыстыка), Э. А. Золава (т. 3 — Вершы 1911-1912 гадоў; т. 7 — Летапіс жыцця і творчасці), Э. С. Гурэвіч (т. 7 — Летапіс жыцця і творчасці). Навуковае кіраўніцтва выданнем ажыццяўлялі акадэмік АН БССР В. В. Барысенка і доктар філалагічных навук, прафесар Ю. С. Пшыркоў. Агульную тэксталагічна-кантрольную працу выканала кандыдат філалагічных навук Р. І. Гульман. Навуковае рэдагаванне асобных тамоў было ўскладзена на В. Барысенку (т. 1, 6), М. Яроша (т. 2), Ю. Пшыркова (т. 3), К. Крапіву (т. 4), М. Мушынскага (т. 5), І. Навуменку (т. 7). У склад рэдакцыйнай калегіі выдання ўвайшлі, апрача ўжо названых Крапівы, Барысенкі, Пшыркова і Навуменкі, пісьменнікі П. Броўка, М. Лынькоў і У. Юрэвіч. Неабходна згадаць тут і выдавецкіх работнікаў, якія мелі самае непасрэднае дачыненне да выдання купалаўскага сямітомніка, а значыць — таксама ўплывалі на яго якасць. Гэта рэдактар Н. Царова, карэктары М. Вячорка і Н. Сілко, мастак І. Харламаў.

Збор твораў любога пісьменніка, а класіка тым больш, — гэта своеасаблівае люстэрка дасягненпяў мацыянальнай тэксталагічнай навукі, яе характару і агульнага ўзроўню. Што датычыць беларускай тэксталогіі, то за пасляваенны час яна дасягнула пэўных поспехаў. Пра гэта сведчыць у цэлым высокі навуковы ўзровень падрыхтоўкі такіх выданняў, як зборы твораў М. Багдановіча ў двух тамах (1968), Кузьмы Чорнага — у васьмі тамах (1972-1975), Якуба Коласа — у чатырнаццаці тамах (1972-1977) і інш. Разам з тым у працэсе падрыхтоўкі паасобных выданняў узніклі і пэўныя складанасці, нявырашаныя праблемы, якія звязаны з устанаўленнем сапраўднага аўтарскага тэксту, перадачай напісання асобных слоў і словазлучэнняў, характарам падачы матэрыялаў і г. д. Некаторыя з гэтых праблем разглядае Р. Гульман у кнізе «Тэксталогія твораў Янкі Купалы» (1971) — першай такой кнізе ў беларускім літаратуразнаўстве. Але шэраг пытанняў чакае свайго адказу да гэтага часу. І значэнне выданняў, накшталт Збору твораў Янкі Купалы, заключаецца, апрача ўсяго іншага, яшчэ і ў тым, што яны рухаюць тэксталагічную навуку ўперад, адкрываюць перад ёй новыя магчымасці і, разам з тым, — ставяць новыя праблемы.

Вартасць Збору твораў Янкі Купалы ў сямі тамах, як і кожнага навуковага збору твораў, абумоўліваецца двума момантамі: паўнатой падачы і якасцю падачы літаратурнага матэрыялу. Калі супаставіць цяперашні сямітомнік з папярэднім шасцітомнікам паэта, то мы ўбачым шэраг твораў, якія не ўваходзілі ў ранейшае выданне, наогул упершыню за ўвесь пасляваенны час з'яўляюцца ў друку. Гэта такія вершы, як «Праз гультайства», «З павяўшай славы», «Свайму народу», «Два светы», «Наш летапісец», «Першы снег», санет «Пчолы» і інш. Упершыню мы можам прачытаць 22 раннія вершы Купалы, якія ён напісаў на польскай мове. У Збор твораў, таксама ўпершыню, уключаны чатыры першыя раздзелы з драмы польскага пісьменніка Ежы Жулаўскага «Эрос і Псіха» ў перакладзе Янкі Купалы (Купала пераклаў усе сем раздзелаў драмы). Намнога паўней, у параўнанні з шасцітомнікам, пададзена публіцыстычная і эпісталярная спадчына класіка роднай літаратуры. Такім чынам, Збор твораў Янкі Купалы ў сямі тамах — самае поўнае з усіх выданняў пісьменніка, якія да гэтага часу выходзілі ў свет.

Адзначаючы і шчыра радуючыся гэтаму, я не магу разам з тым не пашкадаваць, што нават у гэты, трэці па ліку, пасляваенны Збор твораў песняра не ўвайшлі асобныя творы — вершаваныя, драматычныя, публіцыстычныя, пераклады. Сярод іх — некалькі дарэвалюцыйных, магчыма, нават не заўважаных укладальнікамі выдання. Для прыкладу — адзін з іх, верш «З мінуўшых дзён», апублікаваны ў «Нашай ніве» 12(25) лістапада 1909 года.

Перайшло, мінула,
Што калісь жыло,
У курганох заснула,
Зеллем зарасло.
Пад магіл навалай
Дрэмле Русь, Літва —
За тэй тая з хвалай
Легла галава.

Не гудзе ў павазе
Голас вечавы,
Не шукаюць князі
Славы і бітвы.
Войска Усяслава
Не ідзе ў паход,
На той бой крывавы
За свой край, народ.
Сцены і запоры
Палачан, мінчан

Леглі у разоры
Score
Зможаных палян.
Ні святых дуброваў…
Зніч пайшоў з вадой.
Загасціў лад новы,
Ды не той, не свой.
Так прайшло, мінула,
Што калісь жыло,
У курганох заснула,
Зеллем парасло.

Верш мае падзагаловак: «Нашай ніве» ў дзень яе трохлетняй гадаўшчыны». У гэтым падзагалоўку-прысвячэнні — ключ да разгадкі ідэйнай накіраванасці твора, у якім, быццам бы, расказваецца толькі пра даўно мінулае. На самай справе, верш перагукаецца і з актуальнымі тагачаснымі падзеямі, ён напісаны, як кажуць, на «злобу дня». Чытачу варта было прыгадаць, што было тры гады назад, калі пачала выдавацца «Наша ніва» (1906 год, хваля рэвалюцыйнага ўздыму), супаставіць свае згадкі са змрочнай рэальнасцю паслярэвалюцыйнай сталыпінскай рэакцыі, каб усё стала зразумелым. Сапраўды, у 1909 годзе ўжо не гудзеў «у павазе голас вечавы», як у 1906 годзе, не склікаў «на той бой крывавы за свой край, народ». Тое ўжо ў «курганах заснула», «зеллем парасло». Цяпер жа, у час рэакцыі, «пад магіл навалай дрэмле Русь, Літва», бо «загасціў лад новы». Але не спіць, а менавіта «дрэмле» да пары, да часу! Купала верыў, што дрымота пройдзе, народ расплюшчыць вскы, кінецца шукаць «славы і бітвы».

І ён, як вядома, не памыліўся.

Верш «З мінуўшых дзён» напісаны яшчэ да рэвалюцыі. Аднак абсалютная большасць тых твораў, якія не ўвайшлі ў купалаўскі сямітомнік, — гэта творы паслярэвалюцыйнага часу, якія былі апублікаваны ці ў перыёдыцы, ці ў асобных выданнях (Збор твораў у шасці тамах, 1925-1932; Творы, 1918-1928, 1930 і інш.). Зразумела, што тут мы маем справу з найбольш складанымі, а падчас і супярэчлівымі творамі пісьменніка. Як, у прыватнасці, з драмай «Тутэйшыя», вершамі «Паўстань», «Наша гаспадарка», «Новы год», «25.III.1918-25.III.1920», «Каб...», «Акоў паломаных жандар», «Пазвалі вас...», «Ёсць жа яшчэ», цыклам «На вайсковыя матывы» (усе яны друкаваліся ў «Творах» 1930 года), асобнымі артыкуламі перыяду грамадзянскай вайны, вершамі, якія друкаваліся ў 30-я гады. Усяго, па маіх падліках, у апошні Збор твораў Купалы не ўвайшлі, апрача п'есы «Тутэйшыя», семдзесят дзевяць вершаў і вершаваных перакладаў, семдзесят шэсць публіцыстычных артыкулаў і выступленняў, чатыры празаічныя пераклады. Аднак не публікуючы такія творы нават у навуковых зборах твораў, а

праз гэта ў зпачнай ступені — і не даследуючы іх, ці не спрашчаем, ці не прыгладжваем мы тым самым няпросты, нялёгкі, як і ва ўсякага генія, творчы шлях народнага песняра? Ці не даем мы самі ў рукі некаторых буржуазных барздапіспаў так патрэбныя ім факты, каб па прыватнаму выпадку ахайваць усё беларускае савецкае літаратуразнаўства, ашальмоўваць усю рэвалюцыйную творчасць Янкі Купалы? Як першую, так і другую акалічнасці нам абавязкова патрэбна ўлічваць. Гэтага вымагаюць навуковы ўзровень сучаснага літаратуразнаўства, грамадзянская сталасць і шырокі палітычны кругагляд савецкага чалавека — чытача твораў, а таксама патрэбы вострай ідэйнай барацьбы з ворагамі камунізму.

Зрэшты, пры бліжэйшым знаёмстве, канкрэтна-гістарычпым падыходзе да большасці названых (і неназваных) твораў Янкі Купалы, іх аб'ектыўным разглядзе выяўляецца беспадстаўнасць ранейшага нігілістычнага стаўлення да іх. Так, уважліва ўчытаўшыся ў камедыю «Тутэйшыя», Іван Навуменка ўбачыў не толькі пэўную ідэйную абмежаванасць і супярэчлівасць твора, але і тое, што «Купалава камедыя адмаўляе стары, знішчаны рэвалюцыяй свет прымусу, мамы, фальшу, асуджае замежную акупацыю як спробу аднавіць старыя буржуазныя парадкі, заняволіць беларускі народ сацыяльна і нацыянальна»[1]. З І. Навуменкам салідарызуюцца і іншыя даследчыкі[2]. Такога, папартыйнаму аб'ектыўнага, зацікаўленага аналізу чакаюць і іншыя творы Купалы, што не ўвайшлі ў Збор твораў у сямі тамах.

Асобна варта спыніцца на якасці публікацыі твораў. У цэлым выданне ажыццёўлена на высокім тэксталагічным узроўні, які адпавядае вымогай сучаснай савецкай і ўсёй еўрапейскай тэксталагічнай навукі. Зусім правамерна ў якасці аўтэнтычнага тэксту прыняты тэкст твораў, што склалі прыжыццёвы Збор твораў Янкі Купалы ў шаспі тамах (1925-1932). Зразумела, маюцца на ўвазе выпадкі, калі рукапісы твораў па тых ці іншых прычынах адсутнічаюць. Ва ўсіх астатніх выпадках мастацкія творы падаюцца ці па рукапісах, ці па апошніх прыжыццёвых выданнях гэтых твораў. Сама публікацыя тэкстаў, камейтарыі, датаванне, размяшчэнне іх ва ўсім Зборы твораў і ў асобных тамах, ілюстрацыйны матэрыял і ўсё іншае, што вызначае праблему навуковага выдання спадчыны песняра, не выклікае прынцыповых пярэчанняў. Падкрэсліваю: прынцыповых. Аднак заўвагі прыватнага характару, у тым ліку і даволі сур'ёзныя, у мяне ёсць.

---

[1] Навуменка І. Янка Купала: Духоўны воблік героя.— Мн.: Выш. школа, 1967, с. 125—120.
[2] Есакоў Алесь. Янка Купала і Беларускі тэатр.— Мн.: Маст, літ., 1972, с. 118-125; Усікаў Якуб. Беларуская камедыя — Мн.: Маст, літ., 1979, с. 185-199; і інш.

У некаторых выпадках захаваліся не самі рукапісы Янкі Купалы, а іх машынапісныя копіі. Як адносіцца да іх? Ці могуць яны брацца ў разлік як аўтэнтычныя тэксты? Думаецца, кожны такі выпадай трэба разглядаць асобна. Што датычыцца вершаў «Памяці С. Палуяна» і «Шчаслівасць», то, я лічу, іх трэба было публікаваць па машынапісах, якія захоўваюцца ў архіве Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) у Ленінградзе. Разыходжанні паміж гэтымі машынапісамі і публікадыямі твораў датычыцца істотных сэнсавых кампанентаў («Путаў не дайцеся сіле» — «Цёмнай не дайцеся сіле»; «Дайце мне волю і крылле!» — «Дайце мне сонца і крылле!» і г. д.). Не верыцца, каб нейкі перапісчык твораў Купалы сам рабіў іх грамадзянска больш завостранымі. Відавочна, яны былі такімі і ў рукапісе, а пасля, у выніку рэдактарскага ўмяшання ці вымушанай аўтарскай праўкі, пры публікацыі некалькі змянілі свой выгляд.

Усе тэксты зусім слушна публікуюцца паводле нормаў сучаснай беларускай арфаграфіі. Аднак там, дзе гэта арфаграфія змяняе напісанне і гучанне слова настолькі, што парушаецца вершаваны рытм або рыфма, патрэбна пакідаць слова ў яго першапачатковым выглядзе. Часамі гэта правіла парушаецца («Памрока над Польшчай навісла», «Ты мне песню спей, дзяўчына» і інш.). На жаль, нават і сёння, хоць пра гэта гаварылася не раз, «працэс «прыглушэння» купалаўскай рыфмы не спынены... мы зноў сустракаемся з выпадкамі замены на сучасныя канчаткаў роднага склону мужчынскага роду незалежна ад таго, як гэта ўплывае на рыфму паэта»[1].

У заўвагах да чацвёртага тома сказана: «У некаторых вершах, пачынаючы з 1934 г., зроблены купюры». Магчыма, у наш час гэтыя купюры і не трэба было б рабіць. Але калі яны ўжо зроблены, то абавязкова неабходна паказаць хаця б месца гэтых купюр — згодна з патрабаваннямі навуковага выдання. Шматкроп'е тут не выручае: яно можа быць і аўтарскім знакам. Гэта ж, дарэчы, стасуецца і публіцыстычных, эпісталярных твораў Янкі Купалы (т. 7).

Наогул, публікацыя ў Зборы твораў купалаўскай публіцыстычнай і эпісталярнай спадчыны выклікае найбольш нараканняў. Мала таго, што яна не поўная,— сама якасць публікадый не заўсёды адпавядае агульнаму тэксталагічнаму ўзроўню выдання. Узяць хаця б выбар асноўнага тэксту. Каментарый асцярожна папярэджвае, што «пры друкаванні публіцыстычных твораў выкарыстаны матэрыялы папярэдняга Збору твораў Я. Купалы (т. 6, 1963) і зб. «Янка Купала. Публіцыстыка» (Мінск, 1972)». На самай справе, артыкулы, выказванні,

[1] Гульман Р. Тэксталогія твораў Янкі Купалы.— Мн.: Навука і тэхніка, 1971, с. 166.

лісты Янкі Купалы, за рэдкім выключэннем, проста перадрукаваны з названых выданняў. Але ж гэта пярэчыць важным палажэнням тэксталагічнай навукі — публікаваць творы па рукапісах або, калі яны адсутнічаюць, па апошніх прыжыццёвых выданнях твораў.

Зрэшты, само гэта палажэпне патрэбна выкарыстоўваць разумна, улічваючы канкрэтныя ўмовы, час і характар публікацыі твораў у друку. Вось толькі два прыклады. У 1933 годзе Янка Купала выступаў на пленуме арганізацыйнага камітэта СП СССР. Прамова яго друкавалася 17 лютага 1933 года у «Литературной газете» і 20 лютага — у «Звяздзе». Публікацыя «Звязды» — апошняя прыжыццёвая публікацыя, і ўкладальнікі «Публіцыстыкі», а затым і сямітомнага Збору твораў палічылі яе асноўнай. Аднак гэта фармальны падыход да справы. Купала на пленуме ў Маскве знаходзіўся па 19 лютага ўключна і, зразумела, ніяк не мог пракантраляваць звяздоўскую публікацыю, прасачыць яе дакладнасць. Больш таго, нават не ён пераклаў сваю прамову, а нехта з супрацоўнікаў газеты (выступаў ён на пленуме, само сабой зразумела, па-руску). Такім чынам, мы сёння чытаем не арыгінальны купалаўскі тэкст, а нечы пераклад гэтага тэксту (дарэчы, не зусім дакладны і пісьменны).

Тое ж можна сказаць і пра водгук Янкі Купалы на ўзнагароджанне яго ордэнам Леніна ў 1939 годзе. Праўда, у дадзеным выпадку, відавочна, укладальнікі не ведалі асноўны тэкст, таму што ў каментарыях да публікацыі сказана: «Друкуецца па газ. «Літаратура і мастацтва», 1939, 9 лютага, дзе ўпершыню апублікаваны». На самай справе, водгук пад загалоўкам «Как родилась счастливая песня» ўпершыню апублікаваны «Литературной газетой» 5 лютага таго ж года. Публікацыя ў ЛІМе —зноў жа рэдакцыйны пераклад купалаўскага тэксту, прычым, недакладны, з купюрамі і адступленнямі ад арыгінала. Янка Купала з 28 снежня па 8 лютага 1939 года знаходзіўся ў Маскве і, каб і хацеў, не мог аўтарызаваць гэты пераклад.

Праўда, падчас хочаш не хочаш, а даводзіцца змяшчаць не арыгіналы, а пераклады Купалавых твораў. У прыватнасці, гэта адносіцца да выказвання Купалы з выпадку вызвалення Заходняй Беларусі «Вітаю мудрае рашэнне ўрада», вядомае толькі па газеце «Камуніст» (на армянскай мове), артыкула «Культурны прагрэс народаў СССР», змеііЬ чанага перад вайной у літоўскай газеце «Tiesa», і некаторых іншых. У такіх выпадках абавязкова патрэбна ўказваць прозвішча перакладчыка (чаго няма ў Зборы твораў) і змяшчаць творы не побач з аўтарскімі арыгіналамі, а ў «Дадатках». У той жа час арыгінальныя вершы Янкі Купалы на польскай мове дарэчы было б надрукаваць не ў «Дадатках» да першага тома, а побач з беларускімі творамі паэта, як

гэта, зрэшты, зроблепа ў адносінах да яго артыкулаў, напісаных па-руску.

Ігнараванне першакрыніц часамі прыводзіць да недакладнасцей у вызначэнні характару публікацыі. Так, у Зборы твораў друкуецца тэкст, названы «Речь на пленуме СП СССР, посвященном празднованию 750-летия со дня написания поэмы Шота Руставели «Витязь в тигровой шкуре» (7, 282-283). У каментарыях нават сказана: «Друкуецца па газеце «Заря Востока», Тбілісі, 1937, 24 снежня». Але калі б укладальнікі на самай справе звярнуліся да гэтай газеты, то яны ўбачылі б, што друкуюць не прамову Купалы на пленуме, а ўсяго толькі выступление паэта на мітынгу, які адбыўся на Тбіліскім вакзале з выпадку прыбыцця на пленум вялікай групы савецкіх пісьменнікаў. На самім пленуме Янка Купала не выступаў[1].

Трэба сказаць, што гэтыя і некаторыя іншыя недакладнасці і ўпушчэнні абумоўлепы не толькі суб'ектыўнымі прычынамі (напрыклад, недаглядам укладальнікаў Збору твораў), але і пэўнымі аб'ектыўнымі акалічнасцямі. Да гэтага часу мы не маем поўнай бібліяграфіі твораў Янкі Купалы і бібліяграфіі крытычных прац пра Купалу. І першая і другая бібліяграфіі даведзены толькі да 1960 года[2]. Мы дакладна не ведаем, дзе і якія рукапісы песняра знаходзяцца, бо няма каталога ўсіх рукапісаў паэта, што перахоўваюцца ў музеях, архівах краіны і ў розных прыватных асоб. Патрэбна было б не толькі хутчэй скласці і надрукаваць такі каталог, але і выдаць фотатыпічным спосабам, як гэта даўно ўжо робяць рускія і ўкраінцы ў адносінах да сваіх класікаў, хаця б найбольш каштоўнае з рукапіснай спадчыны песняра. Вось тады, апрача ўсяго іншага, літаратурная грамадскасць магла б больш дзейсна кантраляваць працу тэкстолагаў.

Даўно настала пара падрыхтаваць і выдаць падрабязны летапіс жыцця і творчасці Янкі Купалы. Той, што апублікаваны ў канцы Збору твораў, адыгрывае, безумоўна, сваю ролю, аднак яшчэ не можа адказаць і на дзесятую частку пытанняў, якія паўстаюць штодзённа перад купалазнаўцамі. Гэтым у значнай ступені вытлумачваецца і адсутнасць у нашым літаратуразнаўстве падрабязнай, сапраўды навуковай біяграфіі Купалы, а таксама мастацкай біяграфіі, што адпавядала б серыі «ЖЗЛ».

Усё пералічанае, несумненна, аказвае самы непасрэдны ўплыў на паўнату і якасць публікацыі купалаўскіх тэкстаў у Зборы твораў. Самі

---

[1] Гл. пра гэта раздзел «На свяце братніх сэрцаў».

[2] Бібліяграфія твораў Янкі Купалы. Частка 1. 1905-1917,— Мн., 1955; Частка 2. 1917-1942,— Мн., 1957; Частка 3. 1942-1960.— Мн., 1972; Янка Купала ў літаратурнай крытыцы і мастацтвазнаўстве: Бібліяграфія (1908-1960).— Мн.: Навука і тэхніка, 1980.

ж гэтыя тэксты, разам з архіўнымі матэрыяламі, бібліграфіяй, падрабязным летапісам жыцця і творчасці, з'яўляюцца тым падмуркам, на які абапіраецца ўвесь велічны будынак купалазнаўства.

У пастанове СНК БССР і ЦК КП(б)Б ад 4 жніўня 1945 года, у якой вызначаны мерапрыемствы па ўвекавечанню памяці Янкі Купалы, была пастаўлена задача выпусціць у свет акадэмічны Збор твораў песняра. Апошні сямітомнік — важнейшы, найбліжэйшы подступ да поўнага Збору твораў Купалы. У гэтае выданне, несумненна, увойдуць і новыя знаходкі літаратуразнаўцаў, асобныя з якіх і разглядаліся ў гэтай кнізе.

## ПАКАЗАЛЬНІК ІМЁН

Інгарокаў П.
Ісаакян А.

Ісакоўскі М.
Ішанаў К.

Кабржыцкая Т. В.
Каваленка М. А.
Кавалёў Д.
Кальцоў А,
Караваева А.
Караленка У.
Каратаеў М.
Карняйчук А.
Карынфскі А.
Кацюбінскі М.
Кісялёў Г.
Клейн Б. С.
Клейнбарт Л. М.
Колас Я.
Крапіва К.
Крып'якевіч І.
Кутуй А.

Лакснес Х. К.
Ларчанка У. М.
Лахуці Г.
Лейна Э.
Лемеш
Ленін У. І.
Лермантаў М.
Ліс А. С.
Лугаўской У.
Лужанін М.
Луначарскі А. В.
Лупал І. к. 4,
Луцэвіч У. Ф.
Льгалькоў М.
Лявонаў Л.
Ляшко М.

Мазалькоў Я. С.
Маркс К.
Масэнка Т.
Маякоўскі У.
Мешчанінаў І. І.
Міхалкоў С.
Мушынскі М. І.
Мядзёлка П. В.

Назукейка І.
Накаракаў М. Н.
Налівайка А. М.
Новікаў-Прыбой А.
Някрасаў М.
Нячаеў Я.

Пагодзін М.
Падарэўскі Э. А.
Пазняк З.
Палішчук В.
Панізнік С.
Панфёраў Ф.
Паўленка П.
Паўлык М.
Пічэта У. І.
Пліеў Г.
Пля-і-Вельтран
Позняк Т.
Пушкін А.
Пшыркоў Ю. С.

Рагавіцкі В. І.
Рагойша В. П.
Рагоўскі Л. М.
Раманаў Е. Р.
Раманоўская Я. Ю.
Раскова М. М.
Руставелі Ш.
Рыльскі М.

Сагатаў Г.

Салаўёў Г.
Сар'ян Г.
Свянціцкая А.
Свянціцкі І. С.
Серафімовіч А.
Сідко Н.
Сталыпін П. А.
Стаўскі У.
Стафанік В.
Струве. В. Я.
Суркоў А.
Сяльвінскі І.

Талстой А.
Тарашкевіч Б.
Трус П.
Турук Ф. Ф.
Тынянаў Ю.
Тычына П.

Украінка Л.
Уласаў А.
Улашчык М. М.
Уметаліеў Т.
Усікаў Я. К.
Усцінаў І.
Ушакоў М.

Фадзееў А.
Файнберг Р. І.
Федзін К.
Франко І.

Харламаў І.
Хведаровіч М.
Хусаінаў Ш.

Цадаса Г.
Царова Н.
Цётка
Ціханаў М.

Чарквіяні К.
Чарняеў А. С.
Чарот М.
Чорны К.
Чумачэнка А.
Чыгрын І. П.
Чыкавані С.

Шагенцукаў А.
Шагінян М.
Шапавалаў І.
Шарахоўскі І.
Шаўчэнка Т.
Шведар Я. І.
Шчурат В. Г.
Шымкус С.
Шырын-Юрэнеўскі І.
Шэйн П. В.

Эпімах-Шыпіла Б. І.

Эулі С.

Юрэвіч У. М.

Янчук М. А.
Ярош М. Р.

**ЗМЕСТ**